

ЧАСОПІС
БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ
І ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ
ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

# Змест

# ВЫХОЎВАЦЬ ГІСТОРЫЯЙ

**Наш сённяшні «круглы стол» не зусім звычайны, бо ўдзел у ім бяруць не толькі пісьменнікі і гісторыкі, але і аўтары лістоў, што прыходзяць на адрас нашага часопіса і тэлевізійнай праграмы «Спадчына». Слова мы змаглі даць толькі частцы аўтараў, але іх галасы пераканаўча сведчаць, што справа нацыянальнага адраджэння знаходзіць усё большы водгук у сэрцах тых, каму дарагая справа нашай культуры. У «круглым стале» прымаюць удзел дактары гістарычных навук Анатоль Пятровіч Грыцкевіч і Георгій Васільевіч Штыхаў, доктар юрыдычных навук Язэп Аляксандравіч Юхо, пісьменнікі Мікалай Іванавіч Ермаловіч, Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў, Барыс Іванавіч Сачанка, Уладзімір Аляксеевіч Арлоў, Таісія Мікалаеўна Бондар, Вольга Міхайлаўна Іпатава.**

І. ЧЫГРЫНАЎ. Хацелася б за гэтым «сталом» паяднаць гісторыю і літаратуру, засярodзіць увагу на тым, што выпрацоўка новай гістарычнай канцэпцыі, развязванне вузлоў, шмат з якіх дасюль не развязаныя,—без літаратуры немагчымыя. Таксама як і жыццё гістарычнай літаратуры без гісторыі. Перш чым з'явіўся раман Аляксея Талстога, па рускай гісторыі прайшлі Ключэўскі, Салаўёў і іншыя. Мы ж, вывучаючы сваю беларускую гісторыю, прыйшлі да высновы, што не шмат у чым трэба пісаць занава. А для гэтага трэба засярodзіць сілы на адной мэце. Вось гэтая паяднанасць гісторыі і літаратуры, іх неразлучнасць павінна быць зразумета гісторыкамі і літаратарамі. У часопісе «Спадчына» мы і спрабуем паяднаць гісторыкаў і літаратараў. Менавіта таму на яго старонках з'яўляюцца і проза, і артыкулы па гісторыі. Выпрацоўка канцэпцыі самога часопіса — таксама вельмі нялёгкая рэч. Цяпер такі час, калі трэба выхоўваць нацыянальную свядомасць народа, калі трэба разабрацца з гістарычнай спадчынай і зразумець, як нам рухацца далей. Спадзяюся, што наша сумесная праца дасць вынікі, што часопіс паможа ў гэтым. Хочацца, каб ён быў патрэбны і гісторыі, і народу.

В. ІПАТАВА. Вядома, часопіс патрэбны народу. Але мажлівасць пісаць праўду аб нашым мінулым з'явілася нядаўна. Пакуль што напісаць удалося няшмат, бо гістарычная проза патрабуе часу. Праўда, на Украіне пісьменнікі ўсур'ёз і даўно ўзяліся за гісторыю. Як кажуць, там амаль няма пісьменніка, які б не напісаў гістарычны твор. Можа, і ў нас нарэшце з'явіцца моцная гістарычная проза?

Т. БОНДАР. Калі чалавек хоча ўсвядоміць сябе чалавекам, ён павінен перш за ўсё ўсвядоміць, адкуль ён родам, дзе яго́ныя карані. Хто ён, што ён, што было задоўга да яго.

Д. ГАЛУШЧАНКА (Наваполацк). На жаль, мы — людзі без каранёў. Не ведаем свайго мінулага, сваіх продкаў. Вельмі хочацца верыць, што мая «малая радзіма» — не проста закінуты край. Родам я з вёскі Старыца Расонскага раёна, Віцебскай вобласці. Там жылі мае бацькі, дзяды і прадзеды. Непадалёк ад вёскі, на беразе возера Нешчарда, некалі быў хутар Валатоўка. Там цяпер усё здзічэла, але мама помніць, калі палі навокал былі яшчэ чыстыя, і нават цяпер там можна, калі добра ўгледзецца, убачыць невялікія, яўна рукатворныя курганы.

А яшчэ непадалёк ад Нешчарды ёсць напалову закінутыя могілкі. Калісьці там была капліца, а мой дзядуля расказваў, што была там і царква — багатая, хоць і невялікая.

Дзядуля мой, Хведар Данілавіч Маслаў, пражыў доўга, любіў чытаць. Меў шмат старых кніг, царкоўных і свецкіх. Усе яны зніклі ў вайну. Ён казаў, што ў тых кнігах было шмат напісана пра нашы мясціны, а яшчэ казаў, што некалі тут будуць працаваць вучоныя і знойдуць шмат цікавага. Хочацца верыць, што яго мары збудуцца...

У. ПАПОЎ (пенсіянер з Брэста). Я рускі. Жыву ў Беларусі даўно. І мне шкада стары горад у Мінску, Ружанскі замак, касцёл у Воўчыне. Усё гэта развальваецца. А ў Ружанах можна было б размясціць бальніцу ці дом адпачынку — месца надта прыгожае. Ці мала што можна зрабіць. У Воўчыне касцёл вельмі прыгожы, там нават зверху скульптуры. Скажаце — няма грошай? Але на менш патрэбнае — знаходзяцца.

У маіх родных мясцінах, у Заходняй Сібіры, помніцца наша вясковая цэркаўка. Здалёк яе было відаць, і мы, хлопчыкамі, не баяліся заблудзіцца — яна адусюль была арыенцірам. Калі ў 1953 г. я ехаў у адпачынак пасля 9 гадоў службы, усё глядзеў у акно аўтобуса, чакаў, калі пакажацца залаты купал. І якая ж была радасць, калі ўбачыў яго! Бо там жа — вёска, дзе мама, тата, родныя...

Цяпер гэтай царквы няма, яе зламалі. У 1983 г. я ледзь знайшоў тое месца — гэта быў невялікі ўзгорачак, зарослы травой.

Продкі пакінулі нам прыроду, помнікі. А што застанецца пасля нас — вялікі сметнік? Наступныя пакаленні будуць жахацца нашаму часу.

Т. БОНДАР. Кожны пісьменнік рана ці позна пачынае цікавіцца гісторыяй, каб дакрануцца да вытокаў сваёй нацыі. Калі ў першых сваіх кнігах я спрабавала выказаць сябе, свой унутраны свет (хаця ён і вельмі маленькі ў параўнанні з агромністым светам), то пазней гэтага стала не ставаць. Іван Гаўрылавіч гаварыў, што часопіс «Спадчына» хоча заахвоціць гісторыкаў па-новаму пісаць гісторыю. Але тут двухбаковая сувязь: такія часопісы не могуць існаваць без прац гісторыкаў. І наш часопіс «Беларусь» таксама. Пісьменніку, калі ён выходзіць на нейкую гістарычную тэму, збіраецца самастойна ў гэтае плаванне, цяжка — ён павінен корпацца ва ўсім сам. На гэта ідуць гады.

Мы павінны працаваць усе разам. Гісторыкі мусяць дапамагаць пісьменнікам, звяртаць іх увагу на нейкія цікавыя моманты, а пісьменнікі, у сваю чаргу, болей звяртацца да гісторыкаў. Мне, напрыклад, вельмі дапамагаў Мікола Ермаловіч.

М. ЕРМАЛОВІЧ. Зараз прынята гаварыць аб так званых белых плямах у гісторыі. Для нашага беларускага народа фактычна ўся гісторыя ў белых плямах. Здарылася гэта таму, што на працягу многіх стагоддзяў наш народ знаходзіўся пад страшэнным нацыянальным і сацыяльным прыгнётам, рабілася ўсё для таго, каб забіць яго нацыянальную і сацыяльную свядомасць. А забіўшы іх, вельмі лёгка было рабіць з народам і ўсё астатняе.

С. КАРЗЕЙ (дырэктар падлеткавага клуба СПТУ-21 г. Маладзечна). Здароўе нашай беларускай нацыі будзе залежаць ад таго, як мы, беларусы, будзем адносіцца да ўсяго нацыянальнага — мовы, культуры, сімволікі. Яшчэ і цяпер можна прачытаць, што бела-чырвона-белы сцяг трэба забараніць, бо ім карысталіся здраднікі народа. Я лічу, што частку Указа, дзе пра гэта гаворыцца, неабходна ліквідаваць. Але, калі я напісаў пра гэта ў нашу газету «Святло камунізму», дзе за месяц да таго быў змешчаны ліст ветэранаў, якія дружна падтрымлівалі Указ, то не дачакаўся адказу, затое добра даведаўся, што такое «галоснасць і плюралізм думак». Нейкім чынам тэкст майго ліста стаў вядомы на працы, і ў супрацоўнікаў склалася думка, што я заўзяты нацыяналіст.

М. ЕРМАЛОВІЧ. Нашы ворагі, трэба сказаць, дабіліся пэўных поспехаў. Калі мне прыходзілася гаварыць з простымі людзьмі, закрануць якое гістарычнае пытанне, яны казалі: «А, кінь ты! Ніколі не было Беларусі, ніякага беларускага цара не было. Усё гэта з'явілася пасля рэвалюцыі». Гэта простыя людзі. Але гэтак жа недасведчаныя бываюць і адукаваныя людзі. Аднойчы еду ў электрычцы, а побач два маладыя чалавекі. Адчуваецца, любяць гісторыю: у размове гучаць імёны заходнееўрапейскіх, французскіх каралёў, рускіх цароў. Пытаюся: «А Усяслава Чарадзея ведаеце?» — «Не».— А «Слова аб палку Ігаравым» чыталі?» — «Так».— «Дык там жа Усяслаў Чарадзей сем разоў успомнены». Яны задумаліся, пасля кажуць: «Не, мы штосьці такога не прыпамінаем».

Гэта людзі, якія вучыліся ў ВНУ нашай рэспублікі. Але і просты народ, і інтэлігенцыя знаходзяцца на адным узроўні ў веданні ўласнай гісторыі. Такая сітуацыя і прымусіла мяне ўзяцца, хаця сам я літаратуразнаўца, за гэтую праблему і зрабіць крэн у бок гісторыі. Я пачаў вывучаць наша мінулае, пачаў чытаць даследаванні. Але яны мяне не задавальнялі. Усе яны былі напісаны нібы адным чалавекам, пазнейшыя гісторыкі паўтаралі тое, што гаварылі ранейшыя. Калі ж стаў чытаць першакрыніцы, летапісы, я ўбачыў, што нашы гісторыкі проста ўсё пісалі і гаварылі з чужога голасу. Ці то ім не хапала часу, ці што — але яны не зазірнулі ў нашы першакрыніцы, хаця там усё ляжала, як гаворыцца, на паверхні.

Узяць хаця б полацкую гісторыю.

Гэта першая наша славутая старонка, пачатак нашай дзяржаўнасці. Гісторыя Полацкага княства абвяргае звыклы тэзіс, што ў нас не было сваёй дзяржаўнасці да 1919 г. І хаця полацкія летапісы не захаваліся, але тое, што засталося, што мы ведаем, выразна паказвае гэтую бліскучую, слаўную нашу гісторыю.

Гаварылася, напрыклад, што беларускія княствы ў другой палове XII ст. канчаткова знясіліліся ў выніку міжусобнай барацьбы. Калі ж я стаў чытаць летапісы, то ўсё, аказваецца, было наадварот: тады ішоў працэс збліжэння полацкіх зямель, што яскрава выявілася ў час сумеснага паходу ў 1180 г. на Друцк, у іншыя часы.

Асабліва нам не пашанцавала з гісторыяй Вялікага княства Літоўскага, якая ўся аддавалася на карысць толькі літоўскага народа. Існавала канцэпцыя, што літоўская дзяржава, якая ўзнікла дзесьці ў канцы XII, у сярэдзіне XIII ст., карыстаючыся тым, што беларускія землі былі знясіленыя, захапіла іх, у першую чаргу Навагрудак і многія гарады вакол яго... Але ідзе час — і пра гэта трэба пісаць праўду, а не паўтараць старыя канцэпцыі.

В. ІПАТАВА. У гісторыка перш за ўсё павінна быць свая канцэпцыя. Калі гісторык не любіць сваю гісторыю, свой народ, ён ніколі не зможа напісаць праўду пра яго. Ён так і будзе перабіраць летапісы, азірацца на іншых.

М. ВАСІЛЬЧАНКА (Мінск). Апошняя надзея — на наша пакаленне, яго розум і мысленне, інача беларуская мова, культура, а з імі і нацыя знікнуць. Таму трэба куды болей расказваць пра гісторыю Беларусі, пра Вялікае княства Літоўскае, трэба неадкладна абуджаць нацыянальную свядомасць беларусаў. Патрэбны асобны канал тэлебачання для гэтага, болей кніжак, брашур, інфармацыі па ўсіх каналах. Многія беларусы ўжо «робяцца відушчымі», але ёсць тыя, хто ў поўнай «спячцы».

А. КОРЗУН (удава воіна, пенсіянерка). Я карэнная мінчанка і да вайны працавала на фабрыцы індпашыву на Нямізе. Мне вель-

мі дарагі мой родны Мінск, стары горад, яго вуліцы і дамы. Горад у сто разоў быў лепшы за сённяшні новы Мінск, і не метро ў цэнтры варта было б будаваць, а даць болей транспарту на праспект Машэрава. Ды што... Гарвыканком і мінская ўлада ўсё сваё, беларускае аддалі забыццю, а беларускую мову ніколі не ўспаміналі, толькі на дні нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа — ды і тым толькі помнікі паставілі...

А. ГРЫЦКЕВІЧ. Хачу сказаць наконт стэрэатыпаў у гісторыкаў. Ім здаецца, гісторыю можна і трэба пісаць так, як раней. Крок улева або ўправа ўсё яшчэ разглядаецца як уцёкі.

Гісторыя наша вельмі цікавая, гераічная, а мы гэтага нават не ведаем. Мы пісалі ў асноўным пра эканамічную гісторыю, яе хоць трохі вучылі. Вучоныя даследавалі гарады, мястэчкі ў часы капіталізму і феадалізму. Ужо не кажу пра савецкі перыяд — тут таксама шмат чаго ёсць пісаць і даследаваць.

Белыя ж плямы пачынаюцца з самага пачатку нашай гісторыі. Першае пытанне — калі быў пачатак беларускай народнасці і што такое старажытнаруская народнасць? Гісторыкі цяпер задумаліся: ці была гэтая старажытнаруская народнасць? А здавалася ж — такі звыклы тэрмін! Навошта ж было ўбіваць такое ў галовы? Да рэвалюцыі такая тэорыя была патрэбная Расійскай імперыі — «вялікай і непадзельнай», як тады гаварылі. Гэта паўтарылася і ў 30-я, 40-я гады, калі патрэбны быў той жа тэзіс, толькі нібыта з «марксісцкага» пункту гледжання.

Працы М. Ермаловіча, нефармальнага гісторыка, які — можа, на шчасце — не служыў ні ў якой установе, не атрымліваў загадаў, накірункаў, а сам, ад сэрца, прыйшоў да гэтай тэмы, «узарвалі» многія старыя стэрэатыпы.

В. ІПАТАВА. Нагадваць пра белыя плямы можна бясконца. Вось яшчэ: калектывізацыя, 1939 год, Заходняя Беларусь, а раней — устанаўленне Савецкай улады на Беларусі.

А. ГРЫЦКЕВІЧ. Самі гісторыкі аб утварэнні БССР, урадзе Жылуновіча толькі цяпер дазналіся нешта новае. Мы ведалі: 1 студзеня 1919 г. была абвешчана БССР — тут быў пачатак беларускай дзяржаўнасці. А далей — як у падручніках. Дарэчы, падручнікі таксама рабілі сваю справу. Я не хачу сказаць, што ўсё там было дрэнна. Усё ж некаторыя факты, прыведзеныя ў падручніках, давалі магчымасць хоць штосьці ведаць тым, хто цікавіўся гісторыяй. Але складзены яны былі так, як хацелі таго высокія адказныя чыны, якія займаліся іх выданнем. Агульны настрой, які панаваў у гістарыяграфіі, ішоў усё адтуль — з канца 30-х — 40-х гадоў. Так было па ўсёй краіне, так было і ў Беларусі. Яшчэ наконт белых плям. Дасюль многія даследчыкі лічаць, што ВКЛ было выключна літоўскай дзяржавай. Але ж факты сведчаць аб тым, што пануючай культурай там была беларуская, беларускімі былі ў большасці і феадалы; князі літоўскія, якія пераходзілі ў праваслаўе, радніліся з беларусамі і мову беларускую ведалі лепей, чым польскую, аб чым кажуць, дарэчы, і польскія гісторыкі.

У. АРЛОЎ. Тут нашы гісторыкі блытаюць нацыянальны характар дзяржавы з класавай сутнасцю.

В. ІПАТАВА. Калі бываеш у Тракайскім краязнаўчым музеі, бачыш, якое значэнне надаюць нашы суседзі літоўцы помнікам, як разумеюць іх значэнне ў выхаванні нацыянальнай свядомасці народа. Яшчэ сто гадоў назад пачалася рэстаўрацыя замка ў Троках (сучасным Тракаі), яна працягвалася і пасля вайны, хаця і не хапала сродкаў. Але ўрад Літвы гэтыя сродкі знаходзіў. Сёння, як мне расказвалі ў музеі, многія літоўцы-эмігранты называюць Тракай «літоўскай Мекай» і імкнуцца сюды прыехаць.

Застаецца спадзявацца, што замак у нашым Міры некалі таксама стане гэткай жа «беларускай Мекай».

Я. ЮХО. Хаця, калі ўлічваць гістарычную каштоўнасць, спярша трэба было думаць пра замак у Крэве...

А. ГРЫЦКЕВІЧ. Мірскі замак будзе адбудаваны ў наступным стагоддзі.

В. ІПАТАВА. А яшчэ ў кожным літоўскім музеі ярка і даходліва расказваюць пра гісторыю Вялікага княства Літоўскага. Пра князёў Міндоўга, Альгерда, Вітаўта, Грунвальдскую бітву ведае ўсё насельніцтва. Мы ж нібы саромеемся сваёй гісторыі. Калі У. Арлоў напісаў у «Литературной газете» пра нашу агульную непісьменнасць, у рэспубліцы ўспрынялі гэта як абразу.

У. АРЛОЎ. Прафесар А. І. Залескі тут жа напісаў у ЦК КПБ, а не ў рэдакцыю, як звычайна водзіцца ў добрых людзей.

В. ІПАТАВА. У дакументальным фільме Ю. Цвяткова адзін былы сакратар ЦК КПБ расказвае, што на кожны раман У. Караткевіча Адам Іосіфавіч пісаў водгук і накіроўваў яго камісіі ЦК, а калі вывады яе не задавальнялі А. Залескага, то ён пісаў ужо і на камісію. Здаецца, вам і К. Тарасаву трэба толькі радавацца: гэтыя лісты хаця б інфармавалі нашы «вярхі» аб новых гістарычных творах, бо, як мне здаецца, іх проста не чытаюць.

У. АРЛОЎ. У нас на сённяшні дзень няма ні ваеннай гісторыі Беларусі, ні палітычнай гісторыі, няма грунтоўных даследаванняў па гісторыі культуры, па гісторыі уніі (я думаю, мы прыйдзем да таго, што прызнаем: уніяцтва было народнай рэлігіяй беларусаў, як лічылі К. Каліноўскі і М. Багдановіч). Вось і ў Анатоля Пятровіча была навуковая праца з цікавымі падлікамі: аказваецца, уніятамі ў канцы XVIII ст. на Беларусі было 75 працэнтаў насельніцтва, а 6,5 працэнта — праваслаўнымі. Энгельс у сваёй працы «Знешняя палітыка рускага царызму» таксама прызнаваў уніяцтва народнай рэлігіяй беларусаў. Але дасюль унія малюецца толькі чорнымі фарбамі.

Злачыннае адлучэнне народа ад гісторыі адбывалася не толькі даўно, але і ў недалёкія дзесяцігоддзі. Можна нагадаць сумна вядомы пленум ЦК КПБ у красавіку 1974 г., дзе бэсцілі нашых асветнікаў, называлі цемрашаламі Ефрасінню Полацкую, Мялеція Сматрыцкага, Зізанія... Дакладчык, мабыць, не ведаў, што Зізаніяў было двое, абодвух у свой час царква абвясціла ерэтыкамі, а сучасныя невукі залічылі ў цемрашалы. У 1974 г. быў забаронены міжнародны сімпозіум па этнагенезу беларусаў. Каго і чым магло напалохаць абмеркаванне праблем паходжання беларусаў?

Духоўныя спадкаемцы Мураўёва-вешальніка, які загадваў, апроч іншага, знішчаць дакументы па гісторыі беларусаў, дзейнічаюць і сёння. Але ўсё ж праўда перамагае. Летась былі нарэшце надрукаваны «Лісты з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага. Але ягонае 150-годдзе не было адзначана як след. У Гродне, на навуковай каферэнцыі, «падазроным» удзельнікам проста не давалі слова, затыкалі раты як маглі.

Імперскае мысленне, якое зноў запанавала у 30-я гады, усё яшчэ не зжыта. Дасюль ідэалізуюцца палітыка рускага царызму, праваслаўе, адпаведна бэсціцца каталіцызм і унія. Як казаў некалі наш выдатны гісторык М. М. Улашчык, гэтыя разважанні выглядаюць прыкладна так: «Вядома, бога няма, але ўсё роўна наш барадаты праваслаўны бог значна прагрэсіўнейшы за вашага голенага каталіцкага».

Усе гвалтоўныя далучэнні да Расіі аб'яўляюцца ў лепшым выпадку добраахвотнымі, а часам — і ўз'яднаннямі.

Т. БОНДАР. Яшчэ 3 гады назад у тваім матэрыяле знялі сказы пра злачынствы Івана Грознага ў Полацку.

У. АРЛОЎ. Пра тое, што ў час той разні зніклі полацкія летапісы. І горш — замест Грознага ўзнікла імя караля Баторыя. Вось, аказваецца, хто павінен быць вінаваты... Знялі і тое, што Пётр І загадаў у Сафіі зрабіць парахавое сховішча; яно выбухнула, і муры сафійскія былі зруйнаваны.

Стэрэатыпы, замешаныя на імперскім мысленні, засталіся і ў так званым новым школьным падручніку па гісторыі Беларусі, у тым, што з'явіўся сёлета. На вокладцы ранейшага падручніка стаялі 3 прозвішчы — Абэцадарскі, Баранава, Паўлава, на вокладцы «новага» — Баранава, Паўлава, Загарульскі... Разлічваць на карэнны перагляд канцэпцый не даводзіцца... Праўда, сякія-такія змены там ёсць. Напрыклад, з'явілася дата першай згадкі ў летапісах пра Полацк; раней храналогія гэтая пачыналася чамусьці не з самых старадаўніх нашых гарадоў — Полацка, Віцебска, Турава,— а з Бярэсця і Мінска.

З'явіліся імёны Міколы Гусоўскага, Ефрасінні Полацкай — вымаўленыя нехаця, нібы скрозь зубы. Але канцэпцыя засталася тая ж — зноў нападкі на унію, зноў беларусаў паказваюць больш непісьменнымі, чым было на самай справе. Дарэчы, паводле перапісу 1897 г. у беларускіх губернях было 32 працэнты пісьменных (у той жа час М. М. Улашчык лічыць, што гэты паказчык складаў 36 працэнтаў). Сярэднерасійскі ж узровень — 28 працэнтаў. Такім чынам, Беларусь зусім не была самай непісьменнай нацыянальнай ускраінай, як гэта хочуць нам убіць у галаву.

І. ЧЫГРЫНАЎ. У старых падручніках кожны раздзел пачынаўся з імкнення беларусаў далучыцца да Расіі. Што ні раздзел, ні эпоха — усё тое ж.

У. АРЛОЎ. І нас пераканалі, што гэта — самае галоўнае ў нашай гісторыі. У той час як народ жыў сваім жыццём.

І. ЧЫГРЫНАЎ. Так, у яго былі звычайныя жыццёвыя клопаты — выжыць. Пражыць...

У. АРЛОЎ. Былі тут свае эксплуататары, паўстанні, свае ворагі. А ў нас атрымліваецца, што мы вучым гісторыю чужую. На гісторыю Беларусі ў школьнай праграме адведзена 34 гадзіны, гэта па 3 гадзіны ў год. Вынікі засваювання чужой гісторыі мы маем на кожным кроку. К. Тарасаў нядаўна выступаў на пленуме СП і прывёў такія лічбы: у нас у рэспубліцы 58 вуліц і 30 калгасаў носяць імя Суворава, і толькі 8 вуліц і ніводнага калгаса — імя Скарыны. Хто такі Скарына, мы, дзякаваць Богу, ужо нібыта ведаем. Сувораў жа для нас — найперш душыцель паўстання Т. Касцюшкі, ён заліў беларускую зямлю крывёю.

А. ШЫЛА (Мінск). Чаму ў нас так мала паказваюць па тэлебачанню беларускага, цікавага, гістарычнага?

Цяпер мы часта глядзім, чытаем пра сталіншчыну, а чаму не сказаць, па чыіх указаннях, зацвярджэннях і г. д. знішчаюцца помнікі і дарагія беларусам (ды і не толькі беларусам) будынкі, вуліцы і г. д. Вандалаў трэба ведаць у твар, каб, сустрэўшы на вуліцы, спытаць, што ён зрабіў, седзячы на сваім месцы, якую памяць пакіне.

СЯМ'Я СЯРГЕЙЧЫКАЎ (Магілёў). Чыноўніка, які дае згоду на разбурэнне помніка, трэба судзіць публічна, такім не месца ў нашай культуры. Калі будзе так, як раней, то сваёй беларускай культурнай спадчыны ў нас не застанецца — усё будзе чужое, прывознае.

І. ЧЫГРЫНАЎ. На прозвішчы Суворава бачыш яскрава, у якое здрадніцкае ўводзяць нас стэрэатыпы. У кожнага народа ёсць свая гісторыя, яна часам не стасуецца з поглядам на гэта другога народа. Прызнаць гэта мы не хочам.

Б. САЧАНКА. Ніхто не адмаўляе, што Сувораў — выдатны палкаводзец, але праўда і тое, што царызм быў жандарам у Еўропе, а Сувораў быў яго слугой, ён выконваў ролю жандара і ў Расіі — падаўляў паўстанне Пугачова.

Дасюль мы глядзелі на сваю гісторыю вачамі або рускіх, або палякаў, або літоўцаў і ніяк не маглі паглядзець на падзеі, на гістарычную постаць вачамі саміх беларусаў. І трэба сказаць праўду: пакуль што наша беларуская гісторыя яшчэ не напісана. Яе трэба пісаць. Але найперш трэба падняць усе матэрыялы, што захаваліся. Дасюль не падняты архівы, і не ведаю, ці будзе гэта зроблена ў бліжэйшы час.

І. ЛАЗАРЭВІЧ (Светлагорск). У 1962 г. з Крывіцкага касцёла (Мядзельскі раён Мінскай вобласці) вывезлі ўвесь архіў, які вялі там з 1582 г. У ім запісаны ўсе мае продкі, мае і ўсіх маіх землякоў. Ну, а калі справядлівасці ўжо няма і не будзе, парайце, дзе мне пагартаць кнігі рэгістрацыі шлюбу, каб даведацца аб радаводзе Лазарэвічаў. Я раз-

маўляў з ксяндзом крывіцкім, ён сказаў, што да яго звяртаецца шмат людзей, нават з ПНР, але архіва няма.

Б. САЧАНКА. Беларусь — адзіная рэспубліка, дзе няма цалкам гістарычнага часопіса. Дзе друкаваць працы гісторыкаў, дзе яшчэ яны могуць паспрачацца паміж сабой? А без такога часопіса нам будзе вельмі цяжка ўзняць гісторыю. А яна ў нас і гераічная, і трагічная. Калі ўзяць гістарычныя факты... У час шведскай вайны і казацкіх войнаў Беларусь страціла палову свайго насельніцтва. У час вайны 1812 г., потым імперыялістычнай, грамадзянскай — трэць. У час Вялікай Айчыннай — кожнага чацвёртага. А колькі з'ехала! Хто ўцякаў у Сібір, за межы, хто на Украіну, на Дон. У час апошніх войнаў масы беларусаў выехалі. Былі страшная галеча і прыгнёт, і многія пакідалі свае хаты. Сёння каля 3 мільёнаў беларусаў жыве за межамі рэспублікі. Пішучы сваю гісторыю, мы забываемся на тых, хто быў выгнаны, знішчаны, хто да сёння знаходзіцца ў выгнанні ў сілу розных прычын. Яшчэ да Айчыннай вайны ў Сібіры былі беларускія школы. Мы ведаем, што зараз у Карэліі значную частку насельніцтва складаюць беларусы. Шмат беларусаў жыве ў Канадзе, Англіі, Амерыцы, Аўстраліі. Да сёння застаецца нявырашанай праблема: калі будзе напісана сапраўдная беларуская гісторыя, калі народ адчуе сябе народам, калі не толькі мова, але і гістарычнае мінулае будуць яднаць нас? Толькі пасля гэтага мы зможам адчуць сябе народам.

Калі з дзіцячага ўзросту нашы дзеці не стануць ганарыцца продкамі, не зразумеюць усёй веліччы подзвігу народа і таго, што ён перанёс, не адчуюць сябе беларусамі, і калі наша культура не дасць ім гэтага разумення — гэта будзе трагічна.

У. ПРАТАПОПАЎ (дырэктар СШ № 50, г. Гомель). Хачу сказаць пра адносіны да культуры і спадчыны ў нашай рэспубліцы і, у прыватнасці, у Гомелі. У старадаўнім, археалагічна каштоўным месцы, у парку імя Луначарскага, замест таго каб знесці няўдала пабудаваны ў свой час кінатэатр, яго ўзяліся пашыраць. Часткова знішчаны стары раён паміж вуліцамі Ланге і Білецкага. Замест рэгенерацыі старадаўняй вуліцы Пралетарскай плануецца забудова гэтай вуліцы «хмарачосамі».

У Гомелі ўжо болей за паўмільёна жыхароў — і толькі адзін тэатр. Філармонія туліцца без уласнай залы, гэтак жа, як і тэатр лялек. У нас адзін музей, дый той у надта цесных памяшканнях. Выставачная зала — толькі гучная назва, бо нават шмат якія магазіны маюць куды лепшыя ўмовы.

Не мець у буйным абласным цэнтры рэспублікі мастацкага музея, беларускага тэатра, філарманічнай залы, этнаграфічнага музея Палесся? Не мець маладзёжнай газеты, часопіса? Дзіцячага парка?

І. ЧЫГРЫНАЎ. Я ўспамінаю, колькі праляжала ў архівах справа Васіля Вашчылы — болей за 250 гадоў. А гэта ж было такое вялікае паўстанне! І наколькі ўзбагаціліся нашы веды аб часе, падзеях, аб лёсе гэтага паўстання, хаця не захавалася ні песень, ні балад...

У. АРЛОЎ. Праўда, у Крычаве дасюль існуе выраз «вашчылка недарэзаны»...

І. ЧЫГРЫНАЎ. Калі бярэшся за гэткі матэрыял, такое ўражанне, нібы паднімаеш стары карабель, што патануў 300 гадоў назад: трашчаць ланцугі, усё абсыпаецца... А між тым час ідзе, і мы ўжо рыхтуемся адзначаць 300-годдзе з дня нараджэння Вашчылы і 250-годдзе паўстання...

Г. ШТЫХАЎ. Гэта ўсё няпраўда, што да XIV ст. у нас нічога не было, была толькі старажытнаруская народнасць. Але перадумовы фарміравання беларусаў узніклі ў глыбокай старажытнасці. Ёсць грунтоўная тэорыя, створаная маскоўскім даследчыкам прафесарам Сядовым аб субстратным паходжанні беларусаў. Яна грунтуецца на дадзеных археалагаў, што яшчэ ў жалезным веку на тэрыторыі Беларусі былі два этнасы, балты і славяне, і ішло інтэнсіўнае іх змешванне. Вывад быў зроблены такі, што ўжо ў VII—VIII ст. з'явіліся элементы беларускай народнасці. І гэты працэс працягваўся да XIII ст. А што ў XIII ст. ужо былі беларусы, казаў яшчэ Я. Карскі.

Найболыш старажытная дзяржаўнасць на тэрыторыі Беларусі мае тысячагадовую гісторыю. У летапісах дакладна тое занатавана —у Полацкай воласці княжыў Рагвалод, княжыў самастойна. Існавала незалежная дзяржава. Потым яна была нейкі час у залежнасці ад Кіева, але ўсё ж урэшце ўсталявалася свая, полацкая дынастыя. Там было сваё веча.

В. ІПАТАВА. Мы, на жаль, болей ведаем пра наўгародскае веча, чым пра сваё, полацкае.

У. АРЛОЎ. Як і пра Лядовае пабоішча ведаем болей, чым пра Грунвальдскую бітву, хоць лёс Беларусі вырашаўся якраз пад Грунвальдам...

В. ІПАТАВА. Але чаму гэтая тэорыя, якую пацвярджаюць працы і Г. Штыхава, і іншых супрацоўнікаў Інстытута гісторыі АН БССР, так і не ўваходзіць у нашу свядомасць, застаецца толькі вузка навуковай тэорыяй? Яе няма ў музеях, у падручніках.

Г. ШТЫХАЎ. Самае галоўнае — каб яна сапраўды ўвайшла ў падручнікі. Што казаць пра нашы — гісторыя СССР таксама не адлюстроўвае падзей беларускай гісторыі. Там нават Полацкага княства няма як асобнай тэмы. Ёсць Наўгародская зямля, Уладзіміра-Суздальская — але не Полацкая.

І. ЧЫГРЫНАЎ. А калі браць па гадах, то Полацкая зямля была ж першаю, пасля Суздальская, пасля Галіцкая...

Г. ШТЫХАЎ. І нават Полацкая Сафія ў падручніку па гісторыі СССР не названа. Хаця сказана пра Наўгародскую Сафію, пра Кіеўскую Сафію. А дзе ж тады і праілюстраваць гэтую роднасць, гэтую трыеднасць? Было ж іх тры Сафіі... Але не — за межамі Беларусі пра нашу Сафію не ведаюць.

А. КАНАНОВІЧ (г. Ваўкавыск). Як патрэбны нашай моладзі веды пра сапраўдную гісторыю роднай Беларусі! Ды і не толькі моладзі. Мы жыццё пражылі, не ведаючы многіх славутых дзеячаў нашай культуры. Чым жа займаецца цэлы інстытут гісторыі?

А. ГРЫЦКЕВІЧ. Хачу нагадаць пра наш этнагенез. Як нас называюць суседзі прыбалты? «Балтарусія» і «Балткрэва» — значыць, «Крывія».

В. ІПАТАВА. Я добра памятаю, як з вершаў Бічэль-Загнетавай зацята, з нейкай упартай злосцю выкідвалася само гэтае слова «Крывія», быццам у ім была нейкая небяспека...

У. АРЛОЎ. Дарэчы, хачу дапоўніць Г. Штыхава. У падручніках па гісторыі СССР нічога не толькі пра Полацкае княства не гаварылася, там не згадваецца нават Францыск Скарына.

І. ЧЫГРЫНАЎ. Але каму і чаму перашкаджала наша Полацкая Сафія?

М. ЕРМАЛОВІЧ. Бо Сафіі былі перш за ўсё не храмамі, а сімваламі дзяржаўнасці. Дык вось — была дзяржаўнасць кіеўская, наўгародская, а полацкай як бы не было, яна замоўчвалася. Ноўгарад лічыцца як бы пачаткам Велікаросіі, Кіеў — пачатак агульнарускай гісторыі.

У. АРЛОЎ. Дарэчы, летапісы не ведаюць тэрміну Кіеўская Русь. Яго прыдумалі дваранскія гісторыкі.

М. ЕРМАЛОВІЧ. Гэта акадэмічны тэрмін.

Я. ЮХО. Склалася думка, што дзяржаўнасць на Беларусі пачалася недзе ў IX ці X ст. Але гэта недарэчнасць, бо крыніцы (у прыватнасці, летапіс, які пераказвае Тацішчаў) сведчаць, што дзяржаўнасць усходніх славян склалася адначасна з дзяржаўнасцю скіфаў, а ў іх яна існавала ў VII—VIII ст. да н. э. Калі ж паглядзець так званы Іаакімаўскі летапіс (яго ў нас чамусьці адкідваюць, нягледзячы на тое, што Тацішчаў сцвярджае, што летапісец Нестар не ведаў нашай старажытнай гісторыі, а вось свяціцель Іаакім Наўгародскі яе ведаў), дык там напісана, што дзяржавы ўсходніх славян існавалі яшчэ да н. э. Герадот, які апісаў паход персідскага цара Дарыя на скіфаў у 513 г. да н. э., сведчыць аб царах у неўраў і будзінаў, да якіх звярнуліся скіфы па дапамогу. Тэрмін «цары» сустракаўся ўжо ў Герадота. Значыць, у нашых продкаў, неўраў і будзінаў, тады была дзяржава. Гэта першае, з чаго трэба пачынаць вывучаць гісторыю.

Звяртаюся да нашых пісьменнікаў: смялей бярыцеся за пяро. Сёння нашаму народу патрэбны яркая, цікавая гістарычная проза і паэзія. Гісторыкі апелююць да розуму і памяці, пісьменнікі — да сэрца. А разам мы павінны зрабіць усё магчымае дзеля нашага народа.

Матэрыялы «круглага стала» падрыхтавала
**Вольга ІПАТАВА**



**Я. Кулік.** Мірскі замак. З серыі «Помнікі дойлідства Гродзеншчыны». Лінарыт. 1974 г.

# «...До основанья, а затем...»

Колькі дзён хадзіў пад уражаннем тэлеперадачы «Ліра», у якой удзельнічалі нашы вядомыя гісторыкі, пісьменнікі, археолагі, вучоныя-прававеды. Перадача, у адрозненне ад шмат якіх іншых, здалася вельмі кароткай, а як многа паспелі расказаць пра нашу зямлю, пра наш беларускі край дасведчаныя людзі, што маюць акрэсленую пазіцыю ў адносінах да гісторыі і культуры свайго народа.

Як толькі не нішчыліся наша гістарычная памяць і нацыянальная свядомасць! Як толькі не руйнаваліся помнікі беларускай гісторыі і культуры! І як мы толькі яшчэ ацалелі супольнасцю, якая здольная заявіць сёння, што хоча «людзьмі звацца»?! Мы амаль страцілі апошнюю са сваіх нацыянальных прыкмет — мову. Але ёсць надзея, што гэтае «амаль» пакрыху-памалу яшчэ і здолее вывесці цэлы народ, які з прычыны пэўных абставін пачаў здраджваць самому сабе і сваёй гістарычнай памяці, на шлях нацыянальнага адраджэння і росквіту, на шлях успаміну пра сваю годнасць...

Тэрмін, адведзены рэдакцыяй «Спадчыны» на напісанне артыкула пра наша стаўленне да ўласных помнікаў гісторыі і культуры, да гістарычнай памяці, ужо канчаўся, а артыкул не выбудоўваўся ў галаве, таму і не цягнула да стала. І раптам гэтая «Ліра», а ў ёй два сюжэты: мярзота здзічэння і сляды вандалізму на могілках у Навагрудку і адноўлены, дагледжаны замак у Троках з музеем і ўсёй прылеглай да яго гістарычнай тэрыторыяй! І ўсё, як кажуць, стала на свае месцы. Перад вачыма і ў памяці прайшлі малюнкі таго, што і як знішчалася на нашай зямлі нядаўна, даўнавата і даўно. Калі па парадку, то нядаўна з кінагрупай, якая здымала навукова-папулярны дакументальны фільм пра Францыска Скарыну, ездзіў я ў Прагу. Шукалі Скарынавы мясціны і тыя «аб'екты культуры», якія ён мог бачыць, да якіх мог дакранацца, якімі мог карыстацца. Многае знайшлі. На сваім месцы стаіць знакамітая гарадская ратуша, стаяць саборы, вісіць над Влтаваю Карлаў мост, а на ім, як і пяць стагоддзяў таму, стаяць скульптуры, якіх бы нашы атэісты-дураломы не пацярпелі. Знайшлі мы і залатую вулачку на Градчанах, і будынкі на ёй, у якіх жылі і працавалі манахі-алхімікі, якіх не мог не ведаць доктар Скарына. Пабывалі і ў Помніку літаратуры — гэтых дзвюх велізарных залах у старажытным манастыры, запоўненых старадрукамі і рукапіснымі чэшскімі кнігамі. Тут жа, у музейнай частцы Помніка літаратуры, бачылі друкарскі станок часоў Скарыны з усім начыннем кнігавыдавецкай вытворчасці. Паказалі нам і Чэшскую Біблію, так званую «Вульгату», адціснутую ў 1488 г. Менавіта ёю карыстаўся наш першадрукар, перакладаючы Біблію на тагачасную беларускую мову. Паказалі нам і яшчэ больш раннюю рукапісную Чэшскую Біблію. І яе, відаць, трымаў у руках наш асветнік. Далей пагартаць і нам.

Пачуццё незвычайнае. Яго цяжка пераказаць словамі. Яно, відаць, у такіх выпадках у кожнага сваё бывае. Тады ж і падумалася: здаўна ў людзей усё было па-людску, палюдску і засталося. У сябе ж дома мы чытаем у газетах паведамленні, як гінуць старадрукі ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна і ў іншых «сховішчах». І галоўнае, што няма вінаватых...

Пасля Прагі кінагрупа наведала Вітэнберг у Нямеччыне. Пад 1525 г. Скарына пабываў у гэтым горадзе. Відаць, яго цікавіў пратэстанцкі рух у Германіі, а таксама і Вітэнбергскі універсітэт. Той самы, на дзвары якога ідэолаг Рэфармацыі Марцін Лютар спаліў папскую булу і на дзвярах якога вывесіў свае знакамітыя 95 тэзісаў супраць папы рымскага і каталіцкай царквы.

І стаіць аж сёння ў Вітэнбергу універсітэт, і існуюць помнікі вялікаму рэфарматару, і вісяць на тых самых круках тыя самыя дзверы, і не зачынены на капітальны рамонт «Лютэр-хале» — Лютараў музей. І перад усімі войнамі ўстаяў будынак вітэнбергскага магістрата, дзе адбыліся знаёмства і першая сустрэча Скарыны з Лютарам і яго паплечнікам Меланхтонам, нямецкім асветнікам. Больш таго, у ганаровай зале магістрата стаіць той самы стол, за якім сядзеў ці каля якога стаяў Скарына ў час прыёму яго Меланхтонам!

І зноў падумалася: божа літасцівы, што зрабілі з намі, што мы зрабілі самі з сабой, не пакінуўшы ад пяцісотгадовай нашай даўніны, нашай спадчыны ні дробніцы! Амаль нічога з таго, што мог бачыць наш Скарына на сваёй зямлі, мы ўжо ніколі не ўбачым. Адны руіны, адны замчышчы, парослыя бур'яном.

Скажаце — войны? Што было, тое было. Але ж можна і падлічыць, што знішчылі войны, а што — мы самі. І гэта не цяжка зрабіць. У Беларускіх Савецкіх энцыклапедыях мы сарамлівай фразай «помнік не збярогся» пазначылі ўсё, што было зруйнавана за апошнія семдзесят гадоў па рашэнню ўлад і ўстаноў, дзе сядзелі і сядзяць нашы вылучэнцы, што без Бога ў сэрцы і цара ў галаве. Гэта менавіта яны, літаральна разумеючы сакраментальныя словы пра тое, што ўсё трэба «...до основанья, а затем...», абнаўлялі стары свет, пазбаўляючы ўсіх нас святога за душой.



Віцебская Благавешчанская царква XII ст. Узарвана ў 1961 г

У сюжэце з тэлеперадачы «Ліра», на які я ўжо спасылаўся, супрацоўніца Тракайскага замка-музея расказвала Вользе Іпатавай, якая вяла перадачу, што ў Літве больш за сто гадоў не толькі марылі, але і многае зрабілі, каб падрыхтаваць і здзейсніць рэстаўрацыю-адбудову Тракайскага замка, і свайго дасягнулі. Мы ж гэтыя сто гадоў руйнавалі, каб не адстаць ад «старэйшага брата» на шляху да светлай будучыні. І сённяшняя рупнасць наша пра спадчыну выразна праглядаецца праз згнілыя, і не першы раз, рыштаванні на Мірскім замку. І каб жа толькі на Мірскім...

Рэстаўрацыя... Ці не занадта захацелі пры нашай сённяшняй беднасці, скажа нехта. І сапраўды, нам бы сёння хоць руіны, хоць рэшткі зберагчы з таго, што было некалі помнікамі. А там ужо, у неакрэсленым будучым, калі ўзбагацеем ды паразумнеем, можа, яшчэ што і адрэстаўрыруем ці занава пабудуем, як гэта ў цывілізаваных краінах і ў неабыякавых да сваёй культуры людзей робіцца.

А сёння мы ўсё яшчэ маем тое ж разбурэнне і руйнаванне, нібы праклятце якое павісла над нашай зямлёй. Прыклады таму — Верхні горад у Мінску, які нішчаць метрабудаўцы, або стары вакзал у Гродне, які ўжо знішчылі будаўнікі-чыгуначнікі. З бульдозернай упартасцю і тупасцю нішчыцца помнік XVI—XVIII ст.— феадальны замак у Глуску. Непрыступныя бастыёны глускай фартэцыі, што былі непрыступнымі для ворагаў, вымушаны скарыцца перад сваім райвыканкомам. І самае апошняе паведамленне з Ляхавіцкага раёна — там бульдозерамі ссунулі на край поля цэлую групу старажытных курганоў. Фактаў жа варварскага знішчэння курганоў і гарадзішчаў многія дзесяткі. Іх знішчэнне кіраўнікі калгасаў і саўгасаў называюць акультурваннем палёў, на якіх хлеб расце...

Горкі хлеб. Калом у горле становіцца такі хлеб. І ніхто сёння яшчэ не можа сказаць, калі нашы зацюканыя хлебаробы зразумеюць і начальству скажуць, што не хлебам адзіным павінен жыць чалавек на зямлі.

Зацюканы ён і ёсць зацюканы — што з яго возьмеш. Але хто так зацюкаў прадстаўнікоў, скажам, віцебскіх улад, што яны пагадзіліся на разбурэнне павільёна-павеці над раскопкамі старога горада на Віцьбе? Гэты ж натуральны музей знаходзіцца пад вокнамі іх службовых кабінетаў. А яны не толькі дазволілі, але і закамандавалі павільён зламаць, а музей зямлёй засыпаць. Забыліся айцы горада, што музей старажытнага Віцебска мусілі даўно збудаваць, і менавіта над знішчаным раскопам, адпаведна з даўняй пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР.

Вось такая кароткая памяць на ўрадавыя пастановы... Хто ж пасля гэтага будзе паважаць такіх кіраўнікоў, такія пастановы і такі ўрад? Колькі ні здзіўляйся, колькі ні абурайся, колькі ні саромейся зацюканасці «власть предержащих», а традыцыі Герастрата гадамі жывуць у Віцебску і на Віцебшчыне. І каб жа толькі там... Віцебшчыну вылучаю толькі таму, што гэта мой родны край і злачынствы супраць сусветна вядомых помнікаў тут былі ўчынены найцяжэйшыя. Пісалася пра многія. Я ж нагадаю толькі пра адзін — пра віцебскую Благавешчанскую царкву. У 60-я гады гэтую пабудову XII ст., помнік архітэктуры і гісторыі ўсесаюзнага значэння, закамандаваў узарваць тагачасны старшыня аблвыканкома. Можа, і не ведаў небарака, што менавіта ў гэтай царкве вянчаўся князь Аляксандр Неўскі. Але цяжка сабе ўявіць, што сённяшнія старшыні выканкомаў настолькі зацюканыя, што не разумеюць значэння, не ведаюць цаны такому унікальнаму раскопу, які быў зроблены ў Віцебску і колькі гадоў ашчадна зберагаўся.

Калі ж гэта не зацюканасць, то што тады?..

Думаю, што гэта нешта больш страшнае і небяспечнае для культуры народа, чым звычайная недасведчанасць ці неадукаванасць. Я сам быў сведкам віцебскай агрэсіўнасці да помнікаў гісторыі і культуры гадоў трыццаць таму назад. Прыехаў у Віцебск, у камандзіроўку. З раніцы накіраваўся ў абком камсамола. Але каля ратушы вуліца была перакрытая салдатамі, і тыя нікога не прапускалі цераз мост, што павіс над старажытнай Віцьбай. На скрыжаванні вуліц, паабапал ратушы, моўчкі, панура стаялі сотні людзей і глядзелі на паранены вайною, але яшчэ магутны, уражлівых памераў Сабор, што стаяў насупраць былога губернатарскага дома, а цяпер — абкома партыі. З мінуты



Гродзенскі фарны касцёл (Фара Вітаўта). Зруйнаваны ў 1961 г.

на мінуту Сабор павінны былі ўзарваць. Людзі гэта ведалі і зацята маўчалі. Мне ніколі не даводзілася прысутнічаць на такіх ідовішчах, і цікаўнасць засланіла ўсе іншыя пачуцці. Толькі і чакаў, як яно зараз шандарахне. А яно не шандарахнула. І выбух быў нейкі ціхі, глухі, зладзейскі. І друз не ўзляцеў вышэй горада, як таго, відаць, многія чакалі. Сабор толькі неяк здрыгануўся ўсім сваім целам, уздыхнуў і ціха, паволі асеў, запоўніўшы плошчу перад абкомам сухім, даўкім жоўтым пылам. Па натоўпу пракаціўся шорах. Нехта ад нечаканасці ці ад жалю ўскрыкнуў і тут жа змоўк. Старыя ўпотай хрысціліся...

Чаму ж мне не было шкада Сабора? Адказ на гэта прыйшоў ужо намнога пазней. Каму асабіста за гэта дзякаваць сёння, адказаць не так проста. Хутчэй за ўсё ў мяне ўжо быў выпрацаваны імунітэт ад жалю па Святому. Першыя ўрокі гэтай навукі атрымаў у сваёй вёсачцы Пярэвалачня, што на Талачыншчыне. Было мне тады гадоў шэсць. А ў памяць падзея ўрэзалася на ўсё жыццё.

Бацька працаваў калгасным брыгадзірам і атрымаў загад разбурыць Перавалачнянскую царкву. Загад быў строгі і катэгарычны, а ахвотнікаў бурыць царкву, што стаяла ля могілак продкаў, не знаходзілася, хоць бацька і абышоў кожную хату ў вёсцы. Тады ўпаўнаважаны з раёна яшчэ раз пацвердзіў загад, і ўжо пагражаючы Салаўкамі.

Каб разбурыць храм, мусіў бацька лезці на званіцу адзін. У хуткім часе ўпаўнаважаны прывёў яму некалькі памочнікаў. Відаць, ён і ім паабяцаў Салаўкі. Спачатку скінулі звон. Ад удару аб мёрзлую зямлю ён разваліўся на кавалкі, як кволы гаршчок. Потым пачалі рушыць званіцу. Яна ўзвышалася над кронамі старых, магутных ліп. Да званіцы прымыкала сама царква, збудаваная з сасны і абшаляваная, як бы цяпер сказалі, вагонкаю блакітнага колеру. Такая ж блакітная была і званіца. Усё гэтае незвычайнае збудаванне здавалася мне цудам. Але, як ні дзіўна, ганарыўся я зусім не ім, а бацькам, бо ён стаяў на самай верхатуры і разам з іншымі бурыў гэты цуд. Ён быў мацнейшы за яго! І не баяўся ні папоў, ні бога, ні чорта. Салаўкоў, відаць, баяўся... (Цікава, пад якім страхам і перад кім сённяшнія віцебскія кіраўнікі разбурылі і закапалі археалагічны раскоп?)

Любуючыся бацькам знізу і баючыся, каб якой ламачынай не стукнула зверху, я стаў адступаць ад званіцы, напнуўся на нейкі калок, засыпаны снегам, перакуліўся і асеў на яго сонечным спляценнем. Дамоў прынеслі непрытомным. Людзі пасля казалі, што бог пакараў Лявонавага сына за разбураную царкву. (А хто пакарае віцебскіх разбуральнікаў?)

Як і ў Віцебску на выніку дурнога загаду улад, у Пярэвалачні паглядзець апошні раз на царкву сышліся сотні людзей. Як і ў Віцебску, усе зацята маўчалі, а старыя ўпотай хрысціліся. Не было ўгамонку толькі дзецям і падлеткам. Ім ужо не было шкада. Як я цяпер разумею, да разбурэння цудаў і саміх сябе іх рыхтавалі школа і жыццё... Прайшлі гэтую школу жыцця і віцебскія герастраты. І ад таго, што мы будзем іх вінаваціць, яны іншымі ўжо не стануць, бо ўсё жыццё вельмі шчыра вучыліся ў Емяльяна Яраслаўскага і іншых герастратаў XX ст. І разбурыць «до основанья» многае паспелі. Шкада, што на «затем» часу не хапіла.

А мой бацька з разбуранай царквы клуб склаў. Тады мае перавалачнянцы і ўбачылі на адным бервяне лічбы, напісаныя блакітнай фарбай (раней яны былі прыкрыты абшыўкаю), што царкву іх прашчуры пабудавалі ў 1795 г. А я сёння і думаю: а што, як мае землякі пабудавалі яе якраз у гонар далучэння да Расіі? Во далі маху Емяльянавы выхаванцы!..

Мушу прызнацца, што лінію, тэндэнцыю, устаноўку на руйнаванне ўсяго старога, на разбурэнне таго, што складае матэрыяльную аснову нацыянальнай культуры і гісторыю, усвядоміў я не адразу, хоць і даўно. Справа ў тым, што гэта рабілася і робіцца даволі хітра. То квартал старога горада перашкаджае генеральнай планіроўцы — і яго зносяць. То царква ці касцёл замінаюць праклацы роўнай і шырокай вуліцы — і іх узрываюць. То рэстаўрацыя той жа Нямігі ў Мінску ацэньваецца большай сумай, чым новая забудова на яе месцы, і старую Нямігу аддаюць бульдазерыстам. Вось так быў узарваны і першы Мінскі гарадскі тэатр на плошчы Свабоды. Усё, што можна было ўзарваць раней, узарвалі. А будынак тэатра да нядаўняга стаяў, стаяў і недарэчы нагадваў, што і даўней у Мінску жылі зусім не дзікія людзі. У тэатры хадзілі...

А бываюць, так сказаць, і ідэйна-палітычныя матывы руйнавання помнікаў. Неяк напярэдадні стагоддзя з дня нараджэння Блока (я тады працаваў у ЦК КПБ) зайшоў да мяне карэспандэнт «Огонька» і паведаміў, што ў вёсцы Колбы на Піншчыне, дзе паэт служыў у час першай імперыялістычнай вайны, цудам захавалася на могілках драўляная капліца. Тое, што Блок мае адносіны да гэтай капліцы, карэспандэнт пацвердзіў копіяй пісьма паэта да сваёй маці. У пісьме былі вершы і малюнак гэтай капліцы, зроблены рукой паэта. Карэспандэнт прасіў зрабіць захады, каб мясцовыя ўлады дапамаглі школе ў Колбах не толькі стварыць куток Блока, але і рэстаўрыраваць капліцу, дзе паэт адпачываў душой. Менавіта аб гэтым ён пісаў маці.

Будучы ў Пінску, сустрэўся я з першым сакратаром райкома партыі, пераказаў просьбу карэспандэнта і сам да яе далучыўся. А той мне як з пастала: не будзем мы рэстаўрыраваць той капліцы! Пытаюся: чаму? А ён у адказ і на поўным сур'ёзе: каб мужыкі не падумалі, што бальшавікі мяняюць сваё стаўленне да рэлігіі!

А вы, спакойна раю сакратару, спаліце капліцу. Так ужо, маўляў, рабілі многія. І спалім, адказаў той таксама спакойна. Тады я і папрасіў яго ўлічыць, што я не толькі загадчык аддзела ЦК, але і не апошні фельетаніст. Падзейнічала. Стаіць на могілках у Колбах адрэстаўрыраваная капліца. А сакратара таго я не так даўно бачыў у Мінску. Ён цяпер тут на павышэнні, зноў кіруе.

З самых «добрых» і «высакародных» памкненняў група вядучых мінскіх архітэктараў у канцы 70-х гадоў наважылася зруйнаваць Верхні горад у Мінску, як перад гэтым зруйнавала забудову гістарычнай Нямігі. Асноўным матывам вандалаў было жаданне «распахнуть», як яны казалі і пісалі, Цэнтральную плошчу (сёння — Кастрычніцкая плошча) на пойму Свіслачы, зялёную зону, Мінскае возера, а галоўнае — на забудову Паркавай магістралі. Праекты забудовы яе на той час ужо былі абнародаваны. Архітэктары даказвалі, што такой «распахнутой» плошчы яшчэ няма нідзе ў свеце, што гэта будзе нейкая своеасаблівая аглядальная пляцоўка навакольнага характва, якое яны абяцалі стварыць. На месцы зруйнаванага Верхняга горада планавалі збудаваць лесвіцу з фантанамі, «як у Пецяргофе».

Словам, «энтузіясты» здолелі многім замыліць акуляры. Удалося ім пераканаць і Пятра Міронавіча Машэрава. Над гістарычнай рэліквіяй сталіцы навісла смяротэльная небяспека. А архітэктары бесцырымонна прыспешвалі начальства, усімі сродкамі прапагандавалі «праект веку». У той жа час у ЦК КПБ пачалі ісці калектыўныя пісьмы-пратэсты супраць новай разбуральнай акцыі архітэктараў. Гэта нервавала Пятра Міронавіча, але ён не спяшаўся адступіць ад свайго



Будынак Мінскага гарадскога тэатра. Зруйнаваны ў 1984 г.

рашэння знесці Верхні горад. Надзвычай жа прыгожыя былі малюнкі, падрыхтаваныя архітэктарамі. Падтрымалі ідэю замяніць Верхні горад на лесвіцу з фантанамі і многія іншыя кіраўнікі рэспублікі.

Памятаючы віцебскі Сабор і драўляную царкву ў Пярэвалачні, я зрабіў простую рэч. Знайшоў геадэзіста з тэадалітам і папрасіў яго зрабіць «прастрэлы» праз контур-схему Верхняга горада з розных пунктаў плошчы і нават з урадавай трыбуны. Той даволі апаратуйна зрабіў планшэт, а я прынёс яго Пятру Міронавічу, каб паказаць, што можна будзе ўбачыць з плошчы, калі разбурыць Верхні горад. Аказалася, калі гэта зрабіць, то можна будзе бачыць толькі глухую сцяну манастыра, царкву і комін старой кацельні другой клінічнай бальніцы, што па вуліцы Горкага. Акрамя гэтага планшэта, я прынёс Пятру Міронавічу макет адбудовы Верхняга горада, вельмі дакладна і па-майстэрску зроблены групай архітэктараў-энтузіястаў, з апісаннем таго, як адрэстаўрыраваны Верхні горад можа быць выкарыстаны ў культурных мэтах. (Як гэта ні дзіўна, а былі і такія архітэктары.)

Пётр Міронавіч з паўгадзіны моўчкі разглядаў то планшэт, то макет. Курыў адну цыгарэту за другой. А потым толькі і сказаў: «Ну, ладна...»

Іншы раз думаеш: каб мы ўсе менш баяліся за свае галовы і пасады, то многае ўдалося б зберагчы з нашай багатай, але ж не бяздоннай спадчыны.

Будучы членам рэдкалегіі Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, мушу зазначыць, што ў сямі важных кнігах мы зафіксавалі вялікае багацце нашага таленавітага народа. Помнікаў у нас яшчэ шмат, хоць стан многіх з іх крытычны. Будзем жа памятаць, што ў Емяльяна Яраслаўскага засталося не менш выхаванцаў, сыноў, чым у знакамітага лейтэнанта Шміта. І яны яшчэ маюць рэальную магчымасць нанесці нашай культуры непапраўныя страты.

Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ

# Рыжскі мірны дагавор

Драматычнай старонкай упісаны ён у гісторыю Беларусі. 18 сакавіка 1921 г. у Рызе паўнамоцныя прадстаўнікі РСФСР і УССР, з аднаго боку, і Польскай рэспублікі, з другога, падпісалі «окончательный, прочный, почетный и основанный на взаимном соглашении мир», які спыніў кровапралітную вайну.

Мірны трактат з 26 асноўных артыкулаў і 10 дадаткаў, якія тычыліся ўрэгулявання розных сфер пасляваеннага супрацоўніцтва, грунтаваўся ў асноўным на заключаным 12 кастрычніка 1920 г. дагаворы аб перамір'і і прэлімінарных умовах міру. Спатрэбілася 5 месяцаў, каб дыпламаты ўзаемапрымальна вырашылі юрыдычна спрэчныя пытанні.

Ужо 2 гады працягваліся ваенныя дзеянні. Фронт то перамяшчаўся на ўсход, то адкочваўся ад Бярэзіны і Заходняй Дзвіны да Віслы, то зноў рухаўся на ўсход. Спаленыя гарады і вёскі, новыя тысячы загінуўшых у тыле і на фронце, усеагульная разбурэнне і галеча, дашчэнту падарваная прамысловая вытворчасць — вось што пакінула пасля сябе вайна.

Рыжскі мірны дагавор як бы падвёў вынікі ваеннага процiборства Савецкай улады з сіламі, якія не хацелі б змірыцца са зменамі, што адбываліся ў былой Расійскай імперыі. Пачатая Польшчай у лютым 1919 г., без абвяшчэння, вайна — адна з акцый, накіраваных на знішчэнне «бальшавіцкіх парадкаў». Юрыдычнымі суб'ектамі мірнага дагавора з'яўляліся РСФСР, УССР, Польская рэспубліка. На справе ж сюды трэба ўключыць і тыя заходнія дзяржавы — Францыю, Англію, ЗША,— якія забяспечвалі Польшчу зброяй, харчаваннем, крэдытамі, падтрымлівалі дыпламатычнымі і прапагандысцкімі акцыямі, накіроўвалі туды інструктараў.

На змест Рыжскага мірнага дагавора, і ў першую чаргу яго тэрытарыяльных артыкулаў, моцна паўплывалі неспрыяльныя вынікі бітвы на Вісле ў жніўні 1920 г. Няўдачы пад Варшавай У. І. Ленін у адным са сваіх выступленняў у кастрычніку 1920 г. назваў «велізарным паражэннем». Але «яшчэ большым паражэннем», па словах Леніна, для Чырвонай Арміі было адступленне ад Варшавы ў жніўні — кастрычніку 1920 г. Трэба разумець, што Ленін меў на ўвазе не толькі ўнутраны, але і міжнародны ход развіцця падзей. Пасля ўзяцця Варшавы гісторыя Еўропы магла б пайсці іншым шляхам. На занятай Чырвонай Арміяй польскай тэрыторыі ўжо з канца ліпеня 1920 г. дзейнічаў Польскі часовы рэвалюцыйны камітэт на чале з Ю. Мархлеўскім (члены — Ф. Дзяржынскі, Ф. Кон, Э. Прухняк, І. Уншліхт). Па сутнасці, гэта быў часовы польскі ўрад, які процістаяў адміністрацыі Ю. Пілсудскага.

Самым цяжкім для вырашэння на ўсіх стадыях перагавораў было пытанне тэрытарыяльнае. Савецкія прадстаўнікі гаварылі пра неабходнасць паважаць суверэнныя правы нацый. Польскі ж бок не задавальнялі такія прапановы, бо яны прымушалі лічыцца з фактам існавання Беларускай і Украінскай савецкіх рэспублік. Польшча прэтэндавала на тэрыторыі да мяжы Рэчы Паспалітай 1772 г. (прыблізна сённяшняя ўсходняя мяжа БССР).

Патрабаванне РСФСР, каб удзельнікамі мірнага дагавора былі і прадстаўнікі народаў, чыя тэрыторыя стала аб'ектам польскіх дамаганняў, лагічна вынікала з павагі да суверэнных правоў гэтых народаў.

Абвешчаная ў другі раз 31 ліпеня 1920 г. Беларуская Савецкая рэспубліка як самастойная дзяржава зноў набыла міжнародную правасуб'ектнасць. БССР мела права ўдзельнічаць ва ўсіх міжнародных сустрэчах па ўрэгуляванню савецка-польскіх адносін. У дэкларацыі, якая абвяшчала незалежнасць БССР, гаварылася, што канчатковыя межы рэспублікі на захадзе будуць вызначаны ў выніку перагавораў паміж Польскай рэспублікай і БССР.

Польскія дыпламаты прыводзілі доказы штучнага стварэння БССР і прымусовага ўвядзення савецкага ладу на яе тэрыторыі, бо насельніцтва, на іх думку, не мела магчымасці выказаць сваю волю. Адным словам, самастойнасць Беларусі аб'яўлялася не болей чым мясцовым самакіраваннем, да таго ж навязаным РСФСР.

У заяве ВЦВК ад 23 верасня 1920 г. падкрэслівалася, што, зыходзячы з поўнага прызнання прынцыпу самавызначэння, РСФСР «безусловно и без всяких ограничений признала независимость и суверенность Польши, Украины, Белоруссии, Литвы». Такім чынам, асновай дагавора павінна было стаць пацвярджэнне як Польшчай, так і Расіяй незалежнасці названых народаў.

На перагаворах Польшчы хацелася б мець справу толькі з РСФСР. У гэтым выпадку замест размовы пра нацыянальныя правы Беларусі і Украіны ішла бы спрэчка дзвюх дзяржаў з-за зямель Рэчы Паспалітай. І мэтай дагавора стала б аднаўленне «парушанай гістарычнай справядлівасці». У сакрэтнай дырэктыве, якую даў польскай дэлегацыі ў верасні 1920 г. Савет абароны дзяржавы, стаяла стратэгічная задача: дагавор павінен ажыццявіць ідэю заканчэння барацьбы паміж Польшчай і Расіяй за спрэчныя землі...

І ўсё ж такі немагчыма ігнараваць велізарныя змены, якія адбыліся ў сусветным грамадстве з канца XVIII ст. Сама Польская дзяржава адраджалася пад сцягам аднаўлення правоў палякаў на самастойнае існаванне. Паўстала неабходнасць улічваць імкненні народаў да нацыянальнай незалежнасці, да дзяржаўнай самастойнасці. Таму і рабілася, хутчэй для дыпламатычнага лавіравання, агаворка, якая прадугледжвала справядлівае ўрэгуляванне спрэчных нацыянальных пытанняў.

У дагаворы 12 кастрычніка 1920 г. прадстаўнікі РСФСР і УССР аб'ядналіся ў адзіную дэлегацыю, якая дзейнічала ад імя гэтых рэспублік, у складзе А. А. Іофе, С. М. Кірава, Д. З. Мануільскага, А. Л. Абаленскага. Удзельнікам дагавора 18 сакавіка значыцца ўжо і БССР, праўда, ускосна. Яна ўпаўнаважыла РСФСР прадстаўляць яе інтарэсы.

Па невядомых прычынах (магчыма, недагляд) ужо на першым пленарным пасяджэнні ўпаўнаважаных бакоў 17 жніўня 1920 г. савецкія дыпламаты не паставілі пытанне пра непасрэдны ўдзел у перагаворах і БССР. Гаворка ішла толькі пра Украіну, хаця асноўныя баі адбыліся на тэрыторыі Беларусі.

Са спазненнем, але была спроба зрабіць і прадстаўнікоў БССР удзельнікамі перагавораў. 10 верасня 1920 г. Ваенна-Рэвалюцыйны камітэт — найвышэйшы орган улады ў рэспубліцы ў той час — вырашыў выдаць РСФСР мандат на правядзенне мірных перагавораў з Польшчай, і галоўным чынам для вызначэння межаў БССР. Цяжка сказаць, па чыёй ініцыятыве было прынята такое рашэнне. Але праз некалькі дзён нарком замежных спраў РСФСР Г. В. Чычэрын у тэлеграме ў Мінск прыспешваў прыезд у Рыгу беларускіх прадстаўнікоў.

Выехалі А. Р. Чарвякоў і сакратар Ваенрэўкома Беларусі І. Г. Клішэўскі. Але вельмі хутка Чарвякоў вярнуўся ў Мінск расчараваны.

У снежні 1920 г. у час падрыхтоўкі тэксту мірнага дагавора зноў паўстала пытанне пра ўдзел Беларусі ў перагаворах у Рызе. Хутчэй за ўсё ініцыятыва ішла з Мінска. Тады па прамому проваду Г. В. Чычэрын растлумачыў, чаму немэтазгодна самастойнае прадстаўніцтва Беларусі на перагаворах. Па-першае, удзел чацвёртай дзяржавы ўскладніць перагаворы, зацягне іх. Па-другое, надзвычай цяжка пераглядаць склад удзельнікаў, калі ён пасля доўгіх спрэчак быў ужо вызначаны.

17 снежня 1920 г. II Усебеларускі з'езд Саветаў ратыфікаваў дагавор аб перамір'і і прэлімінарных умовах міру, заключаны савецкімі рэспублікамі РСФСР і УССР з Польшчай. Адначасова з'езд пацвердзіў мандат, выданы 10 верасня 1920 г. Ваенрэўкомам БССР ураду РСФСР «на право установления от имени БССР границ, заключения мира и связанных с заключением мира договоров, политических, экономических, об обмене военнопленными и др.».

Пра статус рэспублікі сярод яе кіраўнікоў адзінай думкі не існавала. Як інакш растлумачыць той факт, што III з'езд Кампартыі Беларусі ў лістападзе 1920 г. прызнаў БССР састаўной часткай РСФСР насуперак дэкларацыі ад 31 ліпеня 1920 г., якая абвяшчала незалежнасць Беларусі. Дадаткі да канстытуцыі БССР, прынятыя ў снежні 1920 г., таксама зводзілі рэспубліку да аўтаноміі. Гэтым адсякаўся самастойны ўдзел БССР у заключэнні Рыжскага мірнага дагавора, ды і ўсіх іншых міжнародна-прававых акцыях.

Непасрэдны ўдзел БССР у перагаворах ускладняла і тое, што далёка не ўся этнічная тэрыторыя, дзе беларусы складалі большасць, у той час уваходзіла ў склад рэспублікі. Савецкая Расія заклікала кіравацца прынцыпам самавызначэння, але гэты прынцып не быў паслядоўна рэалізаваны пры самавызначэнні Беларусі. Віцебшчына, Магілёўшчына, Гомельшчына (а гэта больш як трэць тэрыторыі Беларусі) уваходзіла ў склад РСФСР. Польская дыпламатыя не прамінула б разыграць гэтую карту.

У адказ на заклік РСФСР кіравацца правам нацый на самавызначэнне пры ўрэгуляванні міжнародных адносін польскі бок нагадаў пра мірны дагавор Савецкай Расіі з буржуазнай Літвой, паводле якога апошняй была перададзена частка беларускай тэрыторыі, на думку польскіх дыпламатаў, «зусім без прыняцця пад увагу этнаграфічных адносін і без высвятлення волі мясцовага насельніцтва, выключна ва ўгоду дыпламатычным камбінацыям...»

У сувязі з крутым пераломам на фронце ў жніўні 1920 г. на першы план выйшаў фактар ваеннай сілы. І гэта непасрэдна паўплывала на пазіцыі савецкіх дыпламатаў у тэрытарыяльным пытанні. Вось невялікая хроніка.

На другім пленарным пасяджэнні руска-украінска-польскай мірнай канферэнцыі 19 жніўня 1920 г. РСФСР і УССР прапанавалі, каб канчатковая мяжа Польскай рэспублікі ў асноўным супадала з «лініяй Керзана» з адхіленнем на ўсход у раёне Беластока і Холма. Савецкім рэспублікам Польшча павінна была даць магчымасць безумоўна вольнага транзіту людзей і тавараў праз сваю тэрыторыю. А частка жалезнай дарогі Ваўкавыск — Беласток — Граева, якая праходзіла па тэрыторыі Польскай рэспублікі, павінна была застацца «ў поўным уладанні і распараджэнні РСФСР». Акрамя таго, савецкі бок настойваў, каб польскае войска было скарочана на 50 тыс. чалавек, праведзена поўная палітычная і ваенная амністыя і ў заканадаўчым парадку бязвыплатна надзелены зямлёй асобныя катэгорыі грамадзян. Польшча адвергла гэтыя прапановы, спасылаючыся на тое, што яны «навеяны духам імперыялізму», абмяжоўваюць яе суверэнітэт і ставяць Польшчу пад пратэктарат Расіі. Тон адказу польскіх дыпламатаў быў больш зразумелы, што вынікі бітвы на Вісле сталі ўжо вядомыя: пачаўся паспешлівы адыход Чырвонай Арміі.

У заяве ад 23 верасня 1920 г. ВЦВК карэнным чынам перагледзеў першапачатковыя ўмовы заключэння міру з Польшчай. У адносінах тэрытарыяльных спрэчак ВЦВК заявіў, што РСФСР гатова неадкладна падпісаць перамір'е і прызнаць мяжой лінію, што праходзіць значна ўсходней «лініі Керзана». Уступалася ўсходняя Галіцыя. Гэтаму адпавядаў і праект мірнага дагавора, прапанаваны 28 верасня расійска-украінскай дэлегацыяй. У той жа час па закрытых каналах савецкая дэлегацыя атрымала ўказанне У. І. Леніна ў выпадку неабходнасці ісці далей насустрач Польшчы. У тэлеграме ў Рыгу А. А. Іофе настойваў мець «в короткое время перемирие» і «реальную гарантию действительного мира в 10-дневный срок». Прапаноўваліся тэрытарыяльныя ўступкі Польшчы ў Беларусі да лініі рака Шчара, Агінскі канал, рэкі Ясельда і Стыр, г. зн. амаль да Баранавіч.

Тым часам ваенныя абставіны абвастрыліся, і прыйшлося пайсці на яшчэ большыя тэрытарыяльныя страты. Фронт няўмольна на-

бліжаўся да Мінска. Ужо пасля падпісання дагавора горад на кароткі час захапілі польскія войскі.

Урад РСФСР напярэдадні перамір'я ведаў пра цяжкасці, з якімі быў звязаны для Польшчы працяг ваенных дзеянняў. У той жа час вайна і для савецкіх рэспублік магла скончыцца абвастрэннем эканамічнай разрухі і палітычнай напружанасці. Расло дэзерцірства з Чырвонай Арміі, павялічыліся бандытызм, супраціўленне сялян харчразвёрстцы. Савецкая краіна была кроўна зацікаўлена ў заканчэнні вайны. ВЦВК заявіў, што лічыць сваім абавязкам зрабіць усё, каб скончыць кровапраліцце і «пазбегнуць аднолькава цяжкай для абодвух бакоў зімовай кампаніі».

Рыжскі мірны дагавор разрэзаў Беларусь амаль напалам і юрыдычна замацаваў далучэнне да Польшчы ўкраінскіх зямель. Права нацый на самавызначэнне польскім бокам было праігнаравана.

Польскія дыпламаты імкнуліся ўжыць тэрміналогію, якая надала б дагавору «прыстойны» выгляд і лёгка паддавалася б неабходнаму тлумачэнню.

Супярэчліва, напрыклад, гучыць 11 артыкул мірнага дагавора: «Обе договаривающиеся стороны согласно **принципа самоопределения народов** (падкрэслена аўтарам.— В. К.) признают независимость Украины и Белоруссии, а также соглашаются и постановляют, что восточную границу Польши, т. е. границу между Россией, Белоруссией и Украиной, с одной стороны, и Польшей — с другой, составляет линия...» — і далей ідзе на некалькіх старонках пералічэнне населеных пунктаў, рэк і г. д., якія акрэсліваюць савецка-польскую мяжу. Адрыванне Польшчай тэрыторый іншых народаў ніяк не стасавалася з прынцыпам нацыянальнага самавызначэння, які прадугледжвае павагу да тэрыторыі кожнай нацыі. Калі прытрымлівацца сапраўднага сэнсу пунктаў дагавора, то неабходна было б зрабіць вывад, што мяжа паміж Польшчай і Беларуссю праходзіць не на захад ад Брэста, Ваўкавыска, Гродна, а на захад ад Слуцка, Мінска, Полацка.

У дадатак да 11 артыкула мірны дагавор устанавіў правіла, што Расія і Украіна (дзяржава ці нацыя, разумей як хочаш) адмаўляюцца «от всяких прав притязаний на земли, расположенные к западу от границы». І, вядома ж, Польшча адмаўляецца на карысць Украіны і Беларусі ад усякіх правоў і дамаганняў на землі, размешчаныя на ўсход ад гэтай мяжы.

Краіны адмовіліся ад кантрыбуцыі. Але польскі бок спрабаваў дамагчыся яе пад іншай маркай. Польскі міністр замежных спраў Е. Сапега дакараў кіраўніка польскай дэлегацыі на перагаворах у Рызе Я. Домбскага ў тым, што «не выкарыстана сітуацыя для атрымання максімальнай колькасці золата ад бальшавікоў». Паводле мірнага дагавора РСФСР і УССР абавязаліся выплаціць Польшчы 30 мільёнаў рублёў у залатых манетах ці ў злітках як признание «активного участия Польской республики в хозяйственной жизни бывшей Российской империи».

Рыжскі мірны дагавор скасавала другая сусветная вайна. Пасля заканчэння вайны тэрытарыяльныя пытанні з Польшчай былі ўрэгуляваны дагаворам паміж СССР і Польскай Рэспублікай аб савецка-польскай дзяржаўнай мяжы, заключаным у Мінску 16 жніўня 1945 г. Дагавор прызнаў факт уз'яднання заходняй Беларусі з яе ўсходняй часткай.

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ**

# Помнік на Буйніцкім полі

У гісторыю Вялікай Айчыннай вайны гераічнай старонкай увайшла абарона Магілёва ў ліпені 1941 г. Воіны 172-й стралковай дывізіі разам з апалчэнцамі 23 дні мужна абаранялі Магілёў, у тым ліку 16 дзён — у поўным акружэнні. Стрымаўшы значныя сілы фашыстаў, абаронцы Магілёва дазволілі савецкаму камандаванню падцягнуць рэзервы і аказаць жорсткае супраціўленне ворагу каля Смаленска і на Маскоўскім напрамку.

Беларускі фонд культуры выступіў з ініцыятывай узвядзення мемарыяльнага комплексу на месцы асабліва жорсткіх баёў — Буйніцкім полі. Яе падтрымалі ў Цэнтральным Камітэце КПБ і Савеце Міністраў рэспублікі. Абвешчаны рэспубліканскі творчы конкурс на лепшы праект мемарыяла.

З улікам шматлікіх прапаноў жыхароў вобласці і грамадскіх арганізацый, якія жадаюць стаць непасрэднымі ўдзельнікамі ўзвядзення помніка, прынята рашэнне аб зборы народных сродкаў.

У скарбонцы ўжо каля 150 тыс. руб. Патрабуецца ж значна больш. З гэтае прычыны Магілёўскае аддзяленне Беларускага фонду культуры правяло сустрэчу, прысвечаную тэме ўвекавечання памяці герояў. У размове прынялі ўдзел старшыня савета ветэранаў 172-й стралковай дывізіі В. А. Смірноў, член штаба абароны Магілёва ў 1941 г. В. І. Сырамалотаў, удзельнік баёў ля вёскі Гаі І. Ф. Кожаў, першы сакратар Магілёўскага гаркома камсамола П. Ф. Валожын, абласны ваенны камісар К. К. Грошаў, намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкома К. П. Крупенькін, загадчыца сектара лекцыйнай прапаганды абкома ЛКСМБ Л. Л. Дзенісенка, намеснік старшыні абласнога савета ветэранаў вайны і працы М. А. Тоўсцік, старшыня праўлення абласнога аддзялення Фонду культуры Л. Л. Іваноў і адказны сакратар абласнога савета Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Г. С. Рабіннікава.

Публікуем галоўныя тэзы некаторых выступленняў.

**М. Тоўсцік.** Амаль паўстагоддзя прайшло з таго часу, калі гітлераўскія захопнікі 23 дні запар штурмавалі Магілёў. І толькі пасля таго, як у абаронцаў скончыліся боепрыпасы, як вычарпаліся людскія рэсурсы, рэшткі чырвонаармейцаў, сабраныя ў мабільны атрад, ноччу па загаду камандзіра 172-й дывізіі генерала Раманава здзейснілі прарыў з акружэння.

У трагічныя першыя тыдні Вялікай Айчыннай вайны абарона Магілёва не толькі затрымала хуткі рух варожых войск да Масквы, але мела і выключнае маральнае значэнне. Краіна, змучаная несуцяшальнымі зводкамі Саўінфармбюро, атрымала зарад аптымізму, даведаўшыся аб мужнасці абаронцаў Магілёва і ўражальных стратах ворага.

Асабліва жорсткія баі адбыліся на Буйніцкім полі, дзе разам з салдатамі 388-га стралковага палка трымалі абарону і гараджане-апалчэнцы. Прапанова ўславіць мужнасць і патрыятызм савецкіх людзей на прыкладзе Магілёўскай абароны знайшла водгук у сэрцах тысяч людзей.

**Л. Іваноў.** Будаваць мемарыяльны комплекс вырашана на народныя сродкі. Камсамольцы Магілёва даўно гэта прапанавалі і сабралі на будаўніцтва больш за 100 тыс. руб. Многія людзі пажадалі ўдзельнічаць ва ўзвядзенні помніка, прапануюць і свой непасрэдны ўдзел у работах, і свае сродкі.

**К. Грошаў.** Трэба шырэй прапагандаваць гэтую патрыятычную справу і паралельна весці пошук імён палеглых, каб увекавечыць іх памяць. Вялікай дапамогі мы чакаем ад клубаў чырвоных следапытаў у школах. Пакуль жа сітуацыя не лепшая: нам вядомы прозвішчы 28 тысяч загінуўшых салдат, а гэта ўсяго дзесятая частка ад іх агульнай колькасці.

**В. Смірноў.** 12 ліпеня 1941 г. у складзе 388-га стралковага палка я прыняў бой на Буйніцкім полі. Полк амаль цалкам палёг на гэтым месцы. З асабовага складу першага фарміравання 172-й дывізіі, у якую ўваходзіў полк і якая абараняла Магілёў, засталося 72 чалавекі. Пакуль не позна, трэба запісаць успаміны ўсіх жывых сведкаў тых гераічных і трагічных падзей. Па крупінцы збярэцца каштоўны матэрыял. Дарэчы, мала хто ведае лёс 172-й дывізіі. Тройчы яна страчвала ў жорсткіх баях амаль усіх сваіх воінаў і тройчы аднаўлялася. Пасля Магілёва дывізія 250 дзён абараняла Севастопаль, а потым пад яе сцягам новыя байцы гераічна абаранялі Сталінград. Адтуль дывізія дайшла да Берліна.

**В. Сырамалотаў.** У тыя ліпеньскія дні я ўзначальваў абласное ўпраўленне міліцыі і з'яўляўся членам штаба абароны Магілёва. Памятаю, якая жалезная дысцыпліна была ў горадзе дзякуючы армейскаму кіраўніцтву. Генерал Раманаў умела наладзіў абарону. Не было панікі і разгубленасці, хаця праз горад бясконцым патокам ішлі на ўсход бежанцы і ваенныя. Прыводзяць такі факт. Выходзячы з будынка абкома партыі, я ўбачыў, як падкацілі 3 чорныя «эмкі». З адной выйшаў нягоплены, запылены, разгублены, без фуражкі чалавек з маршальскімі знакамі адрознення. Гэта быў, як потым я даведаўся, маршал Шапашнікаў, які з адыходзячымі войскамі трапіў у Магілёў. Можна ўявіць сабе, што рабілася, калі нават маршал не знайшоў часу, каб прывесці сябе ў парадак. Магілёў прасейваў разнародны паток. Падраздзяленні з камандзірамі ішлі далей. Разрозненыя групы фарміраваліся ў атрады і накіроўваліся на рубяжы абароны. Так, у прыватнасці, з курсантаў міліцэйскіх школ Гродна і Мінска быў створаны батальён пад камандаваннем капітана Уладзімірава, які даў гераічны бой гітлераўцам ля вёскі Гаі.

Неяк генерал Раманаў выклікаў мяне і даў загад: «У горадзе дзейнічае пятая калона — пераапранутыя ў савецкую форму нямецкія дыверсанты і ракетчыкі. Загадваю неадкладна іх ліквідаваць». Ужо назаўтра 25 аператыўных груп прачэсвалі Магілёў і ваколіцы. Выявілі больш за 100 ворагаў і знішчылі іх. Памятаю, у раёне сённяшняга мясакамбіната нам сустрэлася падазроная група чырвонаармейцаў. Мы акружылі іх і запатрабавалі дакументы. У адказ — шчыльны аўтаматны агонь нямецкіх дыверсантаў.

У дні абароны не раз узнікалі крытычныя сітуацыі. Фашысты прарваліся ў раёне Быхаўскага рынку і захапілі групу апалчэнцаў. Мы ўдарылі па гітлераўцах, але яны, адыходзячы, расстралялі апалчэнцаў у раёне могілак на Віленскай вуліцы.

Асабліва ўпартыя баі ішлі за аэрадром у Лупалаве, які прыйшлося пакінуць. Фашысты падышлі да маста цераз Днепр, але далей не маглі ступіць ні кроку. Праз гучнагаварыцелі яны крычалі: «Рус, здавайся. Дадзім хлеба і млека, пусцім па дамах». Байцы батальёнаў Максімава і Цярэнцьева (загадчык абласнога аддзела аховы здароўя), роты Вольскага (інспектар дарожнага руху), якія займалі абарону на вале, у адказ адкрывалі агонь. На гарадской ратушы ўвесь час трапятаў на ветры чырвоны сцяг. На жаль, сёння пра баі на вале амаль ніхто не ведае. У часы зацішша на вал прыходзілі людзі, прыносілі ваду і ежу. Усе мужчыны горада ўзялі ў рукі зброю. Як член штаба абароны сведчу, што былі сфарміраваны і прынялі бой 14 батальёнаў апалчэнцаў. Упэўнены, што тут, на вале, трэба ўстанавіць мемарыяльную дошку.

**І. Кожаў.** Я ваяваў у батальёне Уладзімірава, які быў накіраваны пад вёску Гаі. Там мы занялі вышыню і больш за тыдзень не здавалі яе ворагу. Фашысты вялі па нас артылерыйскі агонь. Здавалася, усё жывое было выпалена. Але як толькі гітлераўцы ўздымаліся ў атаку, адразу паказваліся каскі ацалелых байцоў, гучалі вінтовачныя залпы. Задачу мы выканалі, але батальён застаўся на высотцы навечна.

**К. Крупенькін.** Спробы адлюстраваць Магілёўскую абарону сродкамі манументальнай прапаганды рабіліся даўно. Аднак вельмі пажадана, каб стваральнікі праектаў не сталі на шлях паўтарэння, не прапанавалі нешта ўжо знаёмае па іншых мемарыялах.

Матэрыялы сустрэчы падрыхтаваў
**Віктар ЮШКЕВІЧ**

**Працягваем друкаванне спадчыны Янкі Купалы — яго публіцыстыкі 1919—1920 гг.,— пачатае ў № 1 нашага часопіса. Нагадваем, што гэтыя артыкулы не перавыдаваліся з часоў іх першай публікацыі, і спадзяёмся, што яны зоймуць належнае месца сярод іншых твораў Купалы.**

Янка КУПАЛА

# Беларускае войска

Надовечы Беларуская Вайсковая Камісія пачала ў нас у Менску рэгістрацыю беларусаў-афіцэраў, дактароў і інш. з тэй прычыны, што ў хуткім часе мае фармавацца беларуская армія.

З гэтага бачым, што войска беларускае будзе, хоць яно павінна было ўжо даўно быць.

Мы бачым, што нашы суседнія дзяржавы, як Украіна, Літва, Латвія, Эстонія і іншыя, маюць ужо сваю армію. Гэтыя арміі ўжо змагаюцца за незалежнасць сваіх дзяржаваў, змагаюцца стойка і з верай у лепшую будучыну.

А мы, беларусы,— праўда, дзякуючы гістарычным і геаграфічным варункам нашай бацькаўшчыны,— мы нічога дагэтуль не змаглі зрабіць, каб мець сваё войска, якое бараніла б нашы межы ад чужой навалы.

Калі, пасля падзелу Польшчы, Беларусь адышла к Маскоўшчыне, беларусаў гналі ваяваць, хоць аб беларускім войску ніхто не адважыўся і падумаць.

Дэспатычная Расія царскага ўраду адрывала нашых дзяцюкоў ад родных хат, ад родных матак і гнала ў далёкі свет, у чужыну, на здзек і знявагу, для павялічання магутнасці маскоўскага самадзяржаўнага цара.

Ішлі беларускія сыны за Урал, ішлі ў фінскія балоты, ішлі пад Царград у Турэччыну і пралівалі там рэкамі сваю бязвінную кроў, складалі свае буйныя галовы пад чужым пяском. Сеялі свае спрацаваныя косці на полі чужацкім.

Гібнулі, не ведаючы, за што і за каго гібнуць.

Яшчэ і цяпер старыя людзі вам раскажуць аб тых спакрыўджаных і спакутаваных старцах, якія ўсё жыццё сваё загубілі пад вечнымі палкамі палачнага цара Мікалая I.

Нават рэвалюцыя 1905 году не змагла адваяваць калі не нацыянальнага беларускага войска, то хоць бы тое, каб беларус адбываў вайсковую павіннасць у Беларусі. Таксама, як пры Мікалаях першых дзяцей беларускай зямлі гналі за трыдзесяць зямель служыць царам і іх генералам.

І беларус маўчаў, пазіраў сумным вокам і чакаў...

Чакаў і прычакаў... 1917 году.

Бухнула ў Расіі рэвалюцыя. Рынуў царскі пасад. Пасняліся воклічы ўсялякіх свабод і «незалежнасцей». Загаманілі аб федэрацыі вызваленых з царскага рабства народаў.

І вось рэвалюцыйны, дабальшавіцкі ўрад у Расіі змушаны быў пазволіць фармаванне нацыянальных войск.

Стварылася ў той час польская армія, узышоўшы на зямлю польскую, стварыла пакладзіны для цяперашняй польскай арміі. На Украіне таксама паўстала ўкраінскае войска, каторае, перайшоўшы розныя цяжкія варункі свайго бытавання, сягоння змагаецца за незалежнасць Украіны з маскоўскім наездам — з бальшавікамі і дзяінікінцамі.

Былі спробы тады стварыць і беларускую армію. І яна была. На ўсім тагачасным расійска-нямецкім фронце былі беларускія палкі, дывізіі і г. д. Але што ж? Армія гэта складалася з беларусаў, але ваяваць ёй загадвалі не за Беларусь, а за Расію. Генералы Керанскага іначай на гэта не глядзелі.

А калі бальшавікі ўзялі верх, то па-самадзяржаўнаму расправіліся з усімі нацыянальнымі арміямі і з усякімі незалежнасцямі.

Беларускага войска не стала. Пачалася ізноў тая самая вакханалія з высылкамі пад грозьбай штыка і нагайкі нашых людзей на Мурман, пад Урал і г. д., як і за даўных царскіх часаў.

У адказ на гэта беларуская моладзь пайшла ў «зялёную армію». Яна інстынктыўна, обмацкам даходзіла да тэй свядомасці аб патрэбе свайго беларускага войска.

Само жыццё гэтага вымагае, вымагае гэтага самаабарона.

Войска беларускае павінна быць, і яно будзе.

Тыя, што трымаюць сягоння ў сваіх руках уладу над часцінай нашага краю, павінны зразумець, якая небяспека набліжаецца з боку паўстаючай рэакцыйнай Расіі. Цяперашнія пабеды дзянікінаў, калчакоў, юдэнічаў над бальшавікамі — гэта васкрашаючы труп расійскага самаўласця.

Польшча, каторая ў сваім часе кінула кліч: «за вашу і нашу волю», каторая і цяпер кажа суседнім народам, што хоча з імі жыць «як вольны з вольным, роўны з роўным», гэта Польшча павінна даць беларусам магчымасць бараніць свае граніцы слупы войскам беларускім.

Мы не будзем забягаць наперад у будучыну і варажыць, якімі шляхамі пойдзе гэта справа. Час і жыццё грамадзянска-палітычнае пакажуць гэта.

Мы толькі вітаем радасную вестку і жадаем ад душы, каб як найхутчэй сыны беларускія самі сталі пад сваім беларускім сцягам бараніць вольную і незалежную Беларусь.

К-а.

Газ. «Беларусь», № 6 (33),
26 кастрычніка 1919 г.

# Моладзь ідзе!

Успамінаюцца страшэнна цяжкія варункі працы на беларускай вызваленчай ніве ў часе панавання ў нашым краі расійска-царскага самаўласця.

Не гаворачы ўжо аб гэтым панаванні да 1905 г., але нават і пасля рэвалюцыі гэтага году здзек вісеў над усім чыста, што светлае, вольнае, беларускае, і душылася кожнае праяўленне беларускай нацыянальнай самабытнасці.

Помніцца, калі ў рэдакцыю ў тым часе адзінай беларускай часопісі «Наша Ніва» ўрываліся жандармы і «ахраннікі», здзекаваліся над людзьмі, працуючымі там, забіралі рукапісы і ўрэшце цягнулі ў вастрог у нічым невіноўных людзей.

І гэтыя людзі мучыліся, працавалі, аддавалі ўсё сваё найлепшае здароўе, жыццё за беларускае вольнае слова, за беларускую святую справу.

Жылі — як і дзе папала ў падвалах, халодныя і галодныя, нажывалі сабе сухоты і іншыя галодныя-халодныя хваробы і да самае смерці не складалі аружжа барацьбы за беларускую незалежнасць.

Жылі і ўміралі на стражы беларушчыны. Памёр М. Багдановіч, Цётка, Іван Луцкевіч і шмат інш. Памерлі яны, палаючы де апошніх скону хвілін вялікай святой ідэяй.

І вось праца гэтых людзей, праца ў страшэнна пякельных варунках, калі кожнае жывое беларускае слова расійскі ўрад лічыў праступствам, так што нават начальнікі «вучэбных» вокругаў рассылалі цыркуляры, каб барані Божа народныя настаўнікі не чыталі беларускай газэты «Наша Ніва»,— гэта праца лепшых беларускіх людзей над паднящем свае роднае культуры не была дарэмнай.

Калі параўняць часы беларускага нацыянальнага руху ў перыядзе 1905—1917 гадоў і часы пасля расійскай рэвалюцыі 1917 году, дык гэта адно да другога не падобна, як зямля да неба.

Але гэта адначасне паказвае, як кінутае здаровае зерне дарма не прападае.

Тое, што рабілася ў нас адкрыта ў годы да рэвалюцыі 1917 году, вылілася шырокай хваляй пасля гэтае рэвалюцыі.

Сягодня кожны, каму не атуманіла расійская і польская рэакцыя мазгоў, адчуе і разумее, які шырокі размах прыняла наша справа над адбудаваннем сваёй незалежнай бацькаўшчыны!

Цяпер, браты, ідуць сыны беларускіх мужыкоў, ідзе наша беларуская моладзь!

Сягодня ў нас творыцца армія, творыцца рукамі гэтай самай гарачай беларускай моладзі, ствараюцца па гарадах, мястэчках і вёсках беларускія нацыянальныя камітэты, усё рукамі той жа самай беларускай моладзі; нацыянальнае беларускае жыццё пачынае кіпець, палаць праўдзівым, вечным і жыватворным полымем.

Мы жывём і будзем жыць, бо з намі і беларуская вёска.

Тут навет, скажу для прыкладу, недалёка ад Менску, у вёсцы Блонь, каторая калісь належала да двара вядомага расійскага эсэра п. Бонч-Асмалоўскага, сяляне-беларусы не забылі ўсяго свайго роднага. У іх цяпер наладжаны беларускі прасветны гурток, які працуе над усведамленнем сваіх аднасельцаў; наладжывае беларускія прадстаўленні і г. п. Ды і сотні такіх прыкладаў паказуе, як гэта наша моладзь пачынае сама па сабе, не раз абмацкам, нацянькі будаваць сваё роднае, светлае, народнае жыццё.

Але што цікавейшае: перада мной ляжыць беларуская часопісь «Наша Каляіна». Выдана яна ў Слуцку! Слуцак — павятовы гарадок — куды яму, здавалася бы, лезці ў людзі, ды яшчэ з сваёй газэтай! Аднак палез. Беларуская душа, як бачым,— жывучая, творчая, як яе ні заганяй у казіны рог, а яна збудзіцца і затрапечацца. Мала таго: гэта часопісь з'яўляецца органам беларускай нацыянальнай злучнасці «Кветка Папараці», каторая сваю чыннасць пашырала на ўвесь Слуцкі павет і навет далей, за яго межы.

Гэта папраўдзе, як і ў песні спяваецца:

«А ў Слуцку на рыначку сталася праява!»

Так, сябры, гэта вялікая праява!

Адбудаванне незалежнасці Беларускай Дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь.

Чэсць і слава табе, беларуская моладзь, паўстаючая з-пад беларускай саломеннай стрэхі!

Ты сама сваімі рукамі адбудуеш сабе і сваім патомкам лепшую і святлейшую будучыну.

Набок з дарогі, панове і гаспада з Захаду і Усходу!

Беларуская моладзь ідзе!

К-а.

Газ. «Беларусь», № 23 (50),
15 лістапада 1919 г.

# Незалежная дзяржава і яе народы

Калі мы зірнем у нядаўнюю мінуўшчыну вялікіх дзяржаў, як, напр., царская Расія, імператарская Нямеччына і інш., а таксама калі возьмем за прымер цяперашнія некаторыя дзяржавы, хоць бы — Англію, Японію і ім падобныя, то мы бачым адно, што гэтыя дзяржавы ў сваім імперыялістычным і мілітарным усёзнішчажаючым паходзе мелі адну ярка зарысованую мэту — гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў і падняволіць іх сваёй нацыі, свайму дзяржаўнаму правапарадку.

Гэтак Расія падняволіла сабе агнём і жалезам слабейшыя суседнія народы, пачынаючы ад манголаў, каўказцаў, фінаў, літвінаў і канчаючы славянамі — палякамі, украінцамі, беларусамі і іншымі. Тое самае рабіла Нямеччына з палякамі, эльзасцамі ды ўсялякімі заморскімі калёнямі. Таксама Англія жалезнымі абцугамі трымала пры сабе Ірландыю, афрыканскія народы і г. д.

Не пыталіся гэтыя ўсемагутныя дзяржавы, ці заваёваныя імі слабейшыя народы хочуць іх, сказаў бы, воўчай апекі, ці не. Дужыя, не пытаючыся, забіралі ў слабейшых усё, што маглі толькі забраць, а давалі ім, не пытаючыся, тое, чаго яны не заўсёды хацелі прымаць. Забіралі ў падняволеных народаў іх дабро, забіралі іх сыноў і гналі на крывавы бой за эгаістычныя вялікадзяржаўныя мэты. А давалі, гвалтам накідалі ім свае так званыя «культуры», пры помачы якіх душылі ў падняволеных народаў іх нацыянальныя асаблівасці, іх веру, праўду... Прышчэплівалі ім з малых дзён думку, што не права пануе над сілай, а сіла над правам.

Прымерам такога здзеку, такога зневажання дужэйшым слабейшага можа служыць, добра ўсім нам знаёмая, царская Расея. Стагнаў татарын, грузінец, фін, паляк, украінец, беларус. Стагнала ўся «руская» зямля, шалёна п'яная, разбушаваная, захліпаючыся «чырвоным смехам», Расійская імперыя, імперыя, магутная закованымі народамі, заграбленымі чужымі дзяржавамі. «Быть по сему», казаў Петраград, і... было.

І вось калі ўдумацца ў усё гэта, то мы ўбачым, што кожная такая дзяржава, якая на рахунак чужых зямель хоча пашырыць сваё панаванне, ніколі не будзе спрыяць для народа гэтых забраных зямель. І якімі прыгожымі ні прыкрываліся б словамі вялікадзяржаўныя нацыі, што ў іх ёсць ці там будзе заведзена нейкае раўнапраўе для ўсіх нацыянальнасцей,— усё гэта будзе абманам.

Толькі тыя, што вызваляюцца з-пад чужой няволі, дзяржавы змогуць ушанаваць правы так званай меншасці нацыянальнай, бо яны на сваіх плячах вынеслі чужы здзек і паніжэнне. Да гэтага давяла доўгая практыка гістарычнага развіцця народаў і дзяржаў.

Кінуты нядаўна амерыканскім прэзідэнтам лозунг — мір на аснове самаазначэння народаў — не быў выдуманы так сабе. Думка гэта ўжо даўно жыла і развівалася на цэлым свеце, і за сваю незалежнасць шмат малых народаў ваявала ці то словамі, ці сталлю. Узяць хоць бы бураў: цэлы год гэты маленькі народ мучыў сваім жаданнем незалежнасці вялікую Англію.

І вось мы, беларусы, гаворачы аб сваёй дзяржаўнай незалежнасці, не павінны абходзіць моўчкі таго балючага пытання, як гэта мы, атрымаўшы сваю дзяржаўнасць, будзем меркавацца з чужымі нам па нацыянальнасці людзьмі, якія жывуць на беларускай зямлі.

Ужо адно тое, што мы дамагаемся быць самі гаспадарамі толькі таго абшару, дзе жывуць беларусы ў яго этнаграфічных межах,— ужо гэта даводзе, што мы падняволіць нікога не думаем.

Будучы дагэтуль паднявольнымі і паспытаўшы, што за смак гэтае падняволле, само сабой разумеецца, нам і ў думку не прыйдзе запрагаць каго б то ні было, жывучага на нашых загонах, у паднявольнае ярмо.



Тыя шчыра дэмакратычныя думкі, лунаючыя яснымі красамі па цэлым свеце, аб волі, роўнасці, братачнасці, бадай, найглыбей запалі і западаюць у нашы гаротныя душы і сэрцы. Бо ці ж знойдзецца на свеце болей дэмакратычны па сваёй прыродзе і ўжыўчывы народ, як народ беларускі? Сама натура, сама яго гісторыя сталецціямі гэтакім ужо выгадавала.

У нашым краю шмат жыве палякаў, расійцаў, жыдоў, татараў. Лепшыя з гэтых людзей даўно ўжо прыйшлі да пераканання, што свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус, падняволены чужынцам. У няволніка заўсёды ёсць больш помства нянавісці к другім, чымся ў чалавека вольнага.

Дзеля гэтага вось права нацыянальнай меншасці павінна стаяць у нас нараўне (прапарцыянальна) з правам нашай беларускай большасці. Кожны грамадзянін нашага краю павінен карыстацца і з роўнай пашаны, з роўнай абароны ў вачах права свету.

Ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх установах, пачынаючы ад дзяржаўнага сойму і нацыянальнага войска і канчаючы мясцовымі і валаснымі самаўрадамі,— павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці, разумеецца, як ужо і зазначана, прапарцыянальна беларускай большасці.

У вольнай, незалежнай Беларускай дзяржаве не павінна быць «ні эліна, ні іудзея».

Усе роўныя перад дзяржаўнай уладай, усе роўныя перад правам і законам, усе вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць і кіруючыся ў сваёй грамадзянскай працы дабрабытам агульнай бацькаўшчыны-Беларусі.

К-а.

Газ. «Беларусь»,
29 лістапада 1919 г.

# Справа беларускага нацыянальнага гімна

Мы, беларусы, дзякуючы ўсялякім гістарычным і палітычным безгалоўям нашай бацькаўшчыны вечна цягнуліся ў хвасце сваіх суседзяў ды яшчэ і цяпер не можам у шмат якіх справах раўняцца з імі. Абмінаючы ўсе іншыя недахваткі нашага палітычна-дзяржаўнага і нацыянальнага жыцця, я хачу тут звярнуць увагу на справу беларускага нацыянальнага гімна.

Справа гэта вельмі важная, і трэба, канешна, каб наша ідэйная інтэлігенцыя — паэты і кампазітары — заняліся ёй паважна. Бо, па праўдзе кажучы, з беларускім нацыянальным гімнам выходзіць нейкая неразбярыха. Мы і маем свой гімн, і не маем. Чаму гэта так?

Калі заглянуць у далёкую мінуўшчыну, у тыя часы, калі існавала незалежная Літоўска-Беларуская дзяржава,— мы з пэўнасцю не можам цвердзіць, ці быў тады гімн нацыянальны, ці не быў. Магчыма, што і быў — можа, яго замяняла якая вьдатная духоўная песня. Але рухнула дзяржава, забыў народ і свой гімн-песню.

У нашы ўжо часы (пасля 1905 г.) з'явілася на свет божы некалькі беларускіх гімнаў такой ці іншай ідэйнай і мастацкай вартасці. Пачатак гэтага зрабіў кампазітар Рагоўскі, які стварыў музыку да слоў верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?» і назваў гэта гімнам. Далей гэты самы кампазітар напісаў музыку да верша Каганца «О божа, спасе наш», і таксама часта нашы спевакі называюць гэта гімнам. Далей, да верша Я. Купалы «Не загаснуць зоркі ў небе...» уладжыў музыку Янчук і таксама назваў гэта гімнам. Хор Тэраўскага ў Мінску пяе песню «Працуй, беларусе...» і таксама называе гэта гімнам. Ды і шмат яшчэ ёсць усялякіх песень і вершаў, якія ахрысцілі гімнамі, не зважаючы на тое, ці яны заслугоўваць на такую назву, ці не.

І вось з гэткага вялікага ліку «гімнаў» мы ўсё-такі не маем — сказаў бы я — прызнанага і ўсвенчанага беларускага нацыянальнага гімна.

Такая пастаноўка гэтай справы часта адбіваецца на добрым імі беларускага народа і не раз ставіць публіку ў прыкрае палажэнне, як і было гэта не вельмі даўно.

З прычыны прыезду Начальніка Польскай дзяржавы ў Мінск у гарадскім тэатры адбыўся спектакль, у якім выступаў і беларускі хор Тэраўскага. Хор запяяў нейкую песню — якая азначала на афішах «беларускі гімн», але мелодыя была незнаёмая, і ніхто не ўстаў, абражаючы гэтым, як бы здавалася, гонар беларускай нацыі.

І вось трэба ўвайсці ў палажэнне шчырага беларускага грамадзяніна: што такі чалавек павінен быў перацярпець у сваёй душы, бачачы гэту нібы знявагу. А папраўдзе тут і знявагі няма, бо няма прызнанага — гэтым жа беларускім грамадзянствам — свайго нацыянальнага гімна.

Такім чынам, зважаючы на сказанае, справа беларускага гімна павінна быць вырашана, і то як найхутчэй. З беларускай марсельезай справа стаіць як бы лепей: маем «Адвеку мы спалі», і іншых вершаў з музыкай, называных беларускімі марсельезамі, штосьці не чуваць. Гэта, бадай, і лепей.

Як «нацыяналізаваць» — калі можна так выказацца — нацыянальны беларускі гімн з паміж ужо існуючых гэтых твораў — не бяруся высніць. Гэтым павінна заняцца само грамадзянства ў асобах сваіх ідэйных прадстаўнікоў — паэтаў і кампазітараў.

К-а.
Час. «Рунь», Мінск,
1920 г., № 4, с. 6.

Тэксты артыкулаў падрыхтаваны
**Янкам САЛАМЕВІЧАМ**

## Рассакрэчваюцца архівы

*На пачатку гэтага года Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі наладзіла выстаўку «Вернутыя імёны», на якой былі прадстаўлены дакументы з розных рэспубліканскіх архіваў. Шмат з якімі матэрыяламі наведвальнікі змаглі пазнаёміцца ўпершыню. Рэдакцыю «Спадчыны» асабліва зацікавіў адзін з іх. Звернем увагу на дату напісання ліста — канец 1930-га...*

*Дакумент друкуецца з захаваннем правапісу і стылю.*

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся.

Комуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі
Цэнтральны Комітэт
Аддзел . . . . . . . . . . . . . . .
№ 51/ц Менск, 21 ноября 1930 г.
ЦК ВКП(б)
МОСКВА

Уважаемый тов. Постышев!

Считаю необходимым сообщить Вам, что вчера, 20 ноября утром покушался на самоубийство Янка КУПАЛА — народный поэт Белоруссии. Покушение было несерьезным. Купала ударил себя перочинным ножом в правый бок, жизнь его вне опасности и если не будет сепсиса, или других осложнений, то дней через пять он будет здоров.

Янка Купала входил в руководящий центр «Союза Вызваленьня Беларусі», как о том свидетельствуют показания Лесика, Некрашевича и других. Янка Купала являлся идейным центром нац.-демовской контрреволюции, что нашло отражение и в его творчестве. Наряду с произведениями вполне советскими у него имеются стихотворения и кулацкого и прямо контрреволюционного содержания.

Приглашенный для переговоров в ГПУ Янка Купала упорно отрицал свою принадлежность к какой бы то ни было контрреволюционной организации и не обнаружил ни малейшего желания пойти на встречу нам в смысле хотя-бы осуждения контрреволюционной деятельности своих друзей — участников и руководителей СВБ.

Незадолго до 20 ноября он, начал обнаруживать признаки некоторого колебания, что впрочем не нашло своего обращения в его «предсмертном» (если можно так выразиться) письме.

Письмо это адресовано на имя тов. Червякова. Оно содержит утверждение, что он не состоял в контрреволюционной организации; затем Я. Купала пытается оправдать свое стихотворение восхваляющее Пилсудского и просит позаботиться об его семье.

Все это происшествие рассматривается нами как протест против нашей политики борьбы с национал-демократизмом. Мы решили не требовать от Я. Купалы признания участия в союзе вызволения Белоруссии и сосредоточить свои силы на требовании выступить с открытым осуждением контрреволюционной деятельности группы белорусских интеллигентов арестованных по делу СВБ. Думаю, что это нам удастся.

Самый факт покушения на самоубийство мы, конечно, огласке не придаем.

В связи с этим прошу ускорить присылку окончательной редакции информационного сообщения по делу СВБ. Работу среди интеллигенции надо разворачивать во всю и, конечно, молчание нашей прессы связывает нам руки.

С тов. приветом (Гей)





*Ірына Багдановіч*

# Летаргія

Там, у столках вякоў, і князёўнаю, і парабчанкай
Адбыла Беларусь, так мацуючы чыйсьці хаўрус.
Там, пад Грунвальдам, вою давала ручнік крывічанка,
І арнамент на ім — гэта кроў ад параненых рук...

Замаўкала, нашчадкам ужо не патрэбнае, біла.
Замаўкалі званы, і пяском зарастала ралля.
Гэта ж я гэтак моцна і гэтак надоўга забыла:
Хто я? Дзе я? Чыя я? Адкуль і навошта тут я?!

Праз цябе, Летаргія, адчайна ірваўся Купала,
Раскалыхваў званоў анямелую вечную медзь...
А пад пляцам рака — па Купаллі рака сумавала.
А над ёю — натоўп, што не здужаў ніяк пасталець.

У палон Летаргіі мы рушылі цэлым народам,
Паслухмянаю паствай, а пастыр-наглядчык сачыў,
Каб лічылі прыгон найвышэйшай сваёю свабодай
І не думалі больш ні аб чым, ні аб чым, ні аб чым.

Адцвітаюць сады бел-чырвонаю белай вяргіняй.
Засынае пад шэлест няведаных слоў немаўля.
О, які ты магутны, магутны палон Летаргіі!
О, якою жабрачкай глядзішся, Айчына мая...

*Людміла Паўлікава*

# Магіла паэта

*Памяці Паўлюка Багрыма*

Паміраў стары, гаварыў людзям:
«Клопат маю я перад смерцюхнай —
Вы запомніце, людцы добрыя,
Што скажу я вам у апошні час.—

І сказаў стары: — Ёсць касцёл у нас
На кладах дзядоў нашых, прадзедаў.
На рагу яго спіць паэт адзін
Пад вялікім зымшэлым каменем.

У няволі жыў — ледзь не ўсё жыццё.
Ледзь не ўсё жыццё — у салдатчыне.
На чужыне той думы грозныя
У радкі складаў мовай наскаю.

Як гарэлі яго песні слёзныя —
Узляцела адна ад агню вышэй,
Ад агню вышэй і ад царскіх слуг
Белакрылай вястункай, галубкаю,

Каб да Бога ляцець і прасіць у яго
Жыцця людскага нашым дзетухнам,
Долі вольнае краю роднаму,
Долі вольнае, праўды-матухны...»

З тым памёр стары. І пайшлі тады
Людзі добрыя на клады дзядоў,
Каб прынесці паклон ад зямлі сваёй
Да паэта — за волю заступніка.

І прыйшлі яны — азірнуліся.
А ў касцёла таго — ды чатыры рагі,
А на кожным з рагоў — шмат магіл старых,
А на кожнай з магіл камяні ляжаць —
Не маленькія...

І падумалі людзі добрыя.
Як падумалі — пакланіліся
З чатырох рагоў старажытных муроў
На чатыры бакі свету белага.

*Леанід Дайнека*

Нядаўна я скончыў працу над гістарычным раманам «Жалезныя жалуды», у якім ідзе гаворка пра ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага, Жамойцкага і Рускага. Дзеянне адбываецца ў сярэдзіне XIII ст.

Прапаную чытачам «Спадчыны» ўрывак з рамана.

# Жалезныя жалуды

*Урывак з рамана*



аму мяне разам з табой не захацеў паслаць бацька?—усхвалявана запытаў у брата Някрас, як толькі яны засталіся адны.

— Не ведаю,—са спачуваннем гледзячы на яго, адказаў Далібор.

Яны залезлі на самы верх вежы, што ўзвышалася над дзядзінцам. Вежу яшчэ не дабудавалі. Велізарныя камяні, звезеныя з глухіх лясоў, з балот, грэлі пад пякучым сонцам шурпатыя бакі. Шмат холаду было ў камянях, але чалавек сабраў іх разам, навекі змацаваў іх вапнаю, і яны былі ўжо сцяной, вежай, і наліваліся цеплынёй і сілай, каб потым, калі пойдзе на прыступ вораг, устояць у самым лютым агні.

Браты на нейкі міг адчулі сябе птушкамі, што ўзляцелі над родным горадам. Далёка бачылася з вышыні. Навагародскі дзядзінец мясціўся на высокім узгорку, але людзі зрабілі яго яшчэ вышэйшым, нанаслілі сюды зямлі і каменяў. На суседнім, ніжэйшым, узгорку зіхацеў рознакаляровымі вокнамі багатых сядзіб, грукаў малаткамі кавалёў вакольны горад. Як два гнязды адной магутнай птушкі былі яны—вакольны горад і дзядзінец Навагародка. З поўначы і з захаду вакол дзядзінца быў пракапаны роў. Дзягцярна-чорная вада ў ім блішчэла пад сонцам. Побач з ровам грозна ўзвышаўся земляны вал, асядланы дубовай сцяной. Падножжа вала было выкладзена камянямі. У вакольным горадзе на храме Барыса і Глеба свяціўся вялізны срэбны крыж, асяняючы хрысціянскія магілкі. На магілках аддавалі зямлі толькі навахрышчаных дзяцей. Іхнія дзяды-прадзеды ляжаць у паганскіх курганах, якія даўно зараслі лесам і якіх так шмат каля Навагародка.

— Калі б я пачынаў будаваць наш горад, я абавязкова паставіў бы яго на Нёмане. Чаму навагарадчане вырашылі сяліцца ўдалечыні ад ракі?—у глыбокім роздуме прамовіў Далібор.—Тавары з Варажскага мора і з Русі да нас трэба цягнуць на калёсах і санях. Які гэта горкі пот—я сам зведаў, калі ішоў з бацькавым абозам з Менска.

Някрас, пазіраючы ўдалячынь, захінаючы далонню вочы ад сонца, няўпэўнена сказаў:

— Можа, яны баяліся ракі.

— Баяліся ракі?—здзівіўся Далібор.—Хіба можна баяцца ракі, вады, баяцца Нёмана? Хаця рака—дарога, а на дарозе сустракаюцца не толькі сябры. Пойдзем, Някрас, на вал. Там я ўчора шмат спелых суніц бачыў.

Браты хуценька спусціліся з вежы, подбегам прыпусцілі да вала. Далібор, як заўсёды, бег наперадзе. Някрас—следам за ім. Па вяровачнай лесвіцы, якую скінуў зверху вой-ахоўнік, яны ўзабраліся на вал, на дубовую сцяну, потым, абдзіраючы жываты, саслізнулі са сцяны на знешні бок вала. Там укленчылі ў траву, кідалі ў рот буйныя, ужо чырвоныя, ягады. У самай сіле быў



звонкі летні дзень. Распрамянёнае сонца плыло над Навагародкам, над дзядзінцам і вакольным горадам, над пушчамі і лугамі, над курганамі, у якіх вечным сном спяць прадзеды. Вой на сцяне заплюшчваў вочы і ўсё роўна бачыў сонца—нязгасны залаты круг. Пчолы выляталі з лясных нетраў, пілі гарачую духмянасць кветак, цяжка вярталіся дадому, да бортных дрэў, з дуплаў якіх, напоўненых па самы край, выліваўся, цёк шырокімі бліскучымі ручаямі іскрыстажоўты мёд. Мурашкі і мухі прагна лезлі з усіх бакоў і тапіліся ў мёдзе.

— Ягада забівае кветку,—сказаў раптам Далібор, уважліва пазіраючы на прыгожы, абліты сонцам сунічны кусточак, дзе побач красаваліся чырвоныя ягады і пяшчотна-белыя, падобныя на зорачкі, кветкі. Някрас, яшчэ не разумеючы братавых слоў, сеў на кукішкі поруч з ім, плячо ў плячо.

— Бачыш? Ягада забівае кветку,—паўтарыў Далібор, не адрываючы позірку ад сунічнага кусціка. І як бы нейкая заслона адхінулася перад братам, як бы ўпаў змрок з вачэй, і яны на кароткае імгненне глянулі ў самы корань усяго існага. Нараджэнне ягады было смерцю кветкі. І гэтак—усюды, гэтак—заўсёды. Радасць і боль жыцця былі зліты ў адно цэлае.

— Княжычы, што вы там знайшлі?!—гукнуў са сцяны русабароды вой. Пот цёк па яго маладых шчоках. Далібор з Някрасам, быццам пабуджаныя гэтым голасам, зірнулі адзін на аднаго, засмяяліся. Потым прутка ўскочылі на ногі, каб бегчы ў церам да настаўніка-ляха, і тут заўважылі на лугавіне, побач з валам, вешчуна Валасача. Ён сядзеў на траве, падставіўшы змарнелы твар сонцу, і шчасліва ўсміхаўся. Ды зусім не вешчуну здзівіліся яны. Побач з ім сядзела маладзенькая прыгожая дзяўчына ў скураным вяночку са шклянымі падвескамі і карміла Валасача суніцамі, дастаючы іх з невялікага лубяного кубарыка. Дзяўчына, пэўна, даўно ўжо бачыла княжычаў, бачыла, як збіралі яны ягады, але вось браты зірнулі на яе, і дзяўчына сарамліва зачырванелася, апусціла вочы з доўгімі светлаватымі вейкамі.

— Арол і арліца,—гучна сказаў Валасач княжычам, маючы на ўвазе сябе і дзяўчыну.

— Я яе ведаю,—шапнуў Далібор Някрасу.—Гэта дачка залатара Івана з вакольнага горада. Я толькі не ведаю, як яе зваць.

Яны смела, як і належыць навагародскім княжычам, падышлі да вешчуна і дзяўчыны, спыніліся насупраць іх.

— Як цябе зваць?—спытаў у дзяўчыны Далібор.

Яна спалохана ўзнялася з травы, хуценька абцягнула, прыгладзіла адной рукою прыпол вышытай чырвонымі і чорнымі ніткамі белай ільняной кашулі, а ў другой руцэ моцна трымала кубарык, на самым сподзе якога яшчэ віднеліся ягады. У яе былі на дзіва чыстыя праменна-блакітныя вочы, роўны маленькі носік і пухлыя пунсовыя губы. І не ад суніц была свежая пунсовасць, а прыродная, дадзеная ад самага з'яўлення на белы свет. Калі дзяўчына ўзнімалася з травы, Далібору кінуліся ў вочы далонькі яе загарэлых рук, схаваных у доўгія рукавы. На запясцях рукавы былі сцягнуты ў зборкі, што прытрымліваліся абручамі-бранзалетамі. З выразу ў кашулі выглядваў пяшчотны пачатак цвёрдых смуглявых грудзей.

— Я Лукер'я з вакольнага горада,—сказала дзяўчына.

— Ты дачка залатара?

— Усё княжыч Далібор ведае,—усміхнулася Лукер'я і ўжо смялей зірнула на яго.

Далібора ўразіла іскрыстасць яе вачэй. «Як вада ў Нёмане»,—падумаў княжыч.

— Навошта з вешчуном водзішся?—строга спытаў ён у Лукер'і.

— Папрасіў я, каб яна мяне пазёмкамі накарміла,—адказаў за дзяўчыну Валасач.—Дачка майго сынаўца *.

— Залатар Іван твой сынавец?—здзівіўся Далібор.

— А чый жа? Мой. Я, княжыч, з вялікага і багатага роду. У Навагародку адвеку мой род адным з першых быў. А стары я, як вунь той дуб, што ў полі стаіць. Але жыву. Перунова страла яшчэ не паслана па маю душу. Зараз Іван прыгоніць з вакольнага горада коніка, і паеду я на Цёмную гару. Ідзі, Лукер'я,—мяккім голасам сказаў ён дзяўчыне.—А праз сядміцу прыходзь з сяброўкамі сваімі да мяне на гару.

Лукер'я пакланілася Валасачу, пакланілася княжычам, паставіла каля Валасача кубарык з ягадамі і шпарка пайшла ў вакольны горад.

— Прыгожая яна,—задуменна прамовіў Далібор, праводзячы Лукер'ю позіркам.

— Прыгожая,—згадзіўся Валасач.—А ведаеш, калі чалавек прыгожы бывае? Калі душа ў яго спакойная, калі болькі душы не вярэдзяць. Шмат пабачыў я людзей. Я малым хлапчанём бегаў тут яшчэ тады, калі пушча абкружала Навагародак. Колькі князёў бачыў я! Я быў у самога Крыва-Крывейты, пакуль не выгналі яго крыжакі з-пад святога дуба. Я сядзеў на Цёмнай гары, паліў агонь Перуну, і мне ўсе так верылі, што жанчыны з'ядалі адбіткі маіх слядоў на снезе. Вялікая зборня людзей жыве на зямлі, і мала між іх прыгожых, таму што неспакойныя душы маюць, таму што смерці баяцца. Не гневайся дужа-тка на мяне, княжыч Далібор, але я скажу, што і ты непрыгожы.

Пры гэтых словах вешчуна ў Далібора злосна бліснулі вочы. Ягоны ж малодшы брат нават сціснуў кулакі. Моцна сябравалі княжычы, хадзілі заўсёды разам, быццам злыганыя, і калі крыўдзілі аднаго, соль крыўды раз'ядала сэрца другому.

— Маўчы, дупла дубовае,—грозна сказаў Някрас, упрытык падступаючы да вешчуна. Такімі словамі хрысціяне заўсёды абражалі паганцаў, дзяцей Перуна. Але вяшчун спакойна глядзеў на княжычаў, спакойна сядзеў на траве і нават паспяваў

* Сынавец — пляменнік.

лавіць у свой загарэлы кулак мух, што нястомна кружыліся над ім.
— Ад мух не адцерабіцца,—нібы пажаліўся ён.—А ты, княжыч, не сярдуй. Кажу табе так, бо моцную душу ў табе бачу, крамянёвую, жалезную. Вялікі лёс табе наканаваны. Праз усё ты пройдзеш, усяго паспытаеш. І радасць напаткаеш, і боль, і здраду. Памятай, што жыццё—пастаянная здрада. Вечар здраджвае раніцы, стары чалавек здраджвае самому сабе, які калісьці быў маленькім. Такую мудрасць я ад Крыва-Крывейты пачуў. І ты яе запомні.
— Бог забраў у яго розум,—сцішэлым голасам сказаў Някрас Далібору. Але Далібор прагна слухаў словы вешчуна.
— Скажы, а што мне наканавана?—спытаў ён, пранізліва гледзячы на Валасача.
— Галаву тваю ў княжацкай шапцы бачу,—цвёрда адказаў вяшчун.—Навагародак у вялікай сіле і ў вялікай славе бачу. Дзяржаву магутную бачу, якую з попелу і крыві ўзнімеш, выпестуеш ты і твае аднадушнікі.

Вочы ў вешчуна натхнёна заіскрыліся, шчокі запунсавелі. Ён свідраваў княжычаў сваім позіркам, палохаў і адначасова прыцягваў да сябе, як бы накідваючы на іх нябачнае сіло.

У гэты час пачулася парыпванне колаў, і ўсе трое ўбачылі вазок з лубяным верхам. Невялікі, але мацнаногі конік, махаючы хвастом, жвава бег па зялёнай лугавіне. Мухі дапякалі коніку, сонца смаліла з вышыні. Вазак, пад'ехаўшы да княжычаў і Валасача, зняў з галавы сплеценую з чароту і сасновых карэньчыкаў круглую шапку, пакланіўся.

— А дзе Іван?—строга запытаў у яго Валасач.
— Іван загадаў перадаць, што хапае яму таўкоты і без цябе,—не міргнуўшы вокам, адказаў вазак, які аказаўся светлавалосым хлапчуком з вясёлымі вачыма.—Іван загадаў завезці цябе на Цёмную гару. Я памагу табе сесці.
Ён саскочыў з вазка.
— Памажы, памажы,—лагодна згадзіўся Валасач. Ужо седзячы на вазку, вяшчун прамовіў, пазіраючы на княжычаў:
— Рознымі дарогамі пойдзеце вы, браты. Гуляйце, баўцеся ў залатым малалецтве вашым, пакуль не развяло назаўсёды жыццё. Ці задумваліся вы, чаму рэкі цякуць у розныя моры? Чаму Нёман бяжыць да варагаў, а Дняпро да грэкаў? Не ведаеце? Так і яно. А ты, княжыч Далібор, прыйдзі да мяне на Цёмную гару. Слова хачу табе сказаць.
— Якое слова?—запытаў Далібор.
— Тое слова кажацца з вока на вока, пры святым агні, пад зялёным дубам. Толькі табе і небу можна пачуць яго.
— Вурдалачына стары,—не вытрымаў Някрас.—Не чакай, ніхто да цябе не пойдзе. Быў бы я навагародскім князем, ляжаць бы табе ў Нёмане з булыгай на шыі.
— Золата плавіцца агнём, а чалавек няшчасцем,—адказаў яму вяшчун.—Таму ты і не князь, а толькі княжыч. І заўсёды будзеш ім. Ёсць вялікія мужы, такія, як твой князь-бацька, міласнік Ізяслаў, а ёсць мышва, што круціцца, пішчыць у мужоў пад нагамі. Запомні гэта.
Валасач узяў у хлапчука з рук хварасціну, шлегануў каня, і вазок, парыпваючы і пагрукваючы, пакаціўся па зялёнай лугавіне. Раз'ятраны Някрас ірвануўся быў следам, але Далібор прытрымаў яго за плячо. Навагародскія княжычы стаялі і глядзелі, як узбіваецца з-пад конскіх капытоў жоўты пылок, як падскоквае вазок, як падскокваюць разам з ім дзве спіны і дзве галавы. Адна спіна вузкая, хлапчукоўская, пругкая, як малады зялёны парастак, другая, Валасачова, шырэйшая, але старая: сонцаварот-другі—і сагнецца ў крук.

На дзядзінцы княжычаў ужо чакаў лях Костка. Гэтага ляха вывеў з палонам з Мазавецкай зямлі Ізяслаў Навагародскі, калі разам з галічанамі і Міндоўгам хадзіў на мазавецкага князя Конрада. Добрым рыдзелем * быў у сябе на радзіме Костка, у апошняй сваёй сечы з навагарадчанамі паклаў чацвярых вояў, разваліўшы іх сякерaю ад ключыцы да сцягна, але ляснулі булавою яму па галаве, разбілі жалезны шлем, і ўпаў харобры лях, каб ачомацца ўжо з дубовай калодкай на шыі. Да скону насіць яму на смуглым ілбе буйную сінявую зорку, след таго страшнага ўдару. Князь Ізяслаў упадабаў палонніка, загадаў зняць з яго калодку, наблізіў да сябе і нават зрабіў настаўнікам сваіх сыноў. Пасля сямі гадоў няволі па хрысціянскім звычаі хацеў адпусціць ляха ў Мазовію, але Костка адказаў, што нікога ў яго на белым свеце няма і да самай смерці сваёй хоча жыць ён у Навагародку. І яшчэ сказаў, што не сумна будзе яму ляжаць у гэтай зямлі, бо некалі завалодаюць ёю ляхі. Смяяліся навагарадчане на такія словы, але Костка быў упарты, цвердзіў, што ў сне пачуў такое прароцтва ад свайго ляшскага бога.

Пад прыглядам Косткі княжычы скінулі з сябе кашулі, потым чаляднікі нацёрлі ім спіны і грудзі ваўчыным і барсуковым салам, каб цела было слізкае, каб меч не так чапляўся за яго. Костка даў ім невялікія круглыя шчыты, даў драўляныя мячы, для сховы галавы загадаў надзець лёгкія падшлемнікі. Чаляднікі засыпалі круг—дзесяць на дзесяць сажняў—жоўтым рачным пяском, прывезеным з Нёмана. Наўкол гэтага рысталішча сабраліся баяры. Наперадзе ўсіх стаяў Ізяслаў Навагародскі.

Костка абвясціў, што будзе біцца супраць княжычаў, таксама распрануўся да голага цела, узяў драўляны меч. Вырашылі біцца да чырвонага рубца, бо пісягі сапраўдны вой не павінен нават заўважаць. Трохі збоку чакалі свайго часу зялейнікі з прымочкамі, націраннямі і белымі ручнікамі ў руках.

Князь Ізяслаў пляснуў у далоні, і бой пачаўся. Далібор з Някрасам, як галодныя ваўчаняты, рынуліся на ляха. Замільгалі мячы. Захрабусцеў пясок, узвіўся пыл. Костка са спакойнай усмешкай на твары адбіў першы наскок-наступ княжычаў, вёртка ўхіліўся ад іхніх мячоў, сваім дастаў-такі, пекануў Някраса па плечуку. Той сашчаміў зубы, але нават не зморшчыўся, бо ўсе баяры і сам бацька глядзелі на яго, а яшчэ таму, што мужчына павінен вучыцца цярпець боль.
— Горкі корань у вучэння, ды салодкія плады,—паблажліва сказаў лях Някрасу і ледзь паспеў вывернуцца з-пад магутнага ўдару, які нанёс Далібор.
— Бі лацінніка!—выгукнуў нехта з зялейнікаў, што цярпліва чакалі свайго часу.
— У яго ўжо лыткі трасуцца,—здзекліва дадаў другі.
Князь Ізяслаў гнеўна зірнуў на зялейнікаў, і яны адразу ж прыкусілі языкі.
— Пакажыце, сыны, на што вы здатныя,—ціхім голасам прамовіў князь. Княжычы пачулі бацьку і патроілі свой напор. Ды Костка быў дужа вёрткі. Цяжка было дастаць ягонае смуглае цела, на якім сінелі старыя рассечыны ад мячоў. Засланіўшыся шчытом і мячом, прахадзіў, прасвідроўваўся ён, як яшчарка праз пясок, між княжычамі. Сам жа біць шкадаваў. Някрас, зразумеўшы гэта, закрычаў:
— Ты што нас гладзіш, лях?! Дай мне толькі дабрацца да цябе!
Занадта нецярплівы ва ўсіх сваіх справах і парываннях быў малодшы княжыч, і гэта не раз, як кажуць смерды, бокам яму вылазіла. «Часта будзе ў цябе, сын мой, чуб надзёрты»,—гаварыў Някрасу князь-бацька, але і любіў за такую гарачку.

Сонца ў гэты міг прашыла промнямі лахманок хмаркі, што вісеў над Навагародкам. Мяккім жаўтавата-шэрым святлом заліло пясок рысталішча, і Далібору падалося, быццам не на пяску б'юцца яны, а таўкуцца па самыя костачкі ног у густым мёдзе. Расказваў нядаўна бацька, як знайшлі ў пушчы смерда, што палез выдзіраць дупло і па самы пояс уваліўся ў пчаліны мёд. Карачун быў бы смерду, ды, на ягонае шчасце, надарыўся побач мядзведзь і за каршэнь выцягнуў недарэку з мёду. Хлусіў хітры смерд ці казаў праўду—невядома. Адно ісцінна—шмат, вельмі шмат мёду ў навакольных лясах, а дзе мёд, там і сіла.

Выбраўшы момант, з усяго маху ўдарыў Далібор Костку па галаве і, здаецца, прыглушыў ляха. Потым ударыў яшчэ, яшчэ, з большай сілаю, з гарачай злосцю, што нечакана ўспыхнула ў душы.
— Так яму!—заенчыў Някрас і сваім мячом дастаў настаўніка. Лях не на жарт раззлаваўся.
— Абодвух вас за пояс запхну,—прыжмурыўшы калючыя вочы, сурова сказаў ён Някрасу, але ў гэты час князь Ізяслаў махнуў рукой у скуранай пальчатцы. Паядынак скончыўся. Усе зашумелі, пачалі віншаваць княжычаў.
— Ёмка я ляха мячом хапіў,—хваліўся Някрас. Далібор жа падышоў да Косткі, моўчкі глядзеў, як завіхаюцца каля яго зялейнікі.
— Ты хват, княжыч,—усміхаючыся, сказаў Далібору Костка.—А твой брат, прабач мне, грэшнаму, ні пёс, ні выдра *.
Гаворачы гэта, ён прыцішыў голас, каб не пачуў ніхто, акрамя Далібора.
Чаляднікі змылі з княжычаў і Косткі бруд і пот, насуха выцерлі іх калянымі ручнікамі. Потым прынеслі з пограба бярозавіку з мёдам у гліняных размаляваных брацінах. Добра пілося, добра адчуваўся порсткі, дрогкі бег крыві ва ўсім целе.
— Княжычаў Глеба і Нікадзіма князь Ізяслаў да сябе кліча,—абвясціў, нізка пакланіўшыся, надворны хлапчук-халоп. Яны шпарка пайшлі да бацькі, бо не любіў навагародскі князь ні запрашаць, ні загадваць двойчы. Стомленыя, з яшчэ макраватымі валасамі спыніліся яны на парозе княжацкай святліцы. Ізяслаў сядзеў на дубовай лаве, як грузная птушка на гняздзе. На ім была толькі белая нацельная кашуля. Срэбны крыжык свяціўся ў паўзмроку на пукатых грудзях. Увайшоўшы з двара, дзе ззяла сонца, княжычы нейкі час углядаліся: лагодны ці злосны твар у бацькі? Цёмнымі плямамі бачыліся ягоныя вочы.
— Секліся з ляхам нядрэнна,—пахваліў сыноў Ізяслаў.—Не шкадуйце сіл, вучыцеся ў ляха, бо мячом князь моцны. Гніце свае маладыя хрыбетнікі сёння, каб заўтра ўсе перад вамі гнуліся. Будзе ў вас усё: і срэбра, і дружына, і жонка, аддадзеная багам у вашы рукі, але будзе гэта ўсё, калі станеце храбрымі воямі.

Ізяслаў узняўся з лавы, упрытык падышоў да сыноў. Яны ўбачылі, які ў яго стомлены, быццам падталы, твар. А крыху раней, на двары, паміж баярамі і купцамі, бацька быў такі вясёлы, рухавы, глядзеўся такім зухам! Значыць, расслабіўся перад сынамі, распусціў вузел на душы, каб трошкі вальней дыхнуць. Далібору зрабілася шкада бацьку, але гэтую сваю шкадобу ён не выдаў ніводным рухам, ніводным словам. Князёў не шкадуюць. Гэта тое самае, што шкадаваць неба альбо маланку на небе.
Ізяслаў тройчы пляснуў у далоні, і ў святліцу адразу ж увайшоў перапалоханы рудабароды чаляднік.
— Прынясі мапу *,—загадаў князь.
Чаляднік пакланіўся і як вокам міргнуць разам з напарнікам прынёс у святліцу вялікую мапу, намаляваную яркімі фарбамі на шчыльнютка збітых дошках. Яе паклалі на стол. Рэкі былі прыгожа пазначаны бліскучым срэбным дротам, азёры і Варажскае мора выкладзены сінім шклом. Далібор з Някрасам прагна ўглядаліся ў карту. Рэдка, дужа рэдка паказваў каму-небудзь князь Ізяслаў Навагародскі сваю прыгажуню, змайстраваную купцамі і залатарамі з вакольнага горада.
— Вось наш Навагародак!—захоплена ўсклікнуў Далібор.—А вось Нёман!

* Рыдзель—рыцар.

* «Ні пёс, ні выдра»—выраз у польскай мове, які адпавядае нашаму «ні рыба, ні мяса».
* Мапа—геаграфічная карта.



— Каб бог пажадаў зрабіць вас птушкамі, сыны мае,—паважна, усміхаючыся ў вусы, сказаў Ізяслаў,—і каб вы маглі ўзляцець над цвердзю зямною, зверху вы б убачылі такое. Вось наша Навагародская зямля. Бачыце? Як круглы вайсковы шчыт, ляжыць яна між суседніх земляў і народаў. Вось Нальшанская зямля. Вось Дзялтува. А вось край жамойтаў—Каршува, Княтува...

Доўгім смуглым пальцам, на якім зззяў залаты пярсцёнак з зялёным каменьчыкам-гарошынкай, ён паказаў сынам землі аўкшайтаў і жамойтаў.

— А вось тут літва Міндоўгава сядзіць. Як клін, уразаецца яна між намі і Менскім княствам. Даўным-даўно, калі нашы прадзеды, крывічы з дрыгавічамі, прыйшлі сюды, каб закласці Навагародак, яны сустрэліся з літвою, пасуседзіліся з ёй, рассяліліся тут. Потым частка іх пайшла далей, абцякаючы з усіх бакоў літву, на Рубон, які зараз завецца Дзвіною. Так вясновая вада абцякае камень, абцякае востраў. Я сам не бачыў, але ваявода Хвал расказваў мне, што, калі ён з нашым пасольствам ездзіў да ўладзіміра-суздальскіх князёў, сустрэўся ім народ голядзь, што такім самым востравам ці клінам сядзіць на рацэ Паротве, якая ўпадае ў Маскву-раку. Голядзь і літва з аднаго кораня вырaслі.

Князь Ізяслаў уважліва паглядзеў на сыноў. Яны слухалі, не дыхаючы.

— А на захад сонца ад Навагародка ляжаць нашы гарады Услонім, Ваўкавыйск, Здзітаў... Далей за імі, у пушчах, жывуць яцвягі, за яцвягамі—прусы, шматлікі і ваяўнічы народ. Прускія землі, Памеранія, Вармія, Самбія, раскінуліся да Варажскага мора і да Віслы. Шмат у іх сваіх багоў. А адным з самых магутных багоў яны лічаць лес. Яны кажуць: «Лес—гэта калыска народа».

—Добра кажуць,—не стрымаўся Далібор.

— Добра,—згадзіўся Ізяслаў.—А вось тут, на адным з рукавоў Віслы, які завецца Нагат, стаіць Марыенбург, горад святой дзевы Марыі, сталіца тэўтонскіх рыцараў.

Далібор з Някрасам нізка нахіліліся над мапаю, каб лепш разгледзець тую дзяржаву і той горад, пра якія апошнім часам даходзіла столькі розных чутак. Яны ўбачылі чырвоны кружок, што прыляпіўся да срэбнага дроціку ракі.

— Рыцары-тэўтоны нядаўна аб'ядналіся з мечаносцамі, якія сядзяць у Рызе і на землях эстаў і ліваў,—гаварыў Ізяслаў.—Пра мечаносцаў вы, вядома ж, чулі, і чулі не раз. У сечы з імі, як бясстрашны леў, загінуў князь полацкага роду Вячка.

— Хто не ведае Вячку!—адначасна ўсклікнулі княжычы.

— Вячку ўсе ведаюць,—згадзіўся Ізяслаў.—Такія людзі жывуць вечна, як багі. Вучыцеся ў яго, дзеці мае, вернасці і мужнасці. Будзеце такімі, як ён,—ніколі вораг не ўзыдзе на навагародскі дзядзінец, на нашы курганы, у якіх ляжаць косці прадзедаў. Але я вам яшчэ колькі слоў скажу пра рыцараў. У бітве ля Шаўляў амаль дашчэнту высекла мечаносцаў мясцовае войска. Ад страху закалола рыцарам у пяты, і пабеглі яны прасіць рымскага папу, каб выратаваў іх, далучыўшы да Тэўтонскага ордэна. Папа выратаваў мечаносцаў і загадаў ім усюды і заўсёды насіць белыя плашчы з чорным крыжам. Ідуць гэтыя крыжаносцы вайною вялікай на прусаў, бо прусы, як і родзічы іхнія жамойты і аўкшайты, паганцы. А зараз гляньце сюды. На поўдзень ад прусаў жывуць мазуры з ляхамі, пладавіты, моцны народ. Вераць яны Хрысту, плоцяць дзесяціну і святапетрык, срэбра з кожнай душы на ўтрыманне лампады, якая дзень і ноч гарыць у царкве святога Пятра ў Рыме. За Берасцейскай зямлёю месціцца дзяржава валынян і галічан, адзінакроўцаў нашых. А яшчэ далей—угры, чэхі... Колькі размаітых народаў жыве побач з намі і далёка ад нас! Народ сінь *, які валодае стэпамі і горамі там, дзе ўзыходзіць сонца, кажа: «Няма большага няшчасця, чым няведанне межаў сваёй краіны». Вось дзеля гэтага я і загадаў прынесці мапу. Глядзіце, сыны, запамінайце.

Ён змоўк, пацёр лоб смуглымі пальцамі, рашуча хітануў галавой.

— У кожнага чалавека свой крыж. Мой крыж—Навагародак, зямля Навагародская. Славы і сілы хачу Навагародку. Хай чэрві завядуцца ў вачах у таго, хто хоча ўбачыць пагібель і няславу Навагародка, хто дзясніцу ўзніме на нашу дзедзіну. Даверымся ж ва ўсім богу, бо госпад вышэй галоў нашых і Зямля на водах і на нябёсах пакладзена ягоным промыслам.

Князь перахрысціўся. Разам з ім перахрысціліся і сыны. З шыракагорлай рамейскай амфары, што стаяла ў куце святліцы, князь дастаў пажоўклы, скручаны ў трубку пергамен, разгарнуў яго, знайшоўшы патрэбнае месца, сказаў Някрасу:

— Гэта пісанне мудраца Яфрэма Сірына. Чытай адсюль.

Някрас, злёгку пачырванеўшы, пачаў чытаць:

— «Мінае дзень, следам за ім ідзе другі, і—калі не гадаеш—смерць ужо стаіць над галавою тваёй. Дзе мудрацы, якія напісалі кнігі і пісаннямі сваімі напоўнілі свет? Дзе тыя, каторыя дзівілі свет сваім словам і тварамі, заварожвалі сваімі думамі? Дзе тыя, што цешыліся дарагімі шатамі, спачывалі на пурпуровых ложах? Дзе рукі, што аздабляліся пэрламі? Дзе тыя, перад загадамі якіх трухлелі і якія панявольвалі зямлю страхам сваёй улады? Скажы зямлі, і яна пакажа табе, дзе яны; спытай у магіл, і яны табе пакажуць, куды яны пакладзены. Бо ўсе яны разам ляжаць у зямлі, усе абярнуліся ў тло, і не адрозніш, дзе астанкі багатага і дзе парахно ўбогага. Бачыў я, як прагная магіла пажырае і заўсёды не сытая; чым больш нябожчыкаў у яе ўваходзіць, тым шырэй разяўляецца яе пашча. Незлічоныя тысячы ляжаць там і багатых, і бедных, незлічоныя соймы бачыў я па-

* Народ сінь—кітайцы.

кладзеных там. Ціха ляжаць яны ў дамоўках».

— Годзе,—сказаў Ізяслаў, і Някрас адразу ж змоўк. Далібор як скамянеў ад пачутага. Жах і холад былі на сэрцы. Колькі пакаленняў пайшло ў змрок, а ён, Далібор, які яшчэ ні добрай сечы не бачыў, ні жанчыны не песціў, хоча нечага дамагчыся, хоча нешта зразумець у зямным кароткім жыцці. Навошта бацька загадаў Някрасу чытаць гэтага Сірына? З неўразуменнем глядзеў княжыч на князя і бачыў суровы твар, строгія прыжмураныя вочы, якія, так яму зараз падумалася, амаль ніколі не ўсміхаюцца. Цёмныя няўсмешлівыя бацькавы вочы помняцца з самага зялёнага малалецтва. Нейкае бясконцае чаканне і нейкі одум у іх.

— Вось што такое жыццё, сыны,—прамовіў Ізяслаў.—А ты, Далібор, пачынай збірацца ў дарогу. Праз тры дні да Міндоўга едзеш.

Ноччу над Навагародкам пачало цяжка грымець у небе, а потым абломны лівень рынуўся на зямлю. Далібора пабудзіла маланка. Жоўтым трывожным святлом пырснула ў вузкае акно лажніцы. Далібор усхапіўся, працёр кулакамі вочы. Падалося, што нехта запаліў свечку ля самага твару. Глуха шумела за акном, за сцяной. Шыпела, захліпвалася, булькатала, аж екатала вада. Княжыч узняўся з ваўчыных шкур, на якіх любіў спаць, хоць маці строга забараняла, падышоў да акна, прыпаў ілбом да халоднага шкла. Дажджавыя бізуны сцябалі па шклу. Чорная цемра зеўрала за акном. Удары грому былі такія моцныя, такія ляскотныя, раскацістыя, аж звінела ўвушшу. Калі шырока ўсхоплівалася маланка, княжыч на кароткае імгненне паспяваў убачыць то аблітыя вадой, усклычаныя ветрам галіны бярозы, то крыты дорам дах малой грыдніцы, у якой жылі надворныя халопы, то бліскучыя камяні недабудаванай вежы. Усё гэта выразна выступала з цемры, потым зноў знікала, быццам змывалася, сціралася чорнай рукой навальнічнай ночы. З вялікай палёгкаю думаў Далібор аб тым, што княжацкі церам і ўсе пабудовы дзядзінца не возьме нябесны лятучы агонь, бо на вільчыках і на сценах, на дзвярах і на вокнах ахоўваюць людзей і іхняе багіно ад злыбяды грамнічныя знакі, кругі, перакрыжаваныя стрэламі. Як бы ні гневаліся Ільяпрарок і Пярун, але, убачыўшы гэтыя святыя знакі, адвядуць удар ад Навагародка і агністы серп маланкі ўвап'ецца ў зямную цвердзь недзе ў пушчах і балотах. Княжыч ужо зноў сабраўся спаць, калі ў вока яму кінулася такое, ад чаго перахапіла дыханне. Узмахнула крыламі маланка, азарыла чорнае, як бы металёвае, неба, і на двары дзядзінца Далібор, ледзь не крыкнуўшы ад здзіўлення, убачыў свайго бацьку, князя Ізяслава Навагародскага. Пад дзікаю навальніцаю бацька стаяў без шапкі, у незашпіленым карзне і трымаў за аброць каня, з якога злазіў нейкі незнаёмец у доўгім плашчы з капюшонам. Бацька нават падставіў плячо, і незнаёмец, пэўна, вельмі змучаны, здарожаны, абапёрся аб яго руку, цяжка саскочыў з сядла ў гразь. Толькі гэта ўдалося разгледзець Далібору, бо ўсё праглынула чорная прорва віхурыстай, дажджыстай ночы. Потым, калі зноў жыхнула маланка, нікога нідзе не было. Адно тлуста пузырылася гразь ды сцёбаў па лужынах шыпучы густы дождж. Але Далібор не мог памыліцца—некалькі імгненняў назад ён бачыў на начным двары свайго бацьку. Каго сустракаў ён? Чаму сустрэча адбывалася ноччу, а не ўдзень? Гэта выпадковасць ці загадзя было дамоўлена, што незнаёмец прыедзе ў Навагародак пад покрывам ночы? Няўжо бацька, князь, род якога вядзецца ад Глебавічаў і Рагвалодавічаў і якога некаторыя лісліўцы ўсё часцей пачынаюць велічаць вялікім князем, некага баіцца на ўласным дзядзінцы, у сваім горадзе, так баіцца, што сустракае гасцей хаваючыся, як начны таць? Далібор павольна адышоў ад акна, сеў на ложак, абшчаперыў галаву рукамі. Сум, нечаканы і востры, упіўся ў сэрца, хоць ты крычма крычы. Княжыч ведаў, што не засне ўжо да самага сонца.



# Ці патрэбны тэатр гістарычнай драмы?

Сваім жаданнем напісаць артыкул з такім загалоўкам-пытаннем і вынесці яго, як кажуць, на абмеркаванне шырокай публікі і зацікаўленых асоб (ці незацікаўленых інстанцый) я падзяліўся з некаторымі людзьмі тэатра. Яны чуць не чулі пра такую ідэю, таму іх рэакцыя мне была асабліва цікавая. І яны адрэагавалі: занадта экстравагантная ідэя пры нашым беларускім кансерватызме; пры нашай галечы, калі Маладзёжны тэатр ды Тэатр лялек не маюць чалавечых умоў для працы, гэта немагчыма; няма драматургіі, рэжысуры і г. д. Адным словам, думкі розных людзей сыходзіліся ў адной высное — утопія.

Утопія... Гэтае слова ў дачыненні да нашага «культурнага будаўніцтва» я таксама, бадай што, больш за іншыя разумею. З гадамі знікае аптымізм адносна радыкальнага ажыватварэння нашай сцэны, і ў першую чаргу беларускай (не па тэрытарыяльнай прыкмеце, а па сутнасці). І не без падстаў. Тым не менш ідэю, якая лунае ў паветры, а час ад часу і спускаецца на зямлю, у асяроддзе нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі, хачу падтрымаць. Зрабіць спробу яе аргументацыі.

## КАНТЭКСТ

Упэўнены, што гэта не толькі маё адкрыццё: сумнае, аднастайнае, з вельмі рэдкімі праясненнямі на даволі шэрым, пахмурным небе, нашае тэатральнае жыццё. Рэшткавы прынцып фінансавання культуры працуе плённа. Абыякавасць кіраўніцтва рэспублікі да развіцця нацыянальнага мастацтва — з'ява сталая і непарушная. Вынікі сумныя: па колькасці сцэнічных падмосткаў (і безадносна да душ насельніцтва, і з гэтымі — часцей мёртвымі для тэатра — душамі) рэспубліка пляцецца ў хвасце іншых савецкіх тэатральных культур. Што ж да ўласна беларускіх нацыянальных калектываў — а іх у нас толькі тры! — і гаварыць сорамна: наўрад ці знойдзецца на свеце яшчэ хоць адна такая краіна. Факт, які можна ўжо сёння назваць з'явай «аб'ектыўнага» характару: шлях беларускага тэатра не выключэнне ў працэсах развіцця ўсёй нашай культуры. Будзем больш дакладныя — у працэсах разбурэння гэтай культуры. І сёння мы ўжо стаім на руінах сцэнічнага мастацтва, якое шукала і знаходзіла сваю адметнасць, свой твар, нараджалася і развівалася з безумоўнай мастацкай перспектывай і мажлівасцямі стаць неад'емнай часткай жыцця народа.

Было... Але ў нябыт сышло. Вось і маем на 8 мільёнаў беларусаў недзе каля дзвюх тысяч крэслаў у глядзельных залах нацыянальных ці, дакладней, беларускамоўных тэатраў. Страчвае нацыянальную якасць рэжысура, зусім развучыліся думаць і гаварыць па-беларуску акцёры, не кажучы ўжо пра нешта больш глыбокае. 34 гады існуе Беларускі тэатр юнага гледача, і толькі разы са тры за сваю гісторыю (на год-два кожны раз) ён зведваў творчыя ўзлёты. Растуць юныя пакаленні беларусаў, якія або ніколі наогул за сваё дзяцінства не былі ў тэатры, або траплялі на тое, што страшна далёкае ад мастацтва. Страчвае творчыя пазіцыі калісьці знакаміты коласаўскі тэатр у Віцебску. Яшчэ з дзесятак гадоў назад там можна было ўбачыць па сутнасці нацыянальныя спектаклі — народна-гістарычныя драмы Уладзіміра Караткевіча ці сцэнічную версію паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка», крыху пазней там ставіліся сучасныя творы Аляксея Дударава. Цяпер жа — часцей ідзе сярэднестатыстычны рэпертуар расійскай правінцыяльнай сцэны. Больш-менш прытрымліваюцца свайго прызначэння купалаўцы: раз у некалькі гадоў тут з'яўляецца спектакль-падзея ў нацыянальным рэпертуары, накшталт апошніх «Страсцей па Аўдзею» Уладзіміра Бутрамеева. І такія спектаклі захоўваюцца ў афішы надоўга. Бо ёсць попыт гледача на нацыянальнае і высокамастацкае.

Амаль што нічога не дадаюць гледачу ў плане эстэтычным, духоўным і нешматлікія рускія калектывы (а можа, і тут больш правільна будзе сказаць — рускамоўныя). Гэта відавочна: тэатраў у нас мала. Тэатральных свежых ідэй, праектаў, мадэляў і таго менш. Усе яны — дзяржаўныя, рэпертуарныя, з акадэмізмам альбо без яго (дакладней: без належнага прафесіяналізму). Што выбраць гледачу? І ён выбірае спектакль выпадкова, а раптоўнага мастацкага адкрыцця не чакае.

Нарэшце з'явіліся новыя тэатры-студыі. Тэатральныя гурманы, якіх у нашай сталіцы становіцца ўсё менш і менш, што засведчылі апошнім часам і напаўпустыя залы на гастролях нават звыкла папулярных у Мінску маскоўскіх тэатраў, кінуліся ў «падвалы» на... Бекета, Мрожака, Ружэвіча. Мелі рацыю: там без акадэмізму, там шчыра, там «бедны» тэатр для не вельмі бедных. (Тэатры-студыі жывуць без датацый, на гаспадарчым разліку, з невялікімі падачкамі спонсараў, іграюць у маленькіх залах, а таму і білеты мусяць быць даражэйшыя.) І вось у снежні мінулага года адбыўся першы Рэспубліканскі фестываль тэатраў-студый. Як

старшыня журы сведчу: убачылі мы цікавыя эстэтычныя праграмы, паразважалі над новымі альтэрнатыўнымі мадэлямі сучаснай сцэны. І, за адзіным выключэннем, не ўбачылі жадання стварыць нацыянальны тэатр, які мог бы стаць прыналежнасцю ўласна беларускай культуры, нешта сучаснае і істотнае зрабіць для яе развіцця. Пасяліў бы хоць надзею.

Пра адзінае выключэнне. Яно — тэатр-студыя «Дзе-я», што працуе пад кіраўніцтвам Віталя Баркоўскага і Міколы Трухана. На іх спектаклях «Роспач» паводле твораў Уладзіміра Караткевіча і «Ілюзіён» па п'есе сучаснага латышскага драматурга Сеглiньша я разумеў, дзе я знаходжуся, на якой зямлі жыву, на якую хваробу хварэе мой народ.

жэвіч, Віткацы, Уільямс.... Такім чынам, жанр псіхалагічнай драмы павінен быў атрымаць развіццё ўглыб, узбагаціцца спробай псіхааналізу? Але, толькі спробай, бо, на мой погляд, на нашых вялікіх сцэнах да яго (псіхааналізу), нават са спазненнем на дзесяткі гадоў, тэатры аказаліся не гатовыя. І, па сутнасці, твары тэатраў яшчэ больш зніveліраваліся. Мастацтва большасці нашых прафесійных калектываў — маю смеласць выказаць палемічную думку — зайшло ў тупік, як па форме, так і па зместу. Усе яны загаварылі на адной і той жа мове, мове, як высветлілася, чужой, не ўласцівай нашай сцэне. Тым самым свядома звузіліся магчымасці тэатра весці размову з пэўным чалавекам у пэўнай прасторы і пэўным часе. Разважаючы ж пра нашу сучасную тэатральную культуру ў цэлым, хочацца крыкнуць «дзе я?», папярэдне ведаючы адказ на гэтае рытарычнае пытанне. Вядома ж — «мой адрес не дом и не улица, мой адрес — Советский Союз»...



Мінск. Траецкае прадмесце. ДАВТ БССР дае оперу «Дзікае паляванне караля Стаха».

## ЖАНР

Гады «свабоды» ў тэатральнай справе да прозвішчаў найбольш рэпертуарных драматургаў беларускай (па тэрытарыяльнай прыкмеце) сцэны — Гельмана, Галіна, Аро, Валодзіна і г. д. — дадалі новыя: Мрожак, Ру-

мову шырокую, ёмістую, пра свет і чалавека ў ім, пра гістарычны працэс, у якім духоўнасць і псіхалогія гэтага ж чалавека выяўляюцца найбольш поўна і востра.

Парадокс: жанр, найбольш арганічны для нацыянальнай сцэнічнай культуры, адкідваецца на задворкі. Народна-гістарычная драма як сцэнічны жанр натуральна склалася ў перспектыве развіцця беларускага тэатра. Гэты жанр даказаў сваю жыццяздольнасць, выпрацаваў свае законы, утварыў цікавыя разгалінаванні. Нарэшце, выдатна прайшоў апрабацыю ў гледача, які сваімі рублямі і апладысментамі галасаваў менавіта за яго. Можна дзеля доказу вярнуцца аж у 20-я—30-я гады, да спектакляў Е.Міровіча, Л. Рахленкі, Л. Літвінава, М. Зорава, К. Саннікава, У. Дарвішава. Мне запярэчаць — гэта ж даўніна. Адкажу прыкладамі двух апошніх дзесяцігоддзяў. Беларускі тэатр імя Янкі Купалы найбольшы поспех меў у сувязі з пастаноўкамі народна-гістарычных і народна-гераічных драм: «Людзі на балоце» паводле Івана Мележа (рэжысёр Б. Эрын), «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы (рэжысёр Б. Луцэнка), «Трыбунал» Андрэя Макаёнка, «Плач перапёлкі» Івана Чыгрынава, «Радавыя» Аляксея Дударава, «Страсці па Аўдзею» Уладзіміра Бутрамеева (усе спектаклі В. Раеўскага). Лепшыя пастаноўкі рэжысёра В. Мазынскага на коласаўскай сцэне — «Званы Віцебска» і «Кастусь Каліноўскі» Уладзіміра Караткевіча, «Сымон-музыка» паводле Якуба Коласа.

Спектаклі гэтыя нараджаліся і на аснове арыгінальных п'ес, і як перaклад на мову сцэны беларускай прозы і паэзіі. Яны яскрава сведчаць, што жанр народна-гістарычнай драмы пастаянна развіваўся, на рух тэатральных ідэй адказваў трансфармацыяй сваёй структуры, «архітэктонікі». Больш таго, ён з'яўляўся адной з тых эстэтычных спружын, якія падштурхоўваюць тэатр да новых мастацкіх пошукаў канкрэтнай сцэны ў кантэксце як рэалій жыцця, так і з'яў сусветнай тэатральнай культуры. А таму пастаянна захоўваецца цікавасць публікі да такіх спектакляў. Сёння гэты жанр можа саслужыць добрую службу людзям, якія ўсё больш і больш цікавяцца сваёй гісторыяй, лёсам продкаў. Менавіта сапраўдная гістарычная драма, зазірнуўшы ці то ў сівізну вякоў, ці то ў не вельмі аддаленае ад нас мінулае, можа расплюшчыць вочы сляпым, даць падставу для больш глыбокага роздуму ўжо відушчым. Расказаць пра тое, хто мы, адкуль мы, як даўно і куды ідзём. Зразумець нацыянальныя якасці беларускага народа.

## ПРАЕКТЫ І ПРАЖЭКТЫ

Па сутнасці, калі ўсур'ёз, ідэя стварэння ў Мінску тэатра гістарычнай драмы — гэта ідэя адкрыцця яшчэ аднаго нацыянальнага тэатра.

Мне бачыцца такі тэатр як культурны цэнтр, дзе, пры наяўнасці нармальнага будынка, маглі б адбывацца не толькі спектаклі, але і цікавыя сустрэчы з дзеячамі беларускай культуры, мастацкія і фатаграфічныя выставы, канцэрты. Там былі б і бібліятэка, і дыскусійная зала. А найперш патрэбна абсталяваць залу і сцэну па апошняму слову інжынернай думкі, каб былі магчымасці іграць спектаклі відовішчныя, з мноствам персанажаў і ў складаных дэкарацыях...

Стоп... Успамінаю словы сяброў: «...пры нашай галечы...» Але ведаю і іншыя думкі людзей, якія сёе-тое ў тэатры разумеюць. Праўда, яны, напэўна, з апошніх аптымістаў. Валерый Маслюк, які як рэжысёр, на мой погляд, мае адметнае нацыянальнае мысленне, што выдатна выявілася ў спектаклях «Знак бяды», «Тутэйшыя», «Клеменс», такую ідэю не лічыць поўнай утопіяй. Для яе ўвасаблення, паводле яго слоў, патрэбна не так ужо і многа — разуменне рэспубліканскімі і гарадскімі ўладамі важнасці гэтай справы. А як быць з тэатральным памяшканнем, з глядзельнай залай, сцэнай, буфетам і да таго падобным? Лепшага будынка, чым той, дзе зараз размяшчаецца Мінскі гарком партыі, для такой мэты немагчыма знайсці. Так лічыць Валерый Маслюк, дадаючы, што перабсталяванне было б не цяжкае і не вельмі дарагое.

Што ж, Валерый, адзінае, што асабіста я магу зрабіць, гэта пераказаць Ваша меркаванне чытачам. Сам жа я не такі аптыміст. Не веру я, што — які б там ні быў ён добры — апарат пакіне свой утульны будынак дзеля... тэатра. Цяжка ўявіць сабе, што ўрад рэспублікі знойдзе грошы для рэалізацыі такога праекта, калі галоўны беларускі тэатр — Тэатр імя Янкі Купалы — атрымлівае датацыю на ўзроўні украінскіх абласных сцэн.

У Міністэрстве культуры крыху іншыя праекты. Я сустрэўся з намеснікам міністра Уладзімірам Рылаткам. Ён, як мне падалося, горача подтрымлівае ідэю стварэння ў Мінску тэатра гістарычнай драмы і пашырае яе да ідэі тэатра, у якім наогул можа ісці беларуская драматургія. Але міністэрскія супрацоўнікі большыя рэалісты. Яны звязваюць гэты праект з будаўніцтвам на Кастрычніцкай плошчы сталіцы Палаца культуры рэспублікі (здаецца, ён так будзе называцца). Вось там у адной з залаў і мяркуецца размясціць тэатр. А да тых часоў, пакуль гэты «цуд-палац» не будзе ўзведзены, нават гаворку пра выдзяленне ўрадам фінансаў пад тэатр гістарычнай драмы весці не прыходзіцца.

Аргументы слушныя. Але ці ёсць хоць якія-небудзь гарантыі, што гэты «цуд архітэктурнай думкі» будзе ўзведзены ў бліжэйшы год ці нават два? Ці не згубіцца наш будучы тэатр у гэтым палацы? А можа, Міністэрства культуры ўжо ў бліжэйшы час змагло б увайсці ў пай з іншымі арганізацыямі дзеля ажыццяўлення іншага, больш мабільнага і таннага праекта? Не выпускаючы, канечне, з поля зроку магчымае «засяленне» палаца замежнымі рок-гуртамі ці пышнымі з'ездамі і сходамі.

Ёсць і ідэя такога больш мабільнага тэатра. Тэатра пад адкрытым небам у Траецкім прадмесці. На мой погляд, праект мае сэнс. Бываючы за мяжой, я шмат бачыў такіх тэатраў. У Лондане, у «Рэджэнтс-парку», мінулым летам глядзеў шэкспіраўскую «Дванаццатую ноч» у прыродных дэкарацыях. У «зале» былі як жыхары брытанскай сталіцы, так і шматлікія турысты з усяго свету. Гэта было па-сапраўднаму нацыянальнае англійскае відовішча. У Фінляндыі разам з групай мінскіх акцёраў мы калісьці глядзелі народную драму з жыцця фінскай вёскі ў натуральных дэкарацыях старога парку. А глядзельная зала — вялікае кола — паварочвалася і адкрывала нам то бераг возера, то сялянскую сядзібу, дзе і адбывалася дзеянне. Можна прывесці шмат цікавых мадэляў-ідэй тэатраў пад адкрытым небам у старажытных

частках гарадоў прыбалтыйскіх рэспублік або Грузіі.

Як правіла, у такіх тэатрах увесь летні сезон іграецца адна п'еса. Акцёры набіраюцца на адзін спектакль з розных труп. Запрашаюцца рэжысёр, мастак і яшчэ некалькі спецыялістаў. Пастаянна ў штаце ўсяго некалькі чалавек. Напрыклад, дырэктар, мастацкі кіраўнік. Гледачоў ніколі і нідзе не бракавала. Турысты ў першую чаргу. І прапануюць ім не нейкае сусальнае нацыянальнае мастацтва, а гісторыю нацыі, з аднаго боку, з другога — яркае, эмацыянальнае відовішча.

У нашым Траецкім прадмесці ёсць такія месцы, дзе можна было б разыграць любую гістарычную п'есу. Між іншым, першая такая спроба ўжо адбылася. Пад адкрытым небам, з вялікай масоўкай, у адзін з летніх вечароў мінулага лета тут быў сыграны спектакль-опера «Дзікае паляванне караля Стаха» акцёрамі нашага Вялікага тэатра оперы і балета (у пастаноўцы рэжысёра Вячаслава Цюпы).

Такую ідэю тэатра гістарычнай драмы падтрымлівае Беларускі фонд культуры. І нават можа выдзеліць пэўную пачатковую суму на ўвасабленне ў жыццё гэтага праекта.

Я паспрабаваў пункцірам пазначыць тры ідэі з магчымых. Упэўнены, што творцы могуць прапанаваць яшчэ далёка не адну мадэль такога тэатра. А цяпер — апошнія і, на мой погляд, вельмі важкія аргументы. У нас ёсць рэжысура, якая хварэе за развіццё нацыянальнай сцэны. Якая і валодае нацыянальным мастацкім мысленнем, і шукае новыя формы: Валерый Мазынскі, Валерый Маслюк, Вячаслаў Цюпа, Уладзімір Матросаў, Віталь Баркоўскі, Мікола Трухан, Віталь Катавіцкі... Ёсць што ставіць. Рэжысёры могуць знайсці агульную мову з беларускімі пісьменнікамі — Алесем Петрашкевічам, Іванам Чыгрынавым, Вольгай Іпатавай, Уладзімірам Бутрамеевым, Уладзімірам Арловым, Алесем Асташонкам. Францыск Скарына, Васіль Вашчыла, Давыд Гарадзенскі, Браніслаў Тарашкевіч, Рагнеда, Паўлюк Багрым чакаюць, калі змогуць ажыць у акцёрскім выкананні.

Галоўнае — у нас ёсць патрэба ў тэатры. І перш за ўсё — у нацыянальным.

**Вячаслаў РАКІЦКІ**



**А. Кашкурэвіч.** Янка Купала ў Пецярбургу. Лінарыт, 1981 г.





Маладзіца ў свіце канца XIX ст. Валожынскі раен Мінскай вобласці.



Дзяўчына ў святочным уборы 1920-х гадоў. Камянецкі раен Брэсцкай вобласці.

*кі. Дзіву даешся, колькі старання і ўмельства ўкладвалі майстрыхі ў тонка вытканыя ці вышываныя ромбы, крыжыкі, зоркі, скампанаваныя ў палосы на рукавах, манжэтах, каўнярах кашуль, падолах фартухоў, на галаўных уборах — скіндачках і намітках. Такі камплект касцюма мог быць адзін на ўсё жыццё, затое ў ім не сорамна было выйсці «ў людзі», у госці, на кірмаш, у царкву, на свята. Уваходзіла адзенне і ў пасаг маладой:*

Не ўважай, Ясеньку, каб была росла,
Сам глядзі, у людзей пытай, ці ўмее
ткаць кросна.
Не глядзі, Ясю, ці ў пацерках шыя,
Сам глядзі, у людзей пытай, ці кашулю
ўшые.

*— раілі ў народнай песні хлопцу, якія якасці будучай жонкі трэба цаніць перш за ўсё.*

*На першы погляд традыцыйнае народнае адзенне можа здацца аднародным на ўсёй Беларусі. І сапраўды, асноўныя яго кампаненты (кашуля, андарак, фартух, гарсэт, галаўныя ўборы, абутак), каларыстыка (чырвоны з дадаткам чорнага на белым фоне), арнаментыка (геаметрычная, пазней — і моцна стылізаваная раслінная) тыповыя практычна для ўсёй Беларусі, што складае яго этнічную адметнасць. Але гляньце на гэтыя здымкі: не цяжка заўважыць, што характар касцюма розніцца нават у суседніх рэгіёнах. То насычанасць узору розная, то іншае яго размяшчэнне, то нейкія адметныя дэталі, асаблівасці крою і інш.*

*Няўмольны час уносіць у наша жыццё свае карэктывы. На поўначы Беларусі традыцыйны касцюм выйшаў з ужытку ўжо ў*





# «Злітуйцеся...»

**У нашу штодзённасць трывала ўвайшлі такія словы, як перабудова і галоснасць, адкрытасць. Народ нарэшце дазнаўся, што яму паказвалі мінулае зусім не такім, якім яно было ў сапраўднасці, што ў нашай гісторыі было занадта «белых плям», якія на справе аказаліся чорнымі плямамі на сумленні краіны.**

**Зараз праводзіцца работа па аднаўленню справядлівасці ў адносінах да ахвяр рэпрэсій 30-х, 40-х, пачатку 50-х гадоў. Створаны спецыяльныя камісіі, ім вельмі дапамагаюць архівісты.**

**У філіяле Дзяржархіва Мінскай вобласці ў г. Маладзечне выяўлены дакументы на асоб, што падвяргаліся рэпрэсіям у канцы 1939—1941 гг. і ў 1947 — 1952 гг. Захаваліся спісы асуджаных Асобай нарадай і Ваенным трыбуналам, назіральнае справаводства па справах асуджаных за контррэвалюцыйную дзейнасць, здраду Радзіме, шпіянаж, удзел у контррэвалюцыйных арганізацыях, жаданне выехаць з СССР і г. д. Пад гэтыя абвінавачанні часта траплялі дзеячы КПЗБ і КСМЗБ, іншых партый левага кірунку і грамадскіх арганізацый Заходняй Беларусі, такіх, як ТБШ (Таварыства Беларускай школы), БСРГ (Беларуская сялянска-рабочая грамада) і інш.**

**Дакументы архіва апавядаюць пра тое, як ажыццяўлялася калектывізацыя ў Заходняй Беларусі, як у выніку раскулачвання ламаўся лёс не толькі гаспадароў, названых кулакамі, але і членаў іх сем'яў, дзяцей.**

**У выніку «пашырэння дакументальнай базы грамадскіх навук», а прасцей кажучы — рассакрэчвання дакументаў, праведзенага апошнім часам, усе яны сталі даступныя для шырокага кола даследчыкаў.**

**Але дамо слова самім дакументам.**

**Перад намі справа, у якой прыведзены спіс асоб, асуджаных Асобай нарадай на 25 снежня 1940 г. па КНКУС Вілейскай вобласці. У спісе 1603 чалавекі, чый лёс без суда і следства вырашыла «славутая» «тройка». Прыводзім узор пастановы на арышт.**

*«Постановление:*
*(на арест)*
*г. Молодечно. 14 декабря 1939 г.*

*Я, временный начальник 3 отделения уездного отдела НКВД БССР сержант Госбезопасности Мордвинов, рассмотрев поступившие в НКВД СССР материалы о преступной деятельности Гладковского Андрея Феликсовича, 1912 г. р., по соц. происхождению из крестьян, работает на ж/д ст. Молодечно, стрелочник,*

*Нашел:*

*Гладковский Андрей Феликсович проводит антисоветскую агитацию и одновременно подбирает кадры для повстанческой организации, а потому*

*Постановил:*

*Гладковского Андрея Феликсовича, прож. в м. Лебедево по ул. Сивского, подвергнуть аресту и обыску.*

*Следователь Подпись*

*Резолюция: согласен. Нач. следчасти ст. лейтенант Ульянов».*

*(Ф. 60, воп. 3, спр. 44, а. 2).*

**І ўсё. Чалавек трапляў у турму, а потым у лагер.**

**У нас няма дакументаў ГУЛАГаў, пра гэта напішуць іншыя. Але вось наш дакумент.**

*«Прокурору БССР. 17.03.40 г. Сов. секретно.*

*...Сообщаем, что в Вилейской области имеется 7 тюрем:*

| | |
|---|---|
| *г. Вилейка с лимитом* | *250 чел.* |
| *г. Молодечно* | *153 чел.* |
| *г. Ошмяны* | *183 чел.* |
| *г. Браслав* | *140 чел.* |
| *г. Поставы* | *неизвестно* |
| *г. Свенцяны* | *80 чел.* |
| *г. Глубокое* | *530 чел.* |

*Прокурор Вилейской обл. Подпись».*

*(Там жа, спр. 13, а. 46).*

**А вось акт абследавання вілейскай турмы па стану на 15 лютага 1940 г.**

*«Главный корпус тюрьмы состоит из 41 камеры. Лимит установлен на 350 человек, а содержится в день проверки 827 чел., из них: числится за УНКВД по Вилейской обл.— 808 чел., за органами милиции — 8 чел., за судьями —6 чел. и за прокуратурой —4 чел., осужденных — 1 чел.*

*Содержатся без оформления и санкции прокурора, считая с сентября 1939 г.,—260 чел. (список прилагается), на которых личных дел в канцелярии тюрьмы не имеется.*

*Кроме этого — 326 чел. содержатся с истекшим сроком содержания под стражей без санкции прокурора.*

*Выявлено, что гражданин Скуратович Адам Карлович с 28 октября 1939 г. содержится под стражей без всяких оснований, т. е. не имеется на него уголовного дела (со слов нач. тюрьмы т. Колесова видно, что гр. Скуратович был задержан и доставлен в тюрьму по телефонному распоряжению быв. начальника опергруппы НКВД Вилейского уезда тов. Козлюка).*

*В 12-й камере главного корпуса тюрьмы выявлено, что 4 человека содержатся под стражей с 20 декабря 1939 г., не получили нательного белья и не проходили санобработку.*

*В женских камерах №№ 30, 32 находятся больные туберкулезом арестованные (по их*

У год 6648 (1139)... У той жа час вярнуліся з Царграда два [полацкія] княжычы, якіх саслаў быў Мсціслаў, вялікі князь кіеўскі, за тое, што не скарыліся яму і не паслухалі яго, калі клікаў іх у Рускую зямлю на дапамогу, і, больш таго, жадалі здароўя шалудзіваму Баняку. І з-за гэтага раззлаваўся на іх Мсціслаў і хацеў на іх пайсці, але нельга было, бо тады [моцна] былі налеглі полаўцы на Русь. І калі Мсціслаў вызваліўся ад раці, успомніў ён ранейшае і паслаў па крывіцкіх князёў, па Давыда, Расціслава, Святаслава і двух Рагвалодавічаў [Васіля і Івана], пасадзіў іх у тры лодкі і саслаў у Царград за непаслушэнства, а сваіх мужоў пасадзіў па іх гарадах.

У год 6651 (1143)... У той жа год прывёў Усевалад, вялікі князь кіеўскі, свайму сыну Святаславу [за жонку] Васількаўну, [дачку] полацкага князя.

У год 6652 (1144)... У той жа год Ізяслаў [Мсціславіч] аддаў сваю дачку ў Полацк за Рагвалода Барысавіча, і Усевалад, [вялікі] князь кіеўскі, прыходзіў з жонкаю і з усімі баярамі на вяселле. У той жа год прызначылі Полацку епіскапам Кузьму.

У год 6659 (1151)... У той жа год схапілі палачане Рагвалода Барысавіча, князя свайго, і паслалі ў Менск і там трымалі [яго] у цяжкай няволі, а [Расціслава] Глебавіча прывялі да сябе [у Полацк]. І прыслалі палачане [сваіх паслоў] да Святаслава Ольгавіча, выказваючы сваю дружалюбнасць, і абяцалі слухацца яго, як бацьку, і на гэтым цалавалі яму крыж.

У год 6667 (1158)... У той жа год ідзе Рагвалод Барысавіч ад Святаслава Ольгавіча [князя чарнігаўскага] шукаць сабе воласці, узяўшы [на падмогу] полк Святаславаў, бо не літасцівыя былі браты яго: [яны] адабралі ў яго воласць і ўвесь набытак. Прыехаўшы к Слуцку, ён паслаў [сваіх пасланцоў] да дручан. Дручане ж былі рады яму і, прыязджаючы да яго, вабілі да сябе [у Друцк], гаворачы: «Прыязджай, княжа, не марудзь, [вельмі] рады мы табе: нават калі нам з дзецьмі [сваімі давядзецца] біцца за цябе, з радасцю будзем біцца». І выехалі насустрач яму больш як 300 дручан і палачан, і ўвайшоў [Рагвалод] у горад [Друцк] з вялікай пашанаю, і рады былі яму людзі. Глеба ж Расціславіча выгналі і двор яго разрабавалі, і дружыну яго, і прыйшоў Глеб да [свайго] бацькі [у Полацк].

Вялікі мяцеж быў [тады] у горадзе сярод палачан, бо многія хацелі Рагвалода. Ледзьве супакоіў людзей Расціслаў, адарыў многіх падарункамі, прыводзіў іх да крыжа [цалаваць], а сам пайшоў з Усеваладам і Валадаром і з усімі братамі на Рагвалода к Друцку. Рагвалод жа закрыўся ў горадзе. І моцна біліся, і шмат з абодвух бакоў палегла. Дручане ж шмат дакаралі [братоў]. І ўчыніў мір Расціслаў з Рагвалодам, і цалавалі яны крыж адзін аднаму, і аддалі воласці Рагвалоду. І вярнуўся Расціслаў з братамі дамоў.

У тое ж лета ўчынілі змову палачане супраць свайго князя Расціслава Глебавіча і пераступілі крыжацалаванне, бо яны [раней] цалавалі яму крыж, [гаворачы], што «ты наш князь і дай нам Бог з табою пажыць, ніякай здрады не ўчыніць аж да крыжацалавання». І так адступілі [ад прысягі на крыжы], як я казаў, і паслалі патаемна да Рагвалода Барысавіча ў Друцк, гаворачы яму: «Княжа наш, саграшылі мы перад Богам і перад табою, што выступілі супраць цябе без прычыны, набытак твой увесь і тваёй дружыны разрабавалі, а цябе самога, схапіўшы, выдалі Глебавічам на вялікія пакуты. Калі ж ты не прыпомніш нам усё тое, што мы, неразумныя, табе ўчынілі, і крыж нам пацалуеш, то мы людзі твае, а ты наш князь. Расціслава ж, схапіўшы, аддамо табе ў рукі, і што ты захочаш, тое і зробіш з ім». І Рагвалод прысягнуў [палачанам] на крыжы, што ён не прыпомніць ім усё тое [дрэннае, што яны яму ўчынілі], і адпусціў іх назад.

Сярод палачан былі прыхільнікі Расціслава, [яны паведамілі яму], што яго хочуць схапіць. І пачалі [палачане] лісліва клікаць Расціслава на братчыну да старой [царквы] святой Багародзіцы на Пятроў дзень, каб там схапіць яго. Ён жа паехаў да іх, схаваўшы зброю пад адзенне, і не пасмелі [змоўшчыкі] напасці на яго. Назаўтра пачалі яго [зноў] вабіць да сябе, гаворачы: «Княжа, прыедзь да нас, ёсць у нас да цябе [важная] справа, прыедзь жа да нас у горад» (быў тады князь у Бельчыцах). І сказаў Расціслаў паслам: «Я ж учора ў вас быў, чаму [нічога] не гаварылі мне, што ў вас была да мяне справа?» І, нічога не падазраючы, паехаў [Расціслаў] у горад. І тут памчаў з горада яму насустрач слуга: «Не едзь, княжа, веча [сабралася] супраць цябе ў горадзе і дружыну тваю збіваюць, а цябе [самога] хочуць схапіць». І тады вярнуўся [Расціслаў] назад у Бельчыцы, сабраў усю сваю дружыну і адтуль пайшоў да брата [свайго] Валадара ў Менск. І шмат шкоды ўчыніў [ён] Полацкай воласці, ваюючы, [забіраючы] скаціну і чэлядзь. І паслалі палачане па Рагвалода ў Друцк. І ўвайшоў Рагвалод у Полацк месяца ліпеня [8-га дня] і сеў на [княжацкім] стале дзеда свайго [Усяслава] і бацькі свайго [Барыса] з вялікай пашанаю, і так былі рады палачане.

Пасля Рагвалод сабраў шмат вояў палачан, і Расціслаў Мсціславіч [князь смаленскі] прыслаў яму двух сыноў на дапамогу, Рамана і Рурыка, і смалян, наўгародцаў і пскавічан, ды і сам [Расціслаў] пайшоў бы, але [яго] вярнуў [назад] Аркадзь, епіскап наўгародскі, ідучы з Кіева. І пайшлі [усе] на Расціслава [Глебавіча] к Менску. Спачатку пайшлі да [горада] Ізяслаўля на Усевалада. Усевалад жа зачыніўся ў Ізяслаўлі, і аблажылі горад. Усевалад вельмі любіў Рагвалода і, на тую любоў спадзеючыся, выехаў яму пакланіцца. Рагвалод жа аддаў [горад] Ізяслаўль Брачыславу, а Усеваладу даў Стрэжаў. І адтуль пайшоў [Рагвалод] на Менск, і стаяў ля горада 10 дзён і ўчыніў мір з Расціславам, і крыж цалавалі. Валадар жа не цалаваў крыж, бо [ён] хадзіў [тады] па лясах каля Літвы.

У год 6667 (1159)... У той жа год Глебавічы Валодшу і Брачыслава паланілі ў Ізяслаўлі, і пасадзілі Валодшу ў цямніцу, а Брачыслава закавалі. (Гэтая звестка ўзята намі з Васкрасенскага летапісу.— В. Г.)

У год 6668 (1159)... У той жа год хадзіў Рагвалод з палачанамі на Расціслава Глебавіча к Менску. Паслаў Рагвалоду Расціслаў [Мсціславіч] з Кіева падмогу — 600 торкаў [на чале] з Жыраславам Нажыравічам, але яны, знясіленыя голадам, вярнуліся пехатою назад, не дачакаўшыся міру. Рагвалод жа прастаяў каля горада 6 тыдняў і ўчыніў мір з Расціславам па сваёй волі, вызваліў Валодшу з цямніцы, а Брачыслава з аковаў, і цалавалі [яны] крыж адзін аднаму.

У год 6669 (1160)... У той жа год хадзіў Рагвалод к Менску на Расціслава Глебавіча і ўчыніў з ім мір і вярнуўся дамоў.

У год 6670 (1161)... У той жа год прыходзіў Рагвалод з палачанамі на Валадара к Гарадку. Валадар жа не ўступіў з ім у бой днём, а ноччу [раптоўна] напаў на яго з горада разам з літоўцамі. І шмат бяды ўчынілася ў тую ноч: адных [палачан] забілі, а большасць рукамі палавілі. Рагвалод жа ўцёк у Слуцк і, прабыўшы там 3 дні, пайшоў у Друцк, а ў Полацк не пасмеў вярнуцца, бо вельмі шмат загінула палачан. Палачане ж пасадзілі ў Полацку [Усяслава] Васількавіча.

У год 6675 (1166)... У той жа год хадзіў Валадар Глебавіч к Полацку ваяваць. Васількавіч жа Усяслаў пайшоў супраць яго з палачанамі. Валадар жа, уведаўшы, што ідуць супраць яго, не даў ім злучыцца і ўдарыў на іх знянацку і шмат іх пабіў, а іншых рукамі палавіў. Усяслаў жа ўцёк у Віцебск. Валадар жа ўвайшоў у Полацк, цалаваў крыж з палачанамі і пайшоў к Віцебску на Давыда [Расціславіча] і на Усяслава. Прыйшоўшы, [ён] спыніўся ля ракі, і пачалі біцца праз раку. Давыд жа не ўступіў з ім у бойку, бо чакаў брата свайго Рамана са смалянамі. І тут дзіва здарылася апоўначы: моцны гул пачуўся, быццам бы воі пераходзяць раку. І страх напаў на вояў Валадаравых, і сказала яму [яго] дружына: «Што стаіш, княжа, не ідзеш прэч; вось тут Раман пераходзіць раку, а там Давыд». І пабег Валадар з-пад Віцебска. Назаўтра Давыд, убачыўшы, што Валадар уцёк, пусціў за ім пагоню, і не дагналі іх, але па лесе шмат палавілі; Усяслава ж паслаў у Полацк.

У год 6688 (1181)... Змовіліся Яраслаў з Ігарам і пайшлі к Друцку, узяўшы з сабою полаўцаў, а Усевалада, брата Ігаравага, і Алега Святаславіча пакінулі ў Чарнігаве. На стрэчыны [8-га лютага] прыйшлі і полацкія князі, каб памагчы Святаславу: Брачыслаў Васількавіч з Віцебска, яго брат Усяслаў з палачанамі, з імі ж былі ліві і літоўцы, Усяслаў Мікуліч з Лагожска, Андрэй Валодшыч і яго пляменнік Ізяслаў і Васілька Брачыславіч. Калі ўсе сабраліся, пайшлі міма Друцка насустрач Святаславу. Давыд жа, князь смаленскі, з усім сваім войскам увайшоў у Друцк і злучыўся з Глебам Рагвалодавічам. І хацеў Давыд Яраславу і Ігару даць бой да [прыходу] Святаслава. Яраслаў жа з Ігарам не рашыліся пачаць бітву з Давыдам без Святаслава. Выбраліся яны на сухія мясціны і стаялі тыдзень абапал Друці насупраць адзін аднаго. Ад Давыдавага войска прыязджалі стральцы, і моцна з імі біліся [нашы]. Затым прыехаў Святаслаў з наўгародцамі, і рады былі яму яго браты. Перагацілі Друць, збіраючыся ісці на Давыда, аднак ён зняўся ноччу і ўцёк у Смаленск. Святаслаў жа падступіў да Друцка і папаліў астрог; адтуль адпусціў дамоў наўгародцаў, сам жа пайшоў да Рагачова, а з Рагачова паехаў па Дняпры да Кіева.

У год 6694 (1186)... У той жа год зімою пайшоў на Полацк Давыд Расціславіч са Смаленска, а сын яго Мсціслаў з Ноўгарада, з Лагожска Васілька Валадаравіч, з Друцка Усяслаў. Уведаўшы пра гэта, параіліся палачане і сказалі: «Не можам мы выступіць супраць наўгародцаў і смалян, бо калі пусцім іх у сваю зямлю і нават мір заключым з імі, то яны ўсё роўна шмат бяды нам наробяць, спустошаць нашу зямлю, ідучы да нас, пойдзем лепш да іх на сумежжа». І, сабраўшыся, пайшлі да іх, і сустрэлі іх на пагранiччы з паклонам і з пашанаю і паднеслі шматлікія падарункі, і так усё ўладзілася. І разышліся кожны ў свой бок. (Звестка за 1186 г. узята намі з Лаўрэнцьеўскага летапісу.— В. Ч.).

Прадмова і пераклад са старажытнарускай
Вячаслава ЧАМЯРЫЦКАГА

# Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста Паводле Мацвея Святое Дабравесце

Раздзел 5

## КАЗАНЬ НА ГАРЫ

1 Убачыўшы ж натоўпы, Ён узышоў на гару. І калі сеў, падышлі да Яго вучні Яго.
2 І Ён, адкрыўшы вусны Свае, вучыў іх, кажучы:

## ХТО ШЧАСЛІВЫ

3 Шчаслівыя ўбогія духам; бо іх ёсць Царства Нябеснае.
Лук. 6, 20.
4 Шчаслівыя засмучаныя; бо яны ўсцешаны будуць.
Іс. 61, 2—3; Лук. 6, 21.
5 Шчаслівыя лагодныя; бо яны атрымаюць у спадчыну зямлю.
Пс. 36, 11.
6 Шчаслівыя згаладалыя і сасмяглыя па справядлівасці, бо яны будуць натолены.
7 Шчаслівыя літасцівыя; бо да іх будуць мець літасць.
8 Шчаслівыя чыстыя сэрцам; бо яны ўбачаць Бога.
Пс. 23, 4.
9 Шчаслівыя міратворцы; бо яны будуць названы Божымі дзецьмі.
Яўр. 12, 14.
10 Шчаслівыя, каго гоняць за праўду; бо іх ёсць Царства Нябеснае.
1 Пят. 3, 14.
11 Шчаслівыя вы, калі вас будуць ганьбіць, і гнаць, і хлусліва казаць на вас усялякае слова ліхое з-за Мяне.
Лук. 6, 22. 1 Пят. 4, 14.
12 Радуйцеся і весяліцеся; бо вялікая ваша ўзнагарода ў нябёсах: гэтак жа гналі прарокаў раней за вас.
Мац. 21, 35.

## СОЛЬ І СВЯТЛО

13 Вы — соль зямлі; калі ж соль страціць моц, чым яе насаліць? Ні на што яна ўжо не прыдаецца, хіба толькі выкінуць вон, каб таптаў людзі.
Мар. 9, 50. Лук. 14, 34.
14 Вы — святло свету. Не можа горад схавацца, стоячы наверсе гары.
Філ. 2, 15.
15 І калі запальваюць каганец, ставяць яго не пад пасудзіну, а на падстаўку, і свеціць ён усім у доме.
Мар. 4, 21. Лук. 8, 16; 11, 33.
16 Гэтак няхай свеціць ваша святло перад людзьмі, каб яны бачылі вашы добрыя ўчынкі і ўслаўлялі вашага Бацьку, што ў нябёсах.
1 Пят. 2, 12. Філ. 2, 15.

## ІСУС І СТАРЫ ЗАПАВЕТ

17 Не думайце, што Я прыйшоў адмяніць закон ці прарокаў; не адмяніць Я прыйшоў, а здзейсніць.
18 Папраўдзе ж кажу вам: пакуль не мінецца неба і зямля, ніводная ёта ці рыса адзіная не знікне з закона, аж пакуль не спраўдзіцца ўсё.
Лук. 16, 17.
19 Дык вось, хто б ні парушыў адну з найменшых гэтых запаведзяў і так людзей навучыў, таго назавуць найменшым у Царстве Нябесным; а таго, хто выканае і навучыць, вялікім назавуць у Царстве Нябесным.
20 Бо Я кажу вам: калі ваша справядлівасць не будзе большаю за справядлівасць кніжнікаў і фарысеяў, то вы не ўвойдзеце ў Царства Нябеснае.

## НЕ ГНЕВАЙЦЕСЯ НА СВАЙГО БЛІЖНЯГА

21 Вы чулі, што было наказана старажытным: «не забівай, а хто б ні забіў, падпадзе пад суд».
Зых. 20, 13. Друг. 5, 17. Мац. 19, 18. Мар. 10, 19. Лук. 18, 20.
22 А я кажу вам, што кожны, хто дарэмна гневаецца на свайго брата, падпадзе пад суд; а хто б ні сказаў свайму брату: «рака́»[1], падпадзе пад сінедрыён[2], а хто б ні сказаў «дурны», падпадзе пад геену вогненную.
23 Дык вось, калі ты прынясеш свой дар на ахвярнік і там успомніш, што брат твой мае нешта супроць цябе,
24 Пакінь там свой дар перад ахвярнікам і пайдзі перш памірыся са сваім братам і тады, прыйшоўшы, ахвяруй свой дар.
25 Мірыся са сваім праціўнікам хутка, пакуль з ім у дарозе; каб толькі праціўнік не перадаў цябе суддзі, а суддзя не перадаў цябе выканаўцу і не быў ты кінуты ў цямніцу.
Лук. 12, 58.
26 Папраўдзе кажу табе: не выйдзеш адтуль, аж пакуль не аддасі астатняга кадранта[3].

## ПРА БЛУД І РАЗВОД

27 Вы чулі, што было наказана старажытным: «не чыні пералюбу».
Зых. 20, 14. Друг. 5, 18.
28 А Я кажу вам, што кожны, хто пажадліва глядзіць на жанчыну, ужо ўчыніў пералюб з ёю ў сэрцы сваім.
29 Калі ж тваё правае вока спакушае цябе, вырві яго і адкінь ад сябе; бо лепей табе, каб загінуў адзін з тваіх членаў, а не каб усё тваё цела было кінута ў геену.
Друг. 13, 6—8. Мац. 18, 8—9. Мар. 9, 43, 47.
30 І калі твая правая рука спакушае цябе, адсячы яе і адкінь ад сябе; бо лепей табе, каб загінуў адзін з тваіх членаў, а не каб усё тваё цела было кінута ў геену.
31 Сказана таксама, што хто б ні разводзіўся з жонкай сваёю, няхай дасць ёй разводны ліст.
Друг. 24, 1. Мац. 19, 7. Мар. 10, 4, 11. Лук. 16, 18. 1 Кар. 7, 10.
32 А Я кажу вам, што хто б ні разводзіўся з жонкай сваёй, апроч як з віны распусты, даводзіць яе да пералюбу; і хто б ні ажаніўся з разведзенаю, чыніць пералюб.

## НЕ КЛЯНІЦЕСЯ

33 Яшчэ вы чулі, што наказана старажытным: «не прысягай фальшыва, а датрымай Госпаду свае клятвы».
Зых. 20, 7. Лев. 19, 12. Друг. 23, 21.
34 А Я кажу вам: не кляніцеся ўвогуле: ні небам, бо яно трон Божы;
35 Ні зямлёю, бо яна падножжа ног Яго; ні Ерусалімам, бо ён горад вялікага Цара;
36 Ні галавою сваёй не кляніся, бо не можаш ніводнага воласа зрабіць белым альбо чорным.
37 Няхай жа будзе ваша слова: «так, так», «не, не»; а што звыш таго — ад ліхога.
Іак. 5, 12.

## НЕ СУПРАЦІЎЛЯЙЦЕСЯ ЗЛОМУ

38 Вы чулі, што сказана: «вока за вока, і зуб за зуб»;
Зых. 21, 24. Лев. 24, 20. Друг. 19, 21.
39 А Я кажу вам: не супраціўляйся злому, але хто цябе ўдарыць у тваю правую шчаку, павярні да яго і другую;
Лук. 6, 29. Іак. 3, 13. Рым. 12, 17. 1 Кар. 6, 7. 1 Фес. 5, 15.
40 І хто захоча судзіцца з табою і ўзяць у цябе сарочку, аддай яму і плашч;
41 І хто цябе вымушае ісці адну мілю, прайдзі з ім дзве.
42 Таму, хто просіць у цябе, дай; і ад таго, хто хоча ў цябе пазычыць, не адварочвайся.
Друг. 15, 7. Лук. 6, 34.

## ЛЮБІЦЕ СВАІХ ВОРАГАЎ

43 Вы чулі, што сказана: «любі бліжняга твайго і ненавідзь ворага твайго»;
Лев. 19, 17—18, Мац. 22, 39. Мар. 12, 31. Іак. 2, 8. Рым. 13, 9.
44 А Я кажу вам: любіце сваіх ворагаў, бласлаўляйце тых, што праклінаюць вас, рабіце дабро тым, што ненавідзяць вас, і маліцеся за тых, што гоняць вас;
Лук. 6, 27. 23, 34. Дзеян. 7, 60. 1 Кар. 4, 12.
45 Каб вам зрабіцца дзецьмі Бацькі вашага, што ў нябёсах, які наказвае свайму сонцу ўсходзіць над ліхімі і добрымі і насылае дождж на справядлівых і несправядлівых.
Лук. 6, 35.
46 Калі ж вы будзеце любіць тых, што любяць вас, якая вам узнагарода? Ці ж не тое робяць і мытнікі[1]?
47 І калі вы вітаеце толькі вашых братоў, што асаблівага робіце? Ці ж не гэта робяць і язычнікі?
48 Дык будзьце вы дасканалыя, як дасканалы ваш Бацька, што ў нябёсах.

---

* Працяг. Пачатак гл.: «Спадчына», 1989, № 2.

[1] Пустая галава.
[2] Вярхоўны суд.
[3] Дробная манета.

[1] Зборшчыкі падаткаў.

Раздзел 6

## ПРА МІЛАСЦІНУ

1 Асцерагайцеся даваць міласціну сваю перад людзьмі, каб яны бачылі; а як не, то не будзеце мець узнагароды ад вашага Бацькі, што ў нябёсах.
2 Дык вось, калі даеш міласціну, не трубі перад сабою, як крывадушнікі робяць у сінагогах і на скрыжаваннях, каб хвалілі іх людзі. Папраўдзе кажу вам: яны ўжо атрымліваюць сваю ўзнагароду.
Рым. 12, 8.
3 У цябе ж, калі даеш міласціну, няхай твая левая рука не ведае, што робіць твая правая рука;
4 Каб твая міласціна была ў таямніцы; і твой Бацька, што бачыць у таямніцы, аддасць табе адкрыта.

## ПРА МАЛІТВУ

5 І калі молішся, не будзь, як крывадушнікі, што любяць у сінагогах і на рагах вуліц стоячы маліцца, каб паказаць сябе людзям; папраўдзе кажу вам, што яны ўжо атрымліваюць сваю ўзнагароду.
6 А ты, калі молішся, увайдзі ў сваю каморку і, зачыніўшы дзверы свае, маліся Бацьку свайму, што ў таямніцы; і Бацька твой, што бачыць у таямніцы, аддасць табе адкрыта.
7 А молячыся, не кажыце шмат, як язычнікі, бо яны думаюць, што ў шматслоўі сваім будуць пачутыя.
8 Дык не будзьце падобныя да іх; бо ведае Бацька ваш, у чым вы маеце патрэбу, перш чым вы ў Яго папросіце.
9 Вы ж маліцеся так: Ойча наш, які ў нябёсах! Няхай будзе ў святасці імя Тваё;
Лук. 11, 2.
10 Няхай прыйдзе Царства Тваё; няхай будзе воля Твая як у небе, так і на зямлі;
11 Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння;
12 І даруй нам нашы правіны, як і мы даруем нашым вінаваўцам;
13 І не дапусці нас да спакусы, але засцеражы нас ад ліхога [1]. Бо Тваё ёсць Царства, і сіла, і слава навекі. Амін.
14 Бо калі вы даруеце людзям іх правіны, даруе і вам Бацька ваш Нябесны;
Мар. 11, 25.
15 А калі вы не даруеце людзям іх правінаў, то і Бацька ваш не даруе вашых правінаў.

[1] Гэтае слова можна разумець і як нячысцік.

## ПРА ПОСТ

16 А калі вы посціце, не рабіцеся, як крывадушнікі, панурыя; бо яны змяняюць твары свае, каб паказаць людзям, што посцяць. Папраўдзе кажу вам, што яны ўжо атрымліваюць сваю ўзнагароду.
17 А ты, калі посціш, памаж галаву сваю і памый свой твар;
18 Каб паказаць, што ты посціш, не людзям, а Бацьку свайму, што ў таямніцы; і твой Бацька, які бачыць у таямніцы, аддасць табе адкрыта.

## ЗБІРАЙЦЕ САБЕ СКАРБЫ НА НЕБЕ

19 Не збірайце сабе скарбаў на зямлі, дзе моль і ржа есць і дзе зладзеі падкопваюць і крадуць;
20 А збірайце сабе скарбы на небе, дзе ні моль, ні ржа не есць і дзе зладзеі не падкопваюць і не крадуць.
Лук. 12, 21, 33. 1 Цім. 6, 19.
21 Бо дзе скарб ваш, там будзе і сэрца ваша.
22 Светач цела ёсць вока; дык вось, калі тваё вока чыстае, усё цела будзе ў святле;
Лук. 11, 34.
23 Калі ж тваё вока было б ліхое, усё тваё цела будзе ў цемры. Калі ж святло, што ў табе,— цемра, то якая вялікая сама цемра?
24 Ніхто не можа служыць двум панам: або аднаго будзе ненавідзець, а другога — любіць, або аднаму будзе адданы, а другім будзе пагарджаць. Не можаце служыць Богу і мамоне [1].
Лук. 16, 13.

## ПРА ТУРБОТЫ

25 Дзеля гэтага кажу вам: не турбуйцеся пра сваё жыццё, што есці і што піць, ні пра ваша цела, у што адзецца. Хіба жыццё не больш важнае за яду, а цела за адзенне?
Пс. 54, 23. Лук. 12, 22. 1 Пят. 5, 7.
26 Паглядзіце на птушак нябесных, што не сеюць, не жнуць, не збіраюць у свірны, а Бацька ваш Нябесны жывіць іх. Хіба вы не нашмат лепшыя за іх?
27 Хто ж з вас, турбуючыся, можа прыбавіць сабе росту на адзін локаць?
28 І пра адзенне што турбуецеся? Паглядзіце на палявыя лілеі, як растуць: ні працуюць, ні прадуць;
29 Кажу ж вам, што і Саламон ва ўсёй сваёй славе не адзяваўся так, як кожная з іх.
30 Калі ж палявую траву, што ёсць сёння, а заўтра будзе кінутая ў печ, Бог

[1] Багаццю.





Евангеліст Мацвей. Вёска Прылукі Брэсцкай вобласці. (Музей старажытнай беларускай культуры АН БССР).

так прыбірае, то ці ж не тым болей вас, малаверныя?
31 Дык вось не турбуйцеся і не кажыце: «што мы будзем есці?», або: «што мы будзем піць?», або: «у што мы адзенемся?»
32 Бо ўсяго гэтага шукаюць язычнікі; дый Бацька ваш Нябесны ведае, што вы маеце патрэбу ва ўсім гэтым.
33 Шукайце ж перш Царства Божае і Яго справядлівасць, і ўсё гэта прыкладзецца вам.
Лук. 12, 31. Мар. 10, 30. 1 Цім. 4, 8.
34 Дык вось, не турбуйцеся пра заўтра: бо заўтрашні дзень патурбуецца пра сваё. Даволі для кожнага дня свайго ліха.

Раздзел 7

## НЕ СУДЗІЦЕ СВАІХ БЛІЖНІХ

1 Не судзіце, каб і вас не судзілі.
Лук. 6, 37. Рым. 2, 1. 1 Кар. 4, 5.
2 Бо якім судом судзіце, такім і вас асудзяць; і якою мерай мераеце, такою вам адмераюць.
Мар. 4, 24. Лук. 6, 38.
3 Што ж ты бачыш парушынку ў воку брата свайго, а калоды ў сваім воку не заўважаеш?
Лук. 6, 41.
4 Або, як скажаш ты брату свайму: «давай выму парушынку з твайго вока»; а вось у тваім воку — калода?
5 Крывадушнік, дастань спярша калоду са свайго вока, а тады ўбачыш, як выняць парушынку з вока брата твайго.
6 Не давайце святога сабакам і не рассыпайце сваіх перлаў перад свіннямі, каб не патапталі яны іх сваімі нагамі і, павярнуўшыся, не разарвалі вас.

## ПРА МАЛІТВУ

7 Прасіце і дадуць вам; шукайце і знойдзеце; стукайце і адчыняць вам;
Мац. 21, 22. Мар. 11, 24. Лук. 11, 9. Іаан. 14, 13. Іак. 1, 6.
8 Бо кожны, хто просіць, атрымлівае, а хто шукае, знаходзіць, а таму, хто стукае, адчыняць.
9 Або, ці ёсць між вас чалавек, у якога б яго сын папрасіў хлеба, а ён падасць яму камень?
Лук. 11, 11.
10 Або папрасіў бы рыбы, а ён падасць яму змяю?
11 Дык калі вы, хоць ліхія самі, можаце даваць добрыя дары сваім дзецям,— наколькі болей ваш Бацька, што ў нябёсах, дасць добрых дароў тым, што просяць у Яго?

## ЗАЛАТОЕ ПРАВІЛА ПАВОДЗІН

12 Дык вось усё, што вы хочаце, каб рабілі вам людзі, тое і вы рабіце ім; бо гэтакі закон і прарокі.
Лук. 6, 31.

## ХАДЗІЦЕ ВУЗКАЮ ДАРОГОЮ

13 Уваходзьце праз цесныя вароты; бо шырокія вароты і прасторная тая дарога, што вядзе да пагібелі, і шмат хто ідзе ёю.
Лук. 13, 24.
14 Бо цесныя вароты і вузкая дарога, што вядзе ў жыццё, і мала ёсць тых, хто знаходзіць яе.

## СЦЕРАЖЫЦЕСЯ ФАЛЬШЫВЫХ ПРАРОКАЎ

15 Сцеражыцеся ж фальшывых прарокаў, што прыходзяць да вас у авечым адзенні, а ўсярэдзіне — драпежныя ваўкі.
Іер. 23, 16. Мац. 24, 4. 1 Іаан. 4, 1.
16 Па іх пладах пазнаеце іх: ці збіраюць з цёрну вінаградныя гронкі альбо з дзядоўніку фігі?
17 Гэтак кожнае добрае дрэва родзіць

гожыя плады; а нягоднае дрэва родзіць благія плады.

18 Не можа добрае дрэва радзіць благіх пладоў ні дрэва нягоднае радзіць гожых пладоў.

Лук. 6, 43.

19 Кожнае дрэва, якое не родзіць гожых пладоў, высякаюць і кідаюць у агонь.

20 Значыцца: па іх пладах пазна́еце іх.

## ВЫКОНВАЙЦЕ ВОЛЮ ВАШАГА БАЦЬКІ НЯБЕСНАГА

21 Не кожны, што Мне кажа: «Госпадзе! Госпадзе!», увойдзе ў Нябеснае Царства; але той, хто выконвае волю Бацькі Майго, што ў нябёсах.

Лук. 6, 46. Іаан. 6, 40. Іак. 1, 22. Рым. 2, 13.

22 Шмат хто скажа Мне ў той дзень: «Госпадзе! Госпадзе! ці ж не ад Твайго імя мы прарочылі? і ці не Тваім імем выганялі дэманаў? і ці не Тваім імем шмат якія цуды рабілі?»

23 І тады аб'яўлю ім: «Я ніколі не ведаў вас; адыдзіце ад Мяне вы, што чыніце беззаконне».

Пс. 6, 9. Лук. 13, 25, 27.

## НЕ БУДУЙЦЕ НА ПЯСКУ

24 Дык кожнага, што слухае гэтыя Мае словы і выконвае іх, параўнаю з разважным чалавекам, што збудаваў свой дом на камені:

Лук. 6, 47—48.

25 І пайшоў дождж, і разліліся рэкі, і падзьмулі вятры і накінуліся на той дом; ды ён не ўпаў; бо быў ён пастаўлены на камені.

26 А кожнага, хто слухае гэтыя Мае словы, ды не выконвае іх, параўнаю з неразважным чалавекам, які збудаваў свой дом на пяску:

27 І пайшоў дождж, і разліліся рэкі, і падзьмулі вятры і наляглі на той дом, і ён упаў; і руйнаванне яго было вялікае.

## ЗАКАНЧЭННЕ КАЗАНІ НА ГАРЫ

28 І калі Ісус закончыў гэтыя словы, народ быў уражаны Яго навукаю;

Мац. 22, 33. Мар. 1, 22. Лук. 4, 32.

29 Бо Ён вучыў яго як паўнамоцны, а не як тыя кніжнікі.

Раздзел 8

## ІСУС ВЫЛЕЧВАЕ ПРАКАЖОНАГА

1 Калі ж ён сышоў з гары, шмат народу пайшло за Ім;

2 І вось пракажоны падышоў і пакланіўся Яму, кажучы: Госпадзе! Калі хочаш, Ты можаш ачысціць мяне.

Мар. 1, 40. Лук. 5, 12.

3 І Ісус, працягнуўшы руку, крануўся яго, кажучы: хачу, ачысцься. І ён тут жа ачысціўся ад праказы.

4 І кажа яму Ісус: глядзі, не расказвай нікому; але пайдзі, пакажыся святару і прынясі дар, што прадпісаў Майсей, у сведчанне ім.

Лев. 14, 3—4. Мар. 1, 44. Лук. 5, 14.

## ІСУС ВЫЛЕЧВАЕ СОТНІКАВАГА СЛУГУ

5 А калі Ён увайшоў у Капернаум, да Яго падышоў сотнік, просячы ў Яго

Лук. 7, 2.

6 І кажучы: Госпадзе! мой слуга ляжыць дома спаралізаваны і страшэнна мучыцца.

7 І кажа яму Ісус: Я прыйду і вылечу яго.

8 І ў адказ сотнік сказаў: Госпадзе! я не варты, каб ты ўвайшоў пад мой дах; але толькі скажы слова і паправіцца мой слуга.

9 Бо і я — чалавек падуладны, але маю пад сабою воінаў; і скажу аднаму: «пайдзі», і ідзе; а другому: «прыйдзі», і прыходзіць, а майму слугу: «зрабі гэта», і ён робіць.

10 Пачуўшы ж, Ісус здзівіўся і сказаў да тых, што ішлі за Ім: папраўдзе кажу вам: і ў Ізраілі не знайшоў Я такой веры.

11 Кажу ж вам, што шмат хто прыйдзе з усходу і захаду і ўзляжа з Аўраамам, Ісаакам і Якавам у Нябесным Царстве;

12 А дзеці Царства будуць выкінуты ў знадворную цемру; там будзе плач і скрыгат зубоў.

Мацв. 22, 13.

13 І сказаў Ісус сотніку: ідзі і, як паверыў ты, няхай табе збудзецца. І паправіўся яго слуга ў тую ж гадзіну.

## ІСУС ВЫЛЕЧВАЕ ПЯТРОВУ ЦЕШЧУ

14 А калі прыйшоў Ісус у хату Пятра, убачыў, што яго цешча ляжыць у гарачцы;

Мар. 1, 29—30. Лук. 4, 38.

15 І Ён дакрануўся да яе рукі, і гарачка пакінула яе; і ўстала яна і прыслугоўвала ім.

16 А калі надышоў вечар, да Яго прывялі шмат апантаных; і Ён выганяў духаў словам і вылечыў усіх хворых;

Мар. 1, 32. Лук. 4, 40.

17 Каб спраўдзілася сказанае праз





Евангеліст Мацвей. Віленскае Евангелле 1575 г. Друкарня Пятра Мсціслаўца.

Ісаю, прарока, які кажа: «Ён узяў нашы слабасці і панёс хваробы».

Іс. 53, 4. 1 Пят. 2, 24.

## ЯКІХ ВУЧНЯЎ ХОЧА САБЕ ІСУС

18 А ўбачыўшы вакол Сябе вялікія сціжмы людзей, Ісус сказаў адплыць на другі бок.

19 Тады адзін кніжнік, падышоўшы, сказаў Яму: Настаўнік! я пайду за Табою, куды б ні пайшоў Ты.

Лук. 9, 57.

20 І кажа яму Ісус: лісіцы маюць норы, і птушкі нябесныя — гнёзды; а Сын Чалавечы не мае дзе галаву прыхіліць.

21 Другі ж з Яго вучняў сказаў Яму: Госпадзе! дазволь мне перш пайсці і пахаваць майго бацьку.

22 Ісус жа сказаў яму: ідзі за Мною і пакінь мёртвым хаваць сваіх мёртвых.

Лук. 9, 60.

## СУЦІШЭННЕ БУРЫ

23 І калі Ён ступіў у човен, увайшлі за Ім Яго вучні.

Мар. 4, 35—36. Лук. 8, 22.

24 І вось вялікае ўзрушэнне ўзнялося на моры, што аж човен залівала хвалямі; а Ён спаў.

25 І кінуліся Яго вучні і пабудзілі Яго, кажучы: Госпадзе! ратуй нас, гінем.

26 І Ён кажа ім: чаго баіцеся, малаверныя? Тады, устаўшы, загадаў вятрам і мору; і зрабілася вялікая ціша.

27 А людзі дзівіліся, кажучы: хто Гэты, што і вятры, і мора слухаюцца Яго?

## ДВА АПАНТАНЫЯ

28 І калі Ён прыплыў на другі бок, у зямлю Гергесінскую, перастрэлі Яго два апантаныя, што выйшлі з магіл,— вельмі лютыя, так што ніхто не мог праходзіць тою дарогаю;

Мар. 5, 1—2. Лук. 8, 27.

29 І вось закрычалі яны, кажучы: што Табе, Ісусе, Сыне Божы, да нас? прыйшоў заўчасна сюды, каб мучыць нас?

Мар. 1, 24.

30 А воддаль ад іх пасвіўся вялікі гурт свіней.

31 І прасіліся ў Яго дэманы, кажучы: калі выганяеш нас, дазволь нам увайсці ў гурт свіней.

32 І Ён сказаў ім: ідзіце. І яны, выйшаўшы, увайшлі ў свіны гурт; і вось кінуўся ўвесь гурт свіней са стромы ў мора і загінуў у водах.

33 А пастухі паўцякалі і, прыйшоўшы ў горад, расказалі пра ўсё і пра тое, што было з апантанымі.

34 І вось увесь горад выйшаў насустрач Ісусу; і, убачыўшы Яго, прасілі, каб Ён адышоў з іх межаў.

Раздзел 9

1 І, ступіўшы ў човен, Ён пераплыў назад і прыйшоў у Свой горад.

Мар. 2, 1.

## ВЫЗДАРАЎЛЕННЕ СПАРАЛІЗАВАНАГА

2 І вось прынеслі да Яго спаралізаванага, пакладзенага на насілкі; і Ісус, убачыўшы веру іх, сказаў спаралізаванаму: будзь пэўны, сыне! адпускаюцца табе твае грахі.

Мар. 2, 3. Лук. 5, 18.

3 І вось некаторыя з кніжнікаў сказалі самі сабе: Ён зневажае Бога.

4 І Ісус, ведаючы іх думкі, сказаў: навошта вы думаеце ліхое ў сэрцах сваіх?

5 Што ж лягчэй — сказаць: «адпускаюцца табе грахі» ці сказаць: «уставай і хадзі»?

Мар. 2, 9. Лук. 5, 23.

6 Каб ведалі вы, што Сын Чалавечы

мае на зямлі ўладу адпускаць грахі,— тады Ён кажа спаралізаванаму: уставай, вазьмі свае насілкі ды ідзі ў свой дом.
7 І той устаў і пайшоў у свой дом.
8 Натоўп жа, убачыўшы гэта, здзівіўся і славіў Бога, што даў людзям такую моц.

## ІСУС КЛІЧА МАЦВЕЯ. ХРЫСТОС НЕ ЦУРАЕЦЦА ГРЭШНІКАЎ

9 А калі Ісус адыходзіў адтуль, убачыў чалавека, што сядзеў каля мытніцы — яго звалі Мацвеем,— і кажа яму: ідзі за мною. І той устаў і пайшоў за ім.
Мар. 2, 14. Лук. 5, 27.
10 І было: калі Ён узлягаў у доме, дык вось сышлося шмат мытнікаў і грэшнікаў і ўзлягло з Ісусам і Яго вучнямі.
11 І, убачыўшы гэта, фарысеі сказалі Яго вучням: чаму разам з мытнікамі і грэшнікамі есць ваш Настаўнік?
12 Ісус жа, пачуўшы гэта, сказаў ім: маюць патрэбу ў доктары не здаровыя, а нямоглыя.
13 Ідзіце ж, навучыцеся, што значыць: «міласэрнасці хачу, а не ахвяры»? бо Я прыйшоў клікаць не праведнікаў, а грэшнікаў на пакаянне.
Ас. 6, 6. Мацв. 12, 7. Мар. 2, 17. Лук. 5, 32.

## ПРА ПОСТ

14 Тады падышлі да Яго Іаанавы вучні, кажучы: чаму мы і фарысеі шмат посцім, а Твае вучні не посцяць?
Мар. 2, 18. Лук. 5, 33.
15 І сказаў ім Ісус: хіба могуць сумаваць сыны шлюбнага пакоя, пакуль з імі малады? Але прыйдуць дні, калі забяруць ад іх маладога, і тады будуць пасціць яны.
16 Ніхто ж не ўстаўляе латкі з новай тканіны ў старое адзенне; бо прышытае аддзярэцца ад старога, і дзірка будзе яшчэ горшая.
Мар. 2, 21. Лук. 5, 36.
17 І не ўліваюць маладога віна ў старыя бурдзюкі; а то прарываюцца бурдзюкі, і віно выцякае, і бурдзюкі прападаюць; але наліваюць маладое віно ў новыя бурдзюкі, і зберагаецца адно і другое.

## ВЫЗДАРАЎЛЕННЕ КРЫВАЦЕЧНАЙ. УВАСКРАШЭННЕ НАЧАЛЬНІКАВАЙ ДАЧКІ

18 Калі гэта Ён казаў ім, вось падышоў нейкі начальнік і пакланіўся Яму, кажучы: мая дачка толькі што сканала, але прыйдзі і ўскладзі Сваю руку на яе, і яна ажыве.
Мар. 5, 22. Лук. 8, 41.
19 І, устаўшы, Ісус пайшоў за ім, таксама і вучні Яго.
20 І вось жанчына, што дванаццаць гадоў хварэла на крывацёк, падышоўшы ззаду, дакранулася да краю Яго адзення.
Мар. 5, 25.
21 Бо яна казала сама сабе: як толькі крануся Яго адзення, папраўлюся.
22 Ісус жа, абярнуўшыся і ўбачыўшы яе, сказаў: будзь пэўная, дачка: твая вера ўратавала цябе. І жанчына паправілася з тае гадзіны.
23 А калі Ісус прыйшоў у начальнікаў дом і ўбачыў дудароў і ўзварушаную грамаду,
24 Сказаў ім: выйдзіце, бо дзяўчынка спіць. І тыя насміхаліся з Яго.
25 Калі ж грамаду выгналі, Ён, увайшоўшы, узяў яе за руку, і дзяўчынка ўстала.
26 І разышоўся поголас пра гэта па ўсёй той зямлі.

## ІСУС ВЫЛЕЧВАЕ ВОЧЫ СЛЯПЫМ

27 І калі Ісус адыходзіў адтуль, за ім ішлі два сляпыя, клічучы і кажучы: злітуйся над намі, Сыне Давідаў!
Мацв. 20, 30.
28 Калі ж Ён увайшоў у дом, падышлі да Яго сляпыя, і кажа ім Ісус: ці верыце вы, што Я магу зрабіць гэта? Яны кажуць Яму: верым, Госпадзе!
29 Тады Ён дакрануўся да іх вачэй, кажучы: паводле вашае веры няхай збудзецца вам.
30 І адкрыліся вочы іх. І Ісус сурова наказаў ім, кажучы: глядзіце, каб ніхто не ўведаў.
31 А яны, выйшаўшы, абвясцілі пра Яго па ўсёй той зямлі.

## ВЫЗДАРАЎЛЕННЕ НЯМОГА

32 Калі ж яны выходзілі, вось прывялі да Яго нямога апантанага чалавека.
Лук. 11, 14.
33 І калі быў выгнаны дэман, нямы загаварыў; і дзівіўся натоўп, кажучы: ніколі не здаралася гэткага ў Ізраілі.
34 А фарысеі казалі: Ён сілаю дэманаўскага князя выганяе дэманаў.
Мацв. 12, 24. Мар. 3, 22. Лук. 11, 15.

## ІСУС АБХОДЗІЦЬ ГАЛІЛЕЮ

35 І абходзіў Ісус усе гарады і вёскі, навучаючы ў іх сінагогах, абвяшчаючы Дабравесце Царства і вылечваючы ўсе хваробы і немачы ў народзе.
Мар. 6, 6. Лук. 13, 22.
36 А бачачы сціжмы людзей, Ён злітаваўся над імі, што былі яны зняможаныя і рассыпаныя, нібы авечкі, у якіх няма пастуха.
Іс. 53, 6. Мар. 6. 34.
37 Тады Ён кажа Сваім вучням: жніво вялікае, ды работнікаў мала.
Лук. 10, 2. Іаан. 4, 35.
38 Дык прасіце Гаспадара жніва, каб Ён выслаў работнікаў на жніво Сваё.
2 Фес. 3, 1.

Раздзел 10

## ІСУС ПАСЫЛАЕ СВАІХ ДВАНАЦЦАЦЬ АПОСТАЛАЎ НА КАЗАНЬ

1 І, паклікаўшы Сваіх дванаццаць вучняў, Ён даў ім моц над нячыстымі духамі, каб выганяць іх і лячыць усялякую хваробу і ўсялякую немач.
Мар. 3, 14. Лук. 9, 1.
2 А імёны дванаццаці апосталаў вось якія: першы Сіман, званы Пятром, і Андрэй, яго брат; Якаў Завядзееў і Іаан, яго брат;
3 Філіп і Варфаламей; Фама і Мацвей, мытнік; Якаў Алфееў і Леўвей, празваны Фадзеем;
4 Сіман Кананіт і Іуда Іскарыёт, які і выдаў Яго.

## ІСУСАВЫ НАКАЗЫ АПОСТАЛАМ У ДАРОГУ

5 Гэтых дванаццаць Ісус паслаў і загадаў ім, кажучы: на дарогу язычнікаў не хадзіце і ў Самаранскі горад не ўваходзьце;
6 Але ідзіце лепш да загінулых авечак Ізраілевага дому.
Мацв. 15, 24.
7 Ідзіце і абвяшчайце, кажучы, што наблізілася Царства Нябеснае.
Лук. 9, 2.
8 Хворых вылечвайце, пракажоных ачышчайце, памерлых уваскрашайце, дэманаў выганяйце. Дарма атрымалі, дарма давайце.
9 Не бярыце золата, ані серабра, ані медзі ў свае паясы,
Мар. 6, 8. Лук. 9, 3.
10 Ані торбы ў дарогу, ані двух адзенняў, ані абутку, ані кія. Бо варты работнік сваёй спожыцці.
Лук. 10, 7. 1 Цім. 5, 18.
11 А ў які б горад ці вёску ні ўвайшлі вы, даведвайцеся, хто ў ім паважаны; і там аставайцеся, аж пакуль не выйдзеце.
12 А ўваходзячы ў дом, вітайце яго, кажучы: «спакой гэтаму дому»;
Лук. 10, 5.
13 І калі дом заслугоўвае, няхай сыдзе ваш спакой на яго; калі ж не заслугоўвае, няхай ваш спакой да вас вернецца.
14 А калі хто не прыме вас, не паслухае вашых слоў, выходзячы з дому ці з горада таго, абтрасіце пыл з вашых ног.
Мар. 6, 11. Лук. 9, 5. Дзеян. 13, 51.
15 Папраўдзе кажу вам: лягчэй будзе Садомскай і Гаморскай зямлі ў судны дзень, чым таму гораду.

## АПОСТАЛАЎ ЧАКАЮЦЬ ГАНЕННІ

16 Вось Я пасылаю вас, як авечак сярод ваўкоў; будзьце ж мудрыя, як змеі, і нявінныя, як галубкі.
Лук. 10, 3. Рым. 16, 19. 2 Кар. 1, 12.
17 Сцеражыцеся ж людзей: бо будуць вас перадаваць у суды і ў сваіх сінагогах будуць бічаваць вас;
18 І да намеснікаў і да цароў павядуць вас за Мяне, на сведчанне ім і язычнікам.
19 Калі ж будуць выдаваць вас, не турбуйцеся, як ці што казаць: бо вам будзе дадзена ў тую гадзіну, што казаць;
Мар. 13, 11. Лук. 12, 11.
20 Бо не вы будзеце казаць, а Дух Бацькі вашага будзе казаць у вас.
21 А выдасць брат брата на смерць і бацька сына; і паўстануць дзеці на бацькоў і пазабіваюць іх.
22 І будуць вас усе ненавідзець з-за Майго імя; а хто выцерпіць да канца, будзе збаўлены.
23 А калі вас будуць гнаць у адным горадзе, уцякайце ў другі; бо папраўдзе кажу вам: не абыдзеце яшчэ Ізраілевых гарадоў, як прыйдзе Сын Чалавечы.

## ПРА МУЖНАСЦЬ

24 Не вышэйшы вучань за настаўніка свайго, ані слуга за гаспадара свайго.
Лук. 6, 40. Іаан. 13, 16; 15, 20.
25 Даволі для вучня, каб ён быў як яго настаўнік, і для слугі, каб ён быў як яго гаспадар. Калі гаспадара дому назвалі вельзевулам, наколькі больш назавуць дамашніх яго?
Мацв. 9, 34.
26 Дык не бойцеся іх: бо няма нічога закрытага, што не адкрылася б; і таемнага, што не стала б вядомым.
Мар. 4, 22. Лук. 8, 17; 12, 2.
27 Што кажу вам у цемры, кажыце пры святле; а што на вуха чуеце, абвяшчайце на дахах.

28 І не бойцеся тых, што цела забіваюць, а душы не могуць забіць; а бойцеся больш Таго, Хто можа і цела, і душу загубіць у геене.

Лук. 12, 4.

29 Хіба не двух вераб'ёў прадаюць за асарый[1]? Ды ніводзін з іх не ўпадзе на зямлю без волі Бацькі вашага.

Лук. 12, 6.

30 У вас жа і валасы ўсе на галаве палічаны.
31 Дык не бойцеся: бо вы лепшыя за многіх вераб'ёў.
32 Дык кожнага, хто Мяне прызнае перад людзьмі, прызнаю і Я перад Маім Бацькам, што ў нябёсах;

Мар. 8, 38. Лук. 9, 26; 12, 8.

33 Хто ж адрачэцца ад Мяне перад людзьмі, адракуся ад таго і Я перад Маім Бацькам, што ў нябёсах.

2 Цім. 2, 12.

## БОЛЬШ ЗА ЎСЁ ЛЮБІЦЕ ІСУСА

34 Не думайце, што Я прыйшоў прынесці мір на зямлю; Я не мір прыйшоў прынесці, але меч.

Лук. 12, 51.

35 Бо я прыйшоў развесці чалавека ад яго бацькі, і дачку ад яе маці, і нявестку ад яе свекрыві;
36 І ворагі чалавеку — дамашнія яго.

Міх. 7, 6.

37 Хто больш за Мяне любіць бацьку ці маці, не годны Мяне; і хто любіць сына ці дачку больш за Мяне, не годны Мяне;

Лук. 14, 26.

38 І хто не бярэ свайго крыжа і не ідзе за Мною, не годны Мяне.

Мацв. 16, 24. Мар. 8, 34.

39 Хто зберажэ сваё жыццё, страціць яго; а хто страціць сваё жыццё за Мяне, зберажэ яго.

Мар. 8, 35. Лук. 9, 24. Іаан. 12, 25.

40 Хто прымае вас, Мяне прымае; а хто Мяне прымае, прымае Таго, Хто паслаў Мяне.

Лук. 10, 16. Іаан. 13, 20.

41 Хто прымае прарока ў імя прарока, атрымае ўзнагароду прарока; хто прымае справядлівага ў імя справядлівага, атрымае ўзнагароду справядлівага;
42 А хто б ні напаіў аднаго з гэтых малых толькі кубкам сцюдзёнай вады ў імя вучня, папраўдзе кажу вам, не страціць узнагароды сваёй.

Мар. 9, 41.

[1] Дробная манета.



Раздзел 11

1 І было: калі Ісус скончыў навучаць дванаццаць Сваіх вучняў, Ён пайшоў адтуль вучыць і абвяшчаць у іх гарадах.

## ІААН ХРЫСЦІЦЕЛЬ ПАСЫЛАЕ ВУЧНЯЎ ДА ІСУСА

2 А Іаан, пачуўшы ў цямніцы пра Хрыстовы ўчынкі, паслаў двух сваіх вучняў

Лук. 7, 18—19.

3 Сказаць Яму: ці Ты Той, Які павінен прыйсці, ці чакаць нам другога?

Друг. 18, 15.

4 І ў адказ Ісус казаў ім: ідзіце і перакажыце Іаану, што вы чуеце і бачыце:
5 Сляпыя бачаць і кульгавыя ходзяць; пракажоныя ачышчаюцца і глухія чуюць; памерлыя ўваскрасаюць і ўбогім абвяшчаецца Добрая Навіна.

Іс. 29, 18; 35, 5.

6 І шчаслівы, хто не спакусіцца праз Мяне.

## ІСУСАВА СВЕДЧАННЕ ПРА ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ

7 Калі ж яны адышлі, Ісус пачаў казаць натоўпу пра Іаана: што вы хадзілі ў пустэльню глядзець? ці не трыснёг, што ад ветру гайдаецца?
8 Дык што вы хадзілі глядзець? ці чалавека, апранутага ў мяккае ўбранне? Вось тыя, што апранаюцца ў мяккае ўбранне, знаходзяцца ў царскіх харомах.
9 Дык што вы хадзілі глядзець? прарока? Так, скажу вам, і больш, чым прарока.
10 Бо гэта ж той, пра каго напісана: «вось Я пасылаю перад аблічча Тваё Свайго пасланца, які падрыхтуе Тваю дарогу перад Табою».

Мал. 3, 1. Мар. 1, 2. Лук. 7, 27.

11 Папраўдзе кажу Я: сярод народжаных ад жанчын не было большага за Іаана Хрысціцеля. Але найменшы ў Нябесным Царстве большы за яго.
12 Ды ад дзён Іаана Хрысціцеля аж дасюль Нябеснае Царства бярэцца сілаю, і тыя, што робяць намаганні, авалодваюць ім.

Лук. 16, 16.

13 Бо ўсе прарокі і Закон аж да Іаана прарочылі.
14 І калі хочаце прыняць, ён ёсць Ілля, якому належыць прыйсці.

Мал. 4, 5.

15 Хто мае вушы, каб чуць, няхай чуе.

## ІСУС ДАКАРАЕ НЯВЕРНЫХ

16 З кім жа параўнаю гэты род? Ён падобны да хлапчукоў, што сядзяць на рынках і, звяртаючыся да сваіх таварышаў,

Лук. 7, 31.

17 Кажуць: «мы ігралі вам на дудачцы, а вы не скакалі; мы вам жаласліва спявалі, а вы не плакалі».
18 Прыйшоў жа Іаан, не еў, не піў; дык яны кажуць: «у ім дэман».
19 Прыйшоў Сын Чалавечы, есць і п'е; дык яны кажуць: «вось чалавек, ахвотнік паесці і выпіць віна, сябар мытнікаў і грэшнікаў». Ды апраўдалася мудрасць праз учынкі свае[1].

Лук. 7, 34—35.

## ІСУС ПРАРОЧЫЦЬ ДОЛЮ НЯВЕРНЫХ ГАРАДОЎ

20 Тады Ісус пачаў дакараць гарады, дзе адбылося найбольш Яго цудаў, што яны не пакаяліся:
21 Бяда табе, Харазіне, бяда табе, Віфсаіда! Бо калі б у Тыры і Сідоне адбыліся цуды, што адбыліся ў вас, яны б даўно ў валасяніцы і попеле пакаяліся.
22 Але кажу вам: лягчэй будзе Тыру і Сідону ў судны дзень, чым вам.

Лук. 10, 5.

23 А ты, Капернаўме, што аж да неба ўзнёсся, ажно ў пекла абрынешся; бо калі б у Садоме адбыліся цуды, што адбыліся ў табе, то застаўся б ён аж па сённяшні дзень.
24 Але кажу вам, што лягчэй будзе Садомскай зямлі ў судны дзень, чым табе.

## ПРЫЙДЗІЦЕ ДА МЯНЕ, СПРАЦАВАНЫЯ І АБЦЯЖАРАНЫЯ

25 У той час Ісус, усклікаючы, казаў: Слаўлю Цябе, Ойча, Госпадзе неба і зямлі, што Ты ўтаіў гэта ад мудрых і разумных і адкрыў яго немаўляткам.

Пс. 8, 3. Лук. 10, 21. 1 Кар. 1, 27. 2 Кар. 11, 3.

26 Так, Ойча, бо гэта было Табе даспадобы.
27 Усё Мне перададзена Бацькам Маім, і ніхто не ведае Сына, апроч Бацькі; ніхто не ведае Бацькі, апроч Сына, ды каму Сын хацеў бы адкрыць.

Іаан. 3, 35; 6, 46. Мацв. 16, 17.

28 Прыйдзіце да Мяне ўсе спрацаваныя і абцяжараныя, і Я супакою вас.
29 Вазьміце вы Маё ярмо на сябе і вучыцеся ад Мяне, бо я ціхі і сэрцам лагодны; і знойдзеце супакой вашым душам.

Іер. 6, 16.

30 Бо ярмо Маё збавеннае і цяжар Мой лёгкі.

1 Іаан. 5, 3.

**Працяг будзе.**

У раздзелах 5, 6, 7 прыводзіцца Нагорная казань, якая лічыцца маральным кодэксам хрысціянства, сутнасцю Хрыстовага вучэння.

5, 3. Тут гаворыцца пра Боскую радасць — не якая будзе, а якая ўжо наступіла.

Шчаслівыя ўбогія духам — тыя, хто разумее беднасць, мізэрнасць свайго духоўнага жыцця і скіроўвае позірк на Ісуса. Бо кожная рэлігія пачынаецца з усведамлення чалавекам сваёй слабасці і патрэбы ў Богу.

5, 13. Як соль захоўвае прадукты ад гніення, так і хрысціянін павінен уздзейнічаць на жыццё.

5, 15. У палесцінскіх дамах было толькі адно круглае акно, дыяметрам каля паўметра. Светач складаўся з кноту, які плаваў у алеі. Звычайна светач стаяў на падстаўцы. Калі ж людзі выходзілі з дому, светач ставілі пад гліняны збан, бо няпроста было запаліць агонь у часы, калі яшчэ не было запалак.

5, 17. У іудзеяў закон і прарокі значыла: Стары Запавет.

5, 18. Ёта — найменшая літара ў яўрэйскім алфавіце, падобная з формы да нашага апострафа ці коскі. Гэта значыць: нават макулінкі не зменіцца ў законе — так шаноўна ставіцца да яго Ісус.

5, 22. Геена — значыць Еномава даліна, што ляжыць на паўднёвы захад ад Іерусаліма. У старажытнасці там у ахвяру язычніцкаму богу Малоху прыносілі дзяцей, якіх спальвалі. Пазней там скідвалі і спальвалі смецце, таму ўвесь час у даліне гарэў агонь і стаяў дым. Так гэтае месца зрабілася для набожных сінонімам пекла.

5, 40. Паводле закона, верхняе адзенне нельга было адабраць нават праз суд. Аднак лепш самому зрабіцца ахвяраю несправядлівасці, чым помсціць злом за зло.

[1] Варыянт: дзяцьмі яе.

6, 1. У іудзеяў было тры вялікія абавязкі: міласціна, малітва і пост. Ісус засцерагае ад правільных учынкаў з благіх памкненняў: бо міласціна можа давацца не толькі дзеля таго, каб памагчы чалавеку, а каб і выставіць напаказ сваю шчодрасць ды заслужыць пахвалу навакольных.

6, 7. Пры малітве былі спробы нагрувашчваць пры імені Бога розныя тытулы. Напрыклад, ёсць іудзейская малітва, якая пачынаецца з шаснаццаці прыметнікаў да Божага імя. Ісус асуджае тых, хто думае не пра тое, аб чым моліцца, а пра тое, як ён моліцца.

6, 9—15. «Ойча наш», або Гасподняя Малітва, лічыцца ў набожных за скарочанае Евангелле.

Тут называюцца тры найважнейшыя чалавечыя патрэбнасці і тры вымярэнні часу, у якіх жыве чалавек. Просячы пра надзённы хлеб, чалавек выказвае сённяшнія патрэбы. Просячы пра адпушчэнне грахоў, пераглядае сваё мінулае і, просячы аб дапамозе ад спакус, глядзіць у сваю будучыню. Усё жыццё чалавека паўстае перад Богам, а перад чалавекам — Бог у цэласнай паўнаце, бо чалавек, просячы пра хлеб, звяртаецца да Бога Бацькі, Хавальніка і Творцы жыцця, просячы аб адпушчэнні грахоў — да Бога Сына, Ісуса Хрыста, чалавечага Збаўцы, і просячы пра засцярэжэнне ад спакус — да Бога Святога Духа, чалавечага Суцяшальніка.

7, 6. Тут, паводле багасловаў, маецца на ўвазе не проста прыведзеная ў святыню ахвярная жывёла, якая называлася святою. Ісус нагадвае, што трэба з асцярогаю раскрываць перад людзьмі Слова Божае.

7, 12. Гэтая запаведзь лічыцца вяршыняю Нагорнай казані. Хоць яна мае шмат паралеляў у старажытных, але ўсе яны выказаны ў адмоўнай форме, як напрыклад: не рабі другому таго, чаго не хочаш, каб рабілі табе. І чалавек можа захоўваць такое правіла, астаючыся проста ў поўным бяздзеянні. (Згадайма Гётэ: лёгка быць маральным, нічога не робячы). Ісус жа дае сцвярджальны наказ. Не нічога не рабіць, а актыўна рабіць добрае чалавеку, любіць яго: *усё, што вы хочаце, каб рабілі вам людзі, тое і вы рабіце ім.* Гэта новы, актыўны погляд на жыццё і новыя жыццёвыя абавязкі.

7, 15—20. Авечае футра было адметным адзеннем пракрокаў, як мантыя філосафаў у грэкаў.

Былі людзі, якія пад выглядам прарокаў вандравалі з месца на месца, ашукваючы мясцовыя абшчыны і ведучы паразітычны лад жыцця. Таму існавалі пэўныя засцярогі: калі які вандроўнік заставаўся ў абшчыне больш як на тры дні, лічыўся фальшывым прарокам. Ён не мог нічога прасіць, апроч хлеба, бо калі прасіў грошай, то быў фальшывы прарок і г. д.

7, 22. Дэманы — духі, якія могуць усяляцца як у людзей, так і ў жывёлу і кіраваць імі, прычым яны настойліва імкнуцца да ўвасаблення, без чаго, як лічаць шмат якія багасловы, бяссільныя чыніць зло.

8, 2—3. Праказа была найцяжэйшаю хваробаю ў старажытнасці. Хворага на яе зусім выганялі з чалавечага грамадства. Яму быў забаронены ўваход у Іерусалім і ўвогуле ва ўсе гарады, што былі абнесены сценамі; з ім нельга было вітацца і г. д. Таму невыпадкова пракажоны звяртаецца да Ісуса: *«Калі ты хочаш,* можаш мяне ачысціць». І вось да такога недатыкальнага Ісус дакранаецца рукою.

8, 4. У тыя часы толькі святар мог засведчыць, што пракажоны паправіўся, і зноў дапусціць яго ў грамадства.

8, 5. Рымскі легіён, што налічваў шэсць тысяч воінаў, дзяліўся на шэсцьдзесят соцень, кожнаю з якіх камандаваў сотнік (цэнтурыён).

8, 18. На другі бок — на ўсходні бераг Тыверыядскага возера.

8, 20. Сябе Ісус называе Сынам Чалавечым, падкрэсліваючы служэнне чалавецтву, а не толькі яўрэйскаму народу. Сын Давідаў — Яго яўрэйскае імя, а Сын Божы — Яго Боскае найменне.

8, 21. Чалавек, ужыўшы пашыранае на Усходзе выслоўе: «Я павінен пахаваць свайго бацьку», гаворыць Ісусу, што ён не можа пакінуць свой дом аж да самай смерці свайго бацькі, якая яшчэ невядома калі надыдзе, і такім чынам адкладвае свой адыход на няпэўны тэрмін. Ісусавы словы значаць: нават такі найсвяцейшы абавязак не павінен быць на перашкодзе ўзыходу на хрысціянскую дарогу.

8, 28. Гэтыя людзі туліліся ў магільных скляпах, дакладней, у пячорах, дзе іудзеі хавалі сваіх нябожчыкаў.

8, 29. Заўчасна, г. зн. да канчатковага разгрому дэманаўскіх полчышчаў на Страшным Судзе.

9, 1. Свой горад — Капернаум, які зрабіўся асяродкам Ісусавай дзейнасці.

9, 3. Кніжнікі абвінавачвалі Ісуса ў знявазе Бога, бо лічылі, што толькі Бог можа вылечваць, адпускаючы грахі.

9, 10. Паводле даўнейшага звычаю, пад час яды не сядзелі, а ляжалі.

9, 15. Вяселле нават у самых бедных гулялася багата, каб на ўсё жыццё запомнілася гэтая падзея. Пасля шлюбу на працягу тыдня дом маладых не зачыняўся — сябры іх, або, як іх называлі, сыны (дзеці) шлюбнага пакоя,— разам гулялі з маладымі.

9, 17. Даўней віно захоўвалі ў шкурах — бурдзюках. Маладое віно налівалі, калі яно яшчэ брадзіла — новая шкура пад уздзеяннем газаў яшчэ магла расцягвацца, старая ж, ломкая — лопалася.

10, 1. Ісус выбраў дванаццаць апосталаў (пасланцоў) — тут як бы пераклічка з дванаццаццю Ізраілевымі каленамі.

10, 9. Паясы былі тады даволі шырокія і служылі адначасова кашалькамі: у двайной частцы іх захоўвалі грошы.

10, 10. Звычай тагачасных набожных матэрыяльна падтрымліваць сваіх настаўнікаў.

10, 11—14. Тут даюцца практычныя парады пасланцам: не трэба спыняцца ў тых дамах, пра якія ходзіць благая вестка, каб і на цябе яна не перанеслася; трэба аставацца там, дзе спыніўся, увесь час, каб не западозрылі, што перабіраешся з месца на месца, шукаючы, дзе большая раскоша, і г. д.

10, 14. Іудзеі лічылі нячыстым пыл кожнага краю, апроч Святой Зямлі. Таму, вяртаючыся ў родную Палесціну, заўсёды абтрэсвалі пыл са сваіх ног і адзення, каб і макулінкі язычніцкага бруду не асталося на іх. Значыцца, тыя, хто не хоча прыняць Дабравесце,— нібы язычнікі.

10, 15. Садом і Гамора — гарады, біблейскія сімвалы распусты і грэху. У часы Аўраама былі зруйнаваны нябесным агнём у пакаранне за злачынствы іх жыхароў. Але ў Ісусавых вачах іх злачынствы менш цяжкія, чым адмова прыняць Евангельскае Дабравесце.

10, 23. Хрысціянін, хоць і мусіць быць гатовы прыняць пакутніцкую смерць, не павінен самахоць шукаць яе, дарма наклікаць на сябе.

Тут маецца на ўвазе прыйсце Сына Чалавечага для пакарання няверных, што павінна было наступіць праз разбурэнне рымлянамі Іерусаліма і святыні ў 70 годзе н. э.

10, 34—39. Перад чалавекам паўстала пытанне выбару: прыняць ці не прыняць Хрыста, а гэта падчас вымагае самага цяжкага адрачэння ад ранейшых трывалых сувязей.

10, 38. У старажытнасці асуджаны сам нёс крыж да месца свайго распяцця.

11, 10. Паводле іудзейскага веравучэння, перад прыйсцем Месіі павінен вярнуцца прарок Ілля, які і абвесціць гэта. Таму і па сённяшні дзень іудзеі, святкуючы Пасху, пакідаюць для Іллі вольнае месца за сталом і наліваюць келіх віна для яго. Ісус якраз і называе тут Іаана гэтым Божым Пасланцом.

11, 11. Іаан Хрысціцель, нагадваючы людзям пра пагрозу пагібелі і знішчэння і абвяшчаючы прыйсце Хрыста, тым самым выступаў як найвялікшы з людзей, што жылі перад ім. Але патрэбны былі Ісус, галгофская смерць на крыжы, каб адкрылася ўся веліч Божай любові да людзей — Добрая Навіна. Аднак Іаан загінуў раней, не спазнаўшы хрысціянства, таму і «найменшы ў Нябесным Царстве большы за яго».

11, 16—19. Выдаючы Іаанаў аскетызм за вар'яцтва, а Ісусаву прыязнасць, таварыскасць за распушчанасць, людзі нагадваюць свавольных дзяцей, якія робяць усё насуперак. Але ўся праўда адкрываецца ў канчатковым выніку.

11, 21. Харазін — горад, што, відаць, знаходзіўся ў гадзіне дарогі на поўнач ад Капернаума. Віфсаіда — рыбацкае паселішча на заходнім беразе Іярдана, пры яго ўпадзенні з паўночнага боку Тыверыядскага возера.

11, 29—30. Іудзеі называлі закон, запаведзі ярмом, што стрымлівае людзей. Да таго ж, трэба мець на ўвазе, што ў Палесціне ў тыя часы ярмо рабілі з дрэва канкрэтна для пэўнага вала. Трэба было неаднаразова прымерваць ярмо ў часе вырабу, каб яно не націрала шыю. Паводле легенды, Ісус рабіў найлепшыя ёрмы ў Галілеі. Адсюль і гэты вобраз: ноша, што ўскладзена ў любові і дзеля любові,— лёгкая.

**Пераклад і каментарыі**
**Анатоля КЛЫШКІ**

# Жыццё Таварыства

Прайшоў IV сумесны пленум Рэспубліканскага савета Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры і Дзяржбуда БССР. Разглядаліся задачы арганізацый, адказных за захаванне і выкарыстанне гісторыка-культурнай спадчыны пры рэканструкцыі і развіцці гарадоў і вёсак рэспублікі. З дакладам на пленуме выступіў член прэзідыума Рэспубліканскага савета Таварыства, намеснік старшыні Дзяржбуда БССР Л. В. Маскалевіч.

* * *

Для паляпшэння прапаганды гісторыка-культурнай спадчыны, выкарыстання помнікаў у патрыятычным, інтэрнацыянальным і эстэтычным выхаванні працоўных пры абласных і Мінскім гарадскім саветах Таварыства створана Бюро прапаганды ведаў аб помніках гісторыі і культуры. Бюро арганізуе лекцыі на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, навучальных установах, школах рэспублікі; ствараe народныя універсітэты і факультэты; праводзіць экскурсіі, выстаўкі; выдае інфармацыйную літаратуру па прапагандзе помнікаў; наладжвае шэфскія і дабрачынныя мерапрыемствы для збору сродкаў на рэстаўрацыю і рамонт помнікаў і інш. Бюро дзейнічае на гаспадарчым разліку.

* * *

На пасяджэнні навукова-метадычнага савета разгледжана сумесная работа Віцебскага абласнога аддзялення Таварыства і краязнаўчых аб'яднанняў моладзі. Унесены прапановы па ўвекавечанню і выкарыстанню помнікаў і памятных мясцін, звязаных з гісторыяй кнігадрукавання на Беларусі. Асаблівая ўвага звернута на павышэнне ўзроўню і якасці прапаганды гісторыка-культурнай спадчыны ў сувязі са стварэннем Бюро прапаганды ведаў аб помніках. Абмеркаваны планы работы навукова-метадычнага савета і секцый пры прэзідыуме Рэспубліканскага савета Таварыства на 1990 г., а таксама пытанне аб пераходзе арганізацый Таварыства на новыя формы гаспадарання.

Прэзідыумам Рэспубліканскага савета падведзены вынікі прапагандысцкай, арганізацыйна-масавай і фінансава-гаспадарчай дзейнасці арганізацый Таварыства за 1989 г., зацверджаны план работы на 1990 г.

Рэспубліканскі савет падвёў вынікі аперацыі «Імя на абеліску» па пошуку і ўвекавечанню імён савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў гады вайны. Адзначана недастатковая сумесная работа аддзяленняў Таварыства, камітэтаў камсамола і ваенкаматаў. Прапанавана працягваць пошук невядомых імён абаронцаў Радзімы.

# У Фондзе культуры

Для захавання і развіцця народных традыцый і промыслаў татар пры Мінскім гарадскім аддзяленні Савецкага фонду культуры створана грамадска-культурнае аб'яднанне «Аль-Кітаб». Яно прымае ў свае члены людзей розных нацыянальнасцей — усіх, хто неабыякавы да ажыццяўлення праграмы новай арганізацыі.

* * *

Сёлета ў Парыжы ў штаб-кватэры ЮНЕСКА ў рамках мерапрыемстваў Сусветнага дзесяцігоддзя развіцця культуры адбудзецца цырымонія святкавання 500-гадовага юбілею Францыска Скарыны. У календары гадавін гістарычных падзей (1990—1991 гг.) будзе паведамленне і пра юбілей нашага земляка.

У год святкавання юбілею Скарыны бюсты першадрукара і мемарыяльныя дошкі будуць устаноўлены ў Чэхаславакіі, Польшчы, Італіі. Зараз беларускія скульптары і архітэктары рыхтуюць свае праекты помніка Францыску Скарыне ў Мінску. Завяршыўся другі тур рэспубліканскага конкурсу. Па выніках папярэдняга тура першая прэмія не была прысуджана нікому, нягледзячы на тое, што па колькасці работ (21 праект) і па ўзроўню мастацкага выканання гэта быў самы прадстаўнічы конкурс. Да работ прад'яўляюцца вялікія патрабаванні, бо яны павінны ўвекавечыць вобраз беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара, асветніка, вучонага, мысліцеля і пісьменніка, перакладчыка і мастака-графіка эпохі Адраджэння.

* * *

Вернісаж у Верхнім горадзе стаў з'явай у культурным жыцці Мінска і рэспублікі. У экспазіцыі пад назвай «Панарама» дэманстравалася вялікая колькасць работ прадстаўнікоў нонканфармісцкага мастацтва. На працягу месяца з выстаўкай, якую арганізавалі Беларускі фонд культуры, ЦК ЛКСМБ і Саюз мастакоў БССР, пазнаёміліся сотні мінчан і гасцей горада.

Завяршыў дэманстрацыю выстаўкі аўкцыён. Частку работ набылі прафесійныя мастакі і аматары выяўленчага мастацтва, частка была падрыхтавана да паказу на новай выстаўцы, якую ўдзельнікам «Панарамы» прапанавалі разгарнуць у Варшаве польскія мастацтвазнаўцы. 4610 руб., сабраных у час правядзення выстаўкі і аўкцыёну, пералічаны на рахунак нумар 702 Беларускага фонду культуры — на стварэнне карціннай галерэі. Размесціцца яна на першым паверсе будынка, дзе адбыўся вернісаж. У гэтым доме па вуліцы Гандлёвай, пабудаваным яшчэ ў XIX ст., пасля рэканструкцыі размесціцца Беларускі фонд культуры.

* * *

Адрадзіць абрад продкаў — такую мэту паставіў перад сабой арганізатар вечара-памінання «Дзяды» Беларускі фонд культуры.

У Мінску, пад высокімі скляпеннямі былога касцёла, цяпер Дома кіно, успаміналі беларусы сваіх продкаў — Францыска Скарыну, Ефрасінню Полацкую, Кастуся Каліноўскага, Янку Купалу... Іх партрэты ўпрыгожвалі сцены старажытнага будынка. На памінальным стале гарэлі свечы, стаяла традыцыйная куцця, на льняным ручніку ляжаў бохан чорнага хлеба...

Цяжка адраджаць народныя абрады ў горадзе. Але ж яны аднаўляюцца. У Мінску ўжо не раз ладзілі Каляды, гуканне Вясны, Купалле. Вечар у Доме кіно зноў яскрава пацвердзіў сумяшчальнасць абрадаў мінулага з рэаліямі сённяшняга дня.

* * *

Вывучэнне старажытнага воднага шляху «з варагаў у грэкі» — адна з доўгатэрміновых праграм дзейнасці Савецкага фонду культуры і яго Беларускага рэспубліканскага аддзялення. І не толькі на паперы. Па водах роднага Нёмана праплылі ўдзельнікі ўсесаюзнай комплекснай навукова-спартыўнай экспедыцыі «Нёва». Арганізаваў яе актывіст Беларускага фонду культуры выкладчык Беларускага політэхнічнага інстытута У. М. Кісялёў.

Студэнты, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый у час падарожжа шукалі дакументальныя сведчанні варажскіх гандлёвых сувязей з паўднёвымі народамі, вывучалі экалагічны стан роднага краю.

Прэзідыум Геаграфічнага таварыства Акадэміі навук СССР узнагародзіў юбілейным медалём імя М. М. Пржавальскага шлюпачны экіпаж Беларускага політэхнічнага інстытута «Нёва — Нёман — 89» усесаюзнай экспедыцыі «Нева», а яго кіраўніка У. М. Кісялёва — Ганаровай граматай.

* * *

Міністэрства культуры БССР, Дзяржбуд рэспублікі, Мінгарвыканком, Саюз архітэктараў БССР, Саюз мастакоў БССР і Беларускі фонд культуры ў 1989 г. аб'явілі адкрыты рэспубліканскі конкурс на лепшы праект помніка ахвярам масавых рэпрэсій 1937—1941 гг. у лясным масіве Курапаты. Правядзіцца конкурс у два туры. Мэта першага тура — знайсці дакладны вобраз-сімвал, які б увасабляў людскі боль і памяць па бязвінных ахвярах сталіншчыны не толькі ў гэтым канкрэтным месцы, але і ў незлічоных курапатах, раскіданых па ўсёй нашай краіне. У задачу другога тура ўключана не толькі распрацоўка аб'ёмнага вырашэння мемарыялу, але і добраўпарадкаванне ляснога масіву.

Завершыцца конкурс 30 снежня 1990 г.

Самы актыўны ўдзел не толькі ў абмеркаванні работ, але і ва ўзвядзенні мемарыяльнага комплексу павінна прыняць грамадскасць. Спецыяльна для збору сродкаў на помнік у Курапатах Мінскім гарадскім аддзяленнем Савецкага фонду культуры адкрыты рахунак нумар 702903 у Белжылсацбанку г. Мінска.

У мінулым годзе ў Курапатах праведзены эксгумацыя і крэмацыя астанкаў. Працэдура пахавання адбудзецца на тэрыторыі будучага комплексу ў час яго адкрыцця.

* * *

Адзін з вынікаў дэгуманізацыі грамадства, заняпаду культуры — цяперашні стан прыроды нашага краю. На дзесяцігоддзі страчаны ўрадлівыя землі, пакалечаны чалавечыя лёсы. Нясцерпны боль за сённяшні дзень і будучыню роднай Беларусі выказаны майстрамі выяўленчага мастацтва ў творах, якія сталі экспанатамі рэспубліканскай выстаўкі «Мастак і экалогія», разгорнутай у мінскім Палацы мастацтваў.

# *Сталіншчына — оргіі пачвар*

Лукашук А. М. Здзек. Мінск, бібліятэка часопіса «Маладосць», 1989.

Масавае знішчэнне савецкіх людзей па волі Сталіна і яго памагатых назаўсёды застанецца невылечным болем нашага грамадства. Аднак усенародная ўвага да гэтай трагічнай тэмы і па сённяшні дзень не атрымоўвала адпаведнага адлюстравання ў беларускай літаратуры — і навуковай, і мастацкай, і дакументальнай. Як ні крыўдна прызнацца, але пра каларадскага жука выдадзена непараўнальна больш артыкулаў, даследаванняў, брашур, чым пра Курапаты, катоўні НКУС і канцлагеры ГУЛАГа. Пасля дакументальнай аповесці Э. Ялугіна пра Цішку Гартнага кніга «Здзек» публіцыста Аляксандра Лукашука — другое кніжнае выданне на Беларусі, прысвечанае ахвярам так званых рэпрэсій канца 20-х — пачатку 50-х гадоў. Кажу «так званых», бо слова «рэпрэсіі» — наўмысны эўфемізм, моцна памякчанае, несуадноснае з трагедыяй краіны акрэсленне. «Рэпрэсіі» перакладаюцца на нашу мову як «прымус», «падаўленне».

Можна пагадзіцца, што меры падаўлення іншадумцаў мелі месца ў гады застою, але сталінскія часы — безумоўны палітычны генацыд, ахвярамі якога сталіся дзесяткі мільёнаў людзей. Пакуль што афіцыйныя органы не апублікавалі агульнай колькасці замардаваных, і ўжо гэта сведчыць пра тое, што дзяржава не спяшаецца прыняць на сябе адказнасць за дзяржаўныя злачынствы сталінскага кіраўніцтва. I на дзень сённяшні не створаны гаранты дэмакратычных свабод, а значыць, і правоў на жыццё. Таму магчымымі сталі, напрыклад, зверскія забойствы мірных грамадзян у Тбілісі.

У менш жахлівых формах сталінскі светапогляд выказаў сябе пазалетась на Дзяды ў Мінску, калі міліцыя старанна гасіла жаданне шматтысячнай дэманстрацыі вольна ўшанаваць памяць пакутнікаў савецкага таталітарызму. Гэты ганебны рэцыдыў сталіншчыны (а можа — неасталінізму?) выявіў глыбокія карані з'явы ў псіхалогіі кіруючых колаў рэспублікі, адпаведны сацыяльны грунт, набыты за дзесяцігоддзі апаратыўны і стратэгічны вопыт падаўлення «несанкцыянаванай» думкі. Стратэгічная мэта сталіншчыны — стварэнне атмасферы гвалту, хлусні і татальнай боязі. Гэтыя тры кампаненты былі выпрацаваны ў нкусаўскіх сутарэннях у 30-я гады.

Кніга «Здзек» пралівае прамень святла на гэты працэс і на некаторыя жахлівыя таямніцы генацыду, зведанага насельніцтвам Беларусі ў векапомныя часы панавання «вялікага кормчага» і ягоных хаўруснікаў. Найбольшая ўвага ў кнізе — лёсам буйных дзяржаўных і партыйных дзеячаў рэспублікі — М. Галадзеда, Е. Убарэвіча, В. Шаранговіча, А. Чарвякова. Аўтар выкарыстаў усе даступныя яму дакументы, мемуары, успаміны сведкаў, дачок Галадзеда і Шаранговіча, стэнаграмы судовых працэсаў «над ворагамі народу». Гэтыя працэсы, пастаўленыя па сцэнарыях Вышынскага, здзіўляюць вар'яцкім саманагаворам ахвяр. Тлумачэнні такіх учынкаў падсудных даў вядомы знаўца сталінскай эпохі гісторык Рой Мядзведзеў. Ён гаворыць: «Абвінавачаныя праходзілі праз усе віды фізічнага і маральнага насілля. Вытрымаць іх немагчыма. Гэта не прыкмета слабасці чалавека. Тэхніка і тэхналогія насілля развіваюцца хутчэй, чым наша. здольнасць супраціўляцца ёй. Я магу прывесці прыклады, як людзі па году, па два трымаліся, выстойвалі па 20—30 сеансаў фізічных катаванняў, а потым ламаліся на маральным здзеку, як, скажам, Касіёр. Жалезны чалавек, ён нічога не падпісваў. Тады ўзялі яго 16-гадовую дачку і сказалі: «Не падпішаш — згвалцім». Ён не падпісаў. Яе згвалцілі на яго вачах. Пасля гэтага ён згадзіўся на ўсё, каб толькі адпусцілі дачку на волю. Яе выпусцілі, і яна кінулася пад цягнік. Ці, напрыклад, намеснік Арджанікідзе Паўлоўскі. Ён не паддаваўся ніякім катаванням. Тады яго кінулі ў карцэр з сотнямі пацукоў. Ён не змог уявіць сябе з'едзеным пацукамі і загрукаў у дзверы: «Сволачы, пішыце, што хочаце!»

I ягоды, яжовы, берманы, цанавы выдумлялі замахі на жыццё Сталіна, правартрацкісцкія блокі, польска-японскае шпіёнства, падрыў калгаснага ладу, нацдэмаўшчыну, нацыянал-фашызм. А партыйныя прапагандысты надрывалі горла на мітынгах і сходах, распальваючы нянавісць да вязняў ГУЛАГа — гэтых «крывавых сабак», «подлых бандытаў», «спрутаў», «вырадкаў роду чалавечага». А наёмныя паэты сістэмы, ратуючы ўласнае жыццё, асвячалі масавыя забойствы рыфмаваным словам, як, напрыклад, А. Зарыцкі: «Чакае смерць забойцаў-махляроў, радзімай і народам гандляроў!»

Горкі лёс кіраўнікоў Беларускай ССР быў, аднак, не больш трагічны, чым лёс простых людзей, якіх бязлітасна перамолваў механізм сталінскага будаўніцтва «светлай будучыні». Пра кіраўнікоў зараз болей пішуць, бо яны стаялі наверсе, іх ведалі, імёны трапілі ў стэнаграмы, іх, дарэчы, першымі і рэабілітавалі. Але знішчаныя і рэпрэсіраваныя члены партыі, пісьменнікі, мастакі, навукоўцы — гэта, можа, стотысячная частка ахвяр. Знішчальны тайфун, што меўся прывесці да рабскай пакоры ўсе народы «першай на свеце сацыялістычнай дзяржавы», нарастаў паступова. Спярша — белыя заложнікі, меншавікі, правыя эсэры, левыя эсэры, слуцкія паўстанцы, потым нэпманы, заможныя сяляне, іх «падпявалы», упартыя аднаасобнікі, услед — стваральнікі Беларускай Рэспублікі, нацыянальна свядомая інтэлігенцыя. Нарэшце — кожны, хто наіўна чакаў справядлівасці ад сталінскай таталітарнай сістэмы.

Ёсць у кнізе Лукашука нарыс «Лепшы сталінец Старобінскага раёна», дзе сацыяльная справядлівасць 30-х гадоў пададзена ў лічбах і фактах. Нашаму малаінфармаванаму сучасніку і ўявіць немагчыма, як беларуская вёска «разагнула прыгнутыя спіны, сагрэтыя чулым прыглядам» Сталіна. Самы жорсткі панскі прыгнёт блякне побач з гэтым «прыглядам». Захаваліся, дзякуй богу, дакументы з такімі паказальнымі сведчаннямі: «Сакратар Чырвонаазерскага сельсавета Мацукевіч і яго член Бердніковіч збілі калгасніцу Казлякевіч Сцепаніду і яе 12-гадовую дачку пры незаконнай канфіскацыі каровы... Старшыня калгаса «Вызваленне Беларусі» Дубіцкі збіў калгасніцу Ляшкевіч Аляксандру і яе бацьку, якія адмаўляліся аддаць незаконна канфіскаваны лён... Старшыня калгаса «Чырвоны Кастрычнік» Дзерыкаў збіў калгасніцу Лапкоўскую Ліду і Загароўскую Матрону...» I гэтак далей, з нарастаннем жорсткасці. Напрыклад, у вёсцы Пагост міліцыя разабрала хлеў у бяспашпартнай удавы, маці чатырох дзяцей, і забрала ўсё, што там было: салому, некалькі вазоў дроў, пакінуўшы ўдаву і малых на зіму без паліва. Любімым прыёмам здзеку начальства з сялян зрабілася наўмыснае завышэнне падаткаў, а потым сельсаветчыкі збіралі з гаспадароў нядоімкі, забіраючы не толькі коней і маладняк, але літаральна ўсё, што бачыла прагнае на спажыву вока: абрусы, посцілкі, сукно, аўчыны, цыбулю, бочкі, скрыні, падушкі, кашулі, хусткі, чобаты, ручнікі. Нарабаваныя такім чынам грошы ішлі на оргіі новых уладароў; напрыклад, толькі за адзін 1936 г. любанскае савецкае начальства прапіла 70 тыс. руб. I гэта ў той час, калі за рубель нядоімкі просты калгаснік стр974ваў гадаванага парсюка, ці пасаг, што паўжыцця збіраў для дачкі, ці апошні кажух, які спадабаўся ненажэрнаму сельсаветчыку. Зразумела, што ў спіс ахвяр сталіншчыны не трапілі тыя шматлікія сяляне, якіх жорсткасць улад, судоў, пракурораў давodзіла да самазабойства. Бо хіба магчыма вінаваціць Савецкую ўладу, калі нехта не вытрымаў штодзённага цкавання і, шукаючы лепшай долі, рынуўся галавой уніз з трыганаметрычнай вышкі?..

I па сёння гэты масіў злачынстваў, здзейсненых старшынямі і сакратарамі, застаецца недаследаваным. Праўда пра пакуты людзей ледзь-ледзь пачынае прабівацца з-пад напластаванняў хлусні і замоўчвання. Узрушанае перабудовай грамадства жадае дазнацца праўды, жахлівай праўды пра скалечаны лёс сваіх дзядоў і бацькоў, жудаснай праўды пра ўсе савецкія курапаты, каб не адсвяткавалі пачвары свой новы крывавы баль.

Сталіншчына яшчэ жыве, і яна здольная на энергічны клопат аб сваім бяспечным існаванні, пра што яскрава сведчыць наклад кніжкі «Здзек» — 2928 асобнікаў. Гэта значыць, што кніга не трапіла нават у палову бібліятэк Беларусі. Адзін экземпляр кнігі прыпадае на 3300 жыхароў рэспублікі. Спатрэбіцца чвэрць стагоддзя, каб чытач здолеў пазнаёміцца з гэтым, паводле слоў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, «летапісам народнай трагедыі». Ёсць пэўны здзек у мізэрным накладзе выдання, прысвечанага пакутам і пакутнікам зямлі беларускай.

**Кастусь ТАРАСАЎ**

# *Роздум пра талер і грош*

Спасский И. Г. **Русские ефимки.** Исследование и каталог. Изд. «Наука», Сибирское отделение, 1988.

У далёкім Новасібірску з'явілася кніга, якая, калі меркаваць па назве, павінна, здаецца, не вельмі цікавіць беларускага чытача.

Але манаграфія І. Г. Спаскага не толькі чарговы крок у сістэматызацыі сусветнага фонду яфімкаў «з прыкметамі» — так у Маскоўскай дзяржаве звалі талеры, што былі контрмаркіраваны штэмпелем маскоўскай капейкі і штэмпелем з датай «1655» і выкарыстоўваліся маскоўскім урадам да 1659 г.

Гэтыя манеты ў першую чаргу цесна звязаны з нашай гісторыяй, і невыпадкова па колькасці знойдзеных скарбаў з яфімкамі Беларусь стаіць адразу пасля Украіны. Амаль усе знаходкі зроблены на тэрыторыі дзеяння маскоўскіх войск у межах Рэчы Паспалітай (маюцца на ўвазе межы да 1654 г.). Каля мільёна яфімкаў было ўведзена ў грашовы абарот беларуска-украінскіх зямель, дзе яны ўтрымліваліся да першай чвэрці XVIII ст.

Кніга складаецца з невялікага гістарычнага нарыса, напісанага простаю, сакавітаю мовай, уласна каталога і, будзем шчырымі, самага зваблівага для калекцыянера-нумізмата — фотатабліц з выявамі манет.

Аўтар пачынае размову пра яфімкі з высвятлення ролі талера — буйной сярэбранай манеты Заходняй Еўропы — асноўнай крыніцы сыравіны для вырабу традыцыйных маскоўскіх драцяных капеечак. Не засталіся па-за ўвагай і фінансавыя аперацыі царскага ўрада, гульня на зніжэнні кошту талера ў трансакцыях з замежнымі купцамі. Як ні дзіўна, але гандлем былі задаволены абодва бакі: Маскоўская дзяржава і яе «госці» мелі карысць з нізкай ацэнкі срэбра ў талернай манеце, замежныя ж купцы атрымлівалі яшчэ больш за кошт танных па мерках еўрапейскага рынку тавараў. Калі вядомы савецкі гісторык Б. Ф. Поршнеў звярнуў увагу на розніцу ў кошце тавараў на рынках Заходняй Еўропы і Масковіі, то І. Г. Спаскі, як нумізмат, аналізуе фінансавы сэнс аперацый з талерамі.

На думку аўтара, адсутнасць дзяржаўнай манаполіі на перапрацоўку срэбра ў манеты прывяла да неверагоднага насычэння Мас-

коўскіх зямель скарбамі, бо купец дзеля прыбытку адразу жа перарабляў талеры ў капейкі і выпускаў у абарот, не зважаючы на дастатковую колькасць манет на рынку. Купецкая вольніца нечакана была спынена ў 1649 г.— усе талеры належала здаваць казне. Так у фінансавай сферы выявілася рэакцыя маскоўскіх улад на пачатак паўстання над кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. Па сутнасці, гэта была падрыхтоўка да магчымых ваенных дзеянняў, бо грошы — нерв вайны; весці закупкі фуражу і правіянту на тэрыторыі, дзе здаўна прывыклі да багатага набору «правільных» манет, у тым ліку і талераў, за сярэбраныя драцяныя капейкі было цяжка.

Наступная старонка гісторыі — рублі 1654 г., што біліся з назапашаных талераў. Ваенныя дзеянні маскоўскіх войск на землях Рэчы Паспалітай патрабавалі адпаведнага грашовага забеспячэння. Спроба ўвесці рубель і яго фракцыі ў выглядзе меднага палціnніка памерам з талер (у беларускіх дакументах «тарель» — гл. «Белоруссия в эпоху феодализма». Мінск, 1960, ч. 11) і сярэбранага абрубка талера — паўпалціны скончылася правалам: няпоўнавартасную манету (нават у рублі было на 64 капейкі срэбра замест 100) насельніцтва Украіны і Беларусі не прыняло; тэхналогія, недастаткова засвоеная і адладжаная, не дазволіла вырабляць значную колькасць новых манет. І тады, адзначае І. Г. Спаскі, у 1655 г. наспела новае вырашэнне праблемы: унутраны рынак быў запоўнены масай медных капеек, якія спачатку ішлі па курсу сярэбраных, а на грашовыя выдачы войскам, што знаходзіліся на далучаных да Маскоўскай дзяржавы ці часова акупіраваных землях, ішло срэбра, зэканомленае ў выніку гэтай аперацыі.

Аўтар заўважае, што на Украіне знаходкі медных капеек усё-такі сустракаюцца. Трэба дадаць, што і на тэрыторыі Беларусі адзначаны такія знаходкі, але колькасць іх таксама невялікая. Калі ўлічыць, што дабаўка аднаго мільёна талераў-яфімкаў парушыла, як слушна адзначае І. Г. Спаскі, баланс паміж талерам і дробнымі фракцыямі яго ў грашовым абароце, які яшчэ раней быў пагоршаны абмежаваннем вырабу дробных манет на манетных дварах Рэчы Паспалітай у другой чвэрці XVII ст., то можна зразумець, чаму на пачатку 60-х гадоў медная капейка ў Беларусі часам ішла нават па курсу білонавага соліда.

Мы з цікавасцю даведваемся, што ў выніку выкарыстання контрмаркіраваных талераў-яфімкаў, роўных 64 капейкам (столькі капеек «укладвалася» ў талер па вазе), стральцы страчвалі 20 працэнтаў свайго заробку, бо талер на рынку, прынамсі Украіны, ішоў па 50 капеек. Не зусім зразумелы механізм гэтай аперацыі, бо, як раней адзначыў аўтар, паміж 1635—1645 гг. срэбра талераў не сталі ачышчаць ад дамешкаў медзі ў спецыяльнай плаўцы і капейкі рабілі ў пробе талераў-сырцу. Дарэчы, А. С. Мельнікава лічыць, што пераход на спрошчаную тэхналогію плаўкі адбыўся трохі раней, і прымяркоўвае гэта да 1626 г. Пры вазе капейкі ў 0,45—0,46 г, а талера — 28,5—29,0 г ён павінен быў каштаваць прыблізна 64 капейкі (без уліку вытворчых выдаткаў на выраб капеек).

Паводле М. Гумоўскага, з 1628 па 1648 г. талер быў роўны 90 грошам, а ў 1660 г. яго кошт стаў 105 грошаў. М. Ф. Катляр падае кошт талера на Украіне ў 1630—1660 гг. роўным 82—90 грошам ці 60 капейкам, бо з шэрагу крыніц вядома, што адна капейка прыраўноўвалася да паўтараграшовіка. Курс талера, які прыводзяць абодва аўтары, значна большы за 75 грошаў, а гэта азначае, што талер не мог ісці па 50 капеек. З другога боку, калі падлічыць кошт яфімка ў грошах, ацэнка ў 96 грошаў ($64\times1{,}5$), здаецца, пераўзыходзіць сярэдні кошт талера. Калі зыходзіць з гэтага, дык маскоўскія служылыя людзі страчвалі на розніцы афіцыйнага і рыначнага курсаў толькі якіх 5—7 працэнтаў.

Як жа адбылося, што ў талеры 64 капейкі па вазе срэбра, а каштаваў ён на рынку 90 грошаў, калі тыя ж капейкі — 96 грошаў? Падобна, што рынак «лічыў» выдаткі на вытворчасць капеек: па-сапраўднаму яфімак мусіў каштаваць 64 капейкі мінус выдаткі на выраб гэтых 64 капеек.

Калі ж дапусціць, што Маскоўская дзяржава не атрымлівала ніякай выгады ад яфімкаў, разлічваючыся імі, неабвержным стане, што контрмаркіраванне — палітычная, а не эканамічная акцыя. Тут можна прыгадаць, што дзяржава ўжо атрымала прыбытак на розніцы курсаў паміж талерам, які набылі з «прывозу» за грашы, і талерам-яфімкам, нават калі яго аддаць за сапраўдны кошт у 60 капеек. Можа, таму і адмовіліся ў 1659 г. ад яфімкаў «з прыкметамі» і перайшлі да выплат проста яфімкамі.

Малаверагодна, што на Украіне можна было набываць талеры па «прымусоваму» кошту ў 50 капеек. Хутчэй наадварот, іншаземныя купцы нарыхтоўвалі на Украіне маскоўскія капейкі і завозілі іх зноў у Маскоўскую дзяржаву: вядома, што ў 1671—1672 гг. у Архангельск было завезена на замежных караблях 18 тысяч рублёў капейкамі.

І. Г. Спаскі трапна заўважыў, што «сукупнасць уласных і набытых» прыкмет робіць яфімкі аднолькава цікавымі для заходнееўрапейскай і рускай нумізматыкі. Ролю яфімкаў у раскрыцці працэсаў перамяшчэння манетнага срэбра можна параўнаць з выкарыстаннем мечаных атамаў пры вывучэнні хімічных працэсаў ці з акальцоўкай птахаў пры вывучэнні іх міграцыі. Аўтар прасачыў шлях контрмаркіраванага ў Маскве талера: Заходняя Еўропа — Маскоўская дзяржава — Рэч Паспалітая — Заходняя Еўропа. Зразумела, поўнае кола зрабілі далёка не ўсе яфімкі, але асобныя такія выпадкі адзначаны. У выніку аналізу 1800 талераў, якія ўвайшлі ў каталог, высветлена, што большая частка манет адносіцца да Нідэрландскай рэспублікі, потым ідуць Ніжняя Саксонія і Іспанскія Нідэрланды. І. Г. Спаскі знайшоў выдатны прыём, каб вылучыць раён «забору» талераў у Заходняй Еўропе на фоне агульнаеўрапейскага грашовага абароту. Хранаалагічны аналіз яфімкаў па рэгіёнах дазволіў вылучыць групы з вялікай доляй навейшых (1649—1655 гг.) манет.

Пры амаль поўнай адсутнасці айчынных даведнікаў аб талернай манеце цяжка пераболышыць значэнне манетнага каталога. Ён вядзе чытача ў малавядомы для неспецыяліста свет мастацтва манетнага штэмпеля. Можна сказаць, што савецкі чытач атрымаў магчымасць «памацаць» дробную пластыку Заходняй Еўропы канца XVI — першай палові XVII ст.

Адметная рыса кнігі — выкарыстанне замежных музейных і прыватных збораў. Аўтар добра ведае сітуацыю на аўкцыённых рынках Заходняй Еўропы і Амерыкі; у значнай ступені гэта тлумачыцца непасрэднымі кантактамі з замежнымі даследчыкамі.

Некалькі слоў пра выдавецкія вартасці кнігі. Нельга не адзначыць выдатную якасць фотаздымкаў, але цяжка ўтрымацца, каб тут жа не заўважыць, што выкананы яны на звычайнай танюткай афсетнай паперы. Можна зразумець жаданне выдавецтва максімальна выкарыстаць плошчу кніжнай старонкі, але чытачу зручней працаваць з апісаннем манет, якое было б зроблена ў выглядзе табліцы з асобнымі графамі на кожны элемент апісання. Толькі камерцыйным пралікам выдавецтва можна тлумачыць тыраж у 11 тысяч, бо кніга доктара гістарычных навук І. Г. Спаскага выкліча, на мой погляд, цікавасць значна большага кола чытачоў — аматараў даўніны.

**Іван СІНЧУК**

## *Резюме*

**«Воспитывать историей»**— так называется «круглый стол», в котором принимают участие известные белорусские писатели и историки и авторы писем, приходящих на адрес журнала и телевизионной программы «Наследие». Забвение тысячелетней истории белорусского народа, национальный нигилизм и отречение от родного языка, от своих корней — все это стало основной темой разговора.

Созвучны проблемам, высказанным участниками «круглого стола», писательские заметки **Алеся Петрашкевича «...До основанья, а затем...»**, публикуемые в рубрике **«Народ, история, культура»**. **Вадим Круталевич** в статье **«Рижский мирный договор»** анализирует общественно-политическую ситуацию в Советской России накануне подписания договора с Польшей в 1921 г. и причины, которые привели к разделу Белоруссии. Обороне Могилева в самом начале Великой Отечественной войны посвящен материал **«Памятник на Буйничком поле»**.

Под рубрикой **«Возвращается к читателю»** помещены публицистические выступления **Янки Купалы 1919—1920 гг.**, публикация которых начата в первом номере журнала. Напоминаем, что эти статьи не печатались со времени их первой публикации. Современные белорусские исторические поэзия и проза представлены в номере стихотворениями **Ирины Богданович** и **Людмилы Павликовой**, а также отрывком из романа **Леонида Дайнеки «Железные желуди»**, в основу которого положены события середины XII ст.— создание Великого княжества Литовского.

В разделе **«Исследования, мнения, гипотезы»** публикуется материал **Вячеслава Ракицкого «Нужен ли театр исторической драмы?»**.

Документальным отражением сталинской эпохи можно назвать статью **Р. Герасимовича и Н. Ивановой «Смилуйтесь...»**, которой редакция открывает новую рубрику **«Документы и люди»**.

Под рубрикой **«Силуэты предков»** печатаются страницы **«Полоцкой летописи»**, повествующей о событиях XII ст., в переводе и с предисловием **Вячеслава Чемерицкого**. В центре небольшого очерка **Виктора Чаропки «Князь, воитель, монах»**— образ сына Миндовга, одного из великих князей Великого княжества Литовского Войшалка. Несомненно, вызовет интерес у читателя эта противоречивая фигура — государственного деятеля, но вместе с тем богобоязненного монаха, паломника, основателя Лавришевского монастыря.

Редакция продолжает публикацию **«Нового Завета»**— крупнейшего памятника мировой культуры — в переводе на белорусский язык **Анатоля Клышки**.

Завершается номер рецензиями **Кастуся Тарасова** на новую книгу **А. М. Лукашука «Издевательство»** и **Ивана Синчука** на исследование **И. Г. Спасского «Русские ефимки»**, а также информацией о работе Белорусского фонда культуры и Общества охраны памятников истории и культуры Белоруссии.

## SUMMARY

**"To bring up by history"**, this is the topic of a round-table talk, where participate famous Byelorussian writers, historians and authors of letters that are received by the magazine and TV program "Heritage". The oblivion of thousand year old history of the Byelorussian people, national nihilism and renunciation of the own language, of national roots — that became the main subject of the talk.

Constant with the problems, expressed by the participants of round-table talk, are the notes of writer **Ales Petrashkevich "...To foundation, and then..."**, published under the heading **"People, history, culture"**. **Vadim Krutalevich** in the article **"Riga peace treaty"** analizes the social and political situation in the Soviet Russia on the eve of signing the treaty with Poland in 1921

and the motives that caused the partition of Byelorussia. The article "**Monument on the Buinitsky field**" is dedicated to the defence of Mogilev in the years of the Great Patriotic war.

Under the heading "**Returns to reader**" the publicistic speeches of **Yanka Kupala** of 1919—1920 are placed. We started their publication in the first issue of the magazine. We remind you that they were not published since the time of their first publication. Modern Byelorussian historical poetry and prose are represented in the issue with the verses by **Irina Bogdanovich** and **Ludmila Pavlikova**, and also with the extract from the novel by **Leonid Daineka "Iron acorns"**, based on the events of the middle of the XIII c.— the creation of the Great Lithuanian Principality.

In the section "Researches, opinions, hypotheses" the article by **Viacheslav Rakitsky "Whether we need the Theatre of historical drama?"** is published.

The article **by R. Gerasimovich** and **N. Ivanova "Have mercy..."**, with which the editorial board opens the new section "**Documents and people**", can be considered as documentary reflection of Stalin epoch.

Under the heading "**Silhouettes of ancestors**" the pages of "**Polotsk chronicals**", that tell about the events of the XII c., translated and furnished with a preface by **Viacheslav Chemeritsky**, are published. In the center of the essay by **Victor Charopka "Prince, fighter and monk"** is the image of the son of Mindovg, one of the Great Princes of the Great Lithuanian Principality — Voishalka. This contradictory figure of stateman and also God-fearing monk, pilgrim, founder of Lavrievsky monastery, will no doubt cause the interest of the readers.

The editorial board continues the publication of the "**New Precept**" — one of the greatest monuments of the world culture, translated into Byelorussian **by Anatol Klishka**.

The issue ends with the review by **Kastus Tarasov** of new book by **A. M. Lukashuk "Humiliation"**, the review by **Ivan Sinchuk** of researches by **I. G. Spassky "Russian jefimki"**, and also with the information about the work of the Byelorussian Fund of Culture and the Society for Protecting Monuments of History and Culture of Byelorussia.



На 1-й старонцы вокладкі: **Ф. Янушкевіч.** Шкаляр з Полацка—Францішак Скарына. Фрагмент. Алей, 1987 г.

На 4-й старонцы вокладкі: пацеркі X—XI ст. з паселішча на Менцы (з калекцыі С. П. Яращчука).


**Мастацкі рэдактар**
**У. Я. КРУКОЎСКІ.**

**Карэктар**
**Б. С. КОГАН.**

**Тэхнічны рэдактар**
**З. М. МІКІШЧАНКА.**

Адрас рэдакцыі: 220029, Мінск, Старажоўская, 5. Тэл. 34-24-54.

Здадзена ў набор 22.01.90. Падпісана да друку 06.03.90. АТ 00020. Фармат 70×100 1/16. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 5,63. Ум. фарб. адб. 6,75. Улік-выд. арк. 8,63. Тыраж 10 528 экз. Зак. 581. Цана 60 к.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Выходзіць штоквартальна
Выдавецтва «Полымя»
Мінск

**«НАСЛЕДИЕ»**
**(на белорусском языке)**